# Białoruskie Towarzystwo Historyczne





**Skład:** Adam Pawłowski
**Korekta:** Witalis Łuba
**Wydawca:** Białoruskie Towarzystwo Historyczne
**Adres redakcji:** 15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, tel. 85 744 61 11
**E-mail:** ebma@interia.pl
**Strona internetowa:** http://bzh.kamunikat.org
**Nakład:** 500 egz.

Zrealizowano:
- dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji,
- przy wsparciu finansowym Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego w Białymstoku,
- przy pomocy finansowej Prezydenta Miasta Białegostoku.










*Na okładce*: Sergiusz Dubiński (z prawej) wśród uczestników badań archeologicznych kurhanów koło wsi Cecele w 1911 roku (I strona); plan terenu badań archeologicznych okolic wsi Cecele (IV strona).

# Spis treści

## artykuły

## materiały źródłowe



## artykuły recenzyjne



## in memoriam

## Contents

### academic papers

**Наталля Сліж**
(Гродна)

## Тэстамент берасцейскага бурмістра Станіслава Баброўскага, 1639 г.*

Тэстаменты мяшчан даўно прыцягваюць увагу даследчыкаў. Гістарыяграфія прадстаўлена працамі, якія ахопліваюць розныя аспекты ў вывучэнні дадзенага віду крыніц[1]. Дакументы апошняй волі берасцейскіх мяшчан фрагментарна разглядаліся ў гістарыяграфіі[2]. Асобныя тэстаменты былі надрукаваны[3]. Аднак на сённяшні дзень тэма так і застаецца маладаследаванай.

Тэстаменты адносяцца да прыватна-прававых дакументаў. У Вялікім Княстве Літоўскім яны рэгуляваліся судовай практыкай і Статутамі. Першыя артыкулы па складанню тэстаментаў былі ўключаны ў Статут 1529 г. Асобны раздзел, прысвечаны гэтаму віду дакумента, з'явіўся спачатку ў Статуце 1566 г. (раздз. 8), а пасля, у дапрацаваным варыянце, — у Статуце 1588 г. (раздз. 9)[4]. Аднак у гарадах з магдэ-

* Даследаванне выканана ў рамках праекта *Каталогі тэстаментаў жыхароў Кароны і Вялікага Княства Літоўскага да 1795 года*.

1 Гістарыяграфію па дадзенай тэматыцы гл.: Н. Білоус, *Тестаменти киян середини XVI — першої половини XVII століття*, Київ 2011, с. 9-17.

2 W. Zielecka-Mikołajczyk, *Prawosławni i unici w Rzeczypospolitej XVI-XVIII wieku wobec życia i śmierci w świetle testamentów*, Warszawa 2012, s. 46, 318-319, 322-324, 329.

3 У XIX ст. былі надрукаваны тэстаменты праваслаўных мяшчан у: *Акты, издаваемые комиссиею, высочайше учрежденною для разбора древних актов в Вильне* (dalej: *АВАК*), т. 6: *Акты Брестского гродского суда (поточные). Акты брестского подкоморского суда. Акты Брестской магдебургии. Акты Кобринской магдебургии. Акты Каменецкой магдебургии*, Вильна 1872, с. 242, 264, 273, 280, 284-287, 368, 369, 305-307, 375 і інш.; *Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа*, т. 11 (1545-1823), *Документы быв. Брестского Симоновского монастыря. Документы и дела из архива Литовской духовной консистории*, Вильна 1890, с. 45-46, 52-53. Адзін з тэстаментаў за XVI ст. надрукаваны ў: *Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст. (з актавых кніг Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі)*, падрыхт. А. Ф. Аляксандрава, В. У. Бабкова, І. М. Бобер; Нац. гіст. архіў Беларусі, Мінск 2012, с. 146-148.

4 M. Mikuła, *Testament publiczny i prywatny w Statutach litewskich na tle praktyki prawnej*, [w:] *Prawo blisko człowieka. Z dziejów prawa rodzinnego i spadkowego*, red. M. Mikuła, Kraków 2008, s. 177-193; W. Zielecka-Mikołajczyk, *Prawosławni i unici w Rzeczypospolitej XVI-XVIII wieku wobec życia i śmierci w świetle testamentów*, Warszawa 2012, s. 31-35.

бургскім правам мяшчанскія тэстаменты складаліся па Вейхбільдзе (Ius municipale) і Саксонскім люстры (Speculum Saxonum)[5]. Апошні звод утрымліваў артыкулы па спадкаемстве, але не па тэстаментах, таму Вейхбільд быў асноўным прававым дакументам. Артыкул LXV вызначаў, што апошняя воля агалошвалася ў здаровым розуме, пры 7 сведках, сужэнцы і нашчадках. Тэстамент маглі засведчыць паўнавартасныя асобы, але не дзеці, жанчыны, глухія, нямыя, праклятыя, выгнаннікі. Тэстастар/тэстатарка мелі права размеркаваць маёмасць са згоды сужэнца і нашчадкаў[6]. Адносна сужэнца гэта дзейнічала, калі былі сумесныя ўладанні. У тэстаменце фіксаваліся дарэнні маёмасці, размеркаванне маёмасці, пазыкі.

Тэстаменты XVII ст. складаліся пад уплывам свайго часу і былі неабходным элементам прыгатавання да смерці. У сувязі з гэтым рэлігійны элемент прысутнічаў у дакументах[7]. Акрамя таго, гэты від прадстаўляе пісьмовую культуру мяшчанства і парадак вядзення справаводства ў канцылярыі магістрата[8].

Тэстаменты мяшчан з'яўляюцца крыніцай не толькі жыцця канкрэтнай асобы, але саслоўя і горада. У параўнанні з дакументамі бедных мяшчан дакументы эліты змяшчаюць значна больш інфармацыі. У гэтым плане тэстамент берасцейскага бурмістра Станіслава Бабpоўскага ўтрымлівае каштоўныя факты як з гісторыі гарадскіх ураднікаў, так і з гісторыі Берасця. Акрамя таго, да гэтага дакумента дадаецца яго рэалізацыя: увядзенне спадкаемцаў у валоданне маёмасцю нябожчыка, інвентары ўладанняў. Наяўнасць гэтых крыніц дазваляе прадставіць больш поўна сітуацыю з маёмасцю бурмістра.

Станіслаў Бабpоўскі, як бурмістр ад каталіцкай суполкі, быў абраны на пасаду 16 сакавіка 1637 г. разам з праваслаўным мешчанінам Ярашам Сарокам, а 10 сакавіка 1638 г. з праваслаўным Янам Андрэеўскім. Кандыдатуры зацвердзіў войт Казімір Тышкевіч[9]. У сувязі са

[5] Магістрацкія кнігі дазваляюць казаць, што лацінскай версіяй Вейхбільда і Саксонскага люстра карысталіся ў заходніх гарадах ВКЛ — Вільня, Коўна, Берасце, Гародня. Адносна іншых гарадоў ВКЛ патрабуецца даследаванне.

[6] N. Jaskerus, *Juris Municipalis Majdeburgensis Liber vulgo Weichbild nuncupatus ex vetustissimis exemplaribus vigilanti opera nuper latinitatis datus, summaque diligentia recognitus, adjunctis simul glossis et lextus interpretationibs ad id necessariis*, Cracoviae 1535, fol. XLVII-XLVIII.

[7] K. Wiszowata, *Testament jako źródło historyczne*, „Białostockie Teki Historycznie", 2009, t. 7, s. 25-38.

[8] A. Bartoszewicz, *Testament jako źródło do badań nad piśmiennością mieszczańską w późnym średniowieczu*, „Kwartalnik Historii Kultury Materialnej", 2011, nr 3-4, s. 293-302.

[9] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 23, 193.

сваімі абавязкамі прысутнічаў на пасяджэннях магістрата[10]. На пасаду бурмістра С. Бабро́ўскі патрапіў не выпадкова. Ён паспяхова займаўся гандлем, быў адукаваным чалавекам, валодаў як мінімум трыма мовамі — лацінскай, старабеларускай, польскай.

Тэстамент быў напісаны 4 студзеня 1639 г. і той жа дзень актыкаваны ў кнігі берасцейскага бурмістраўска-радзецкага суда (гл. дадатак 1). Усе тэстаменты заносіліся ў кнігі гэтага суда, а не вайтоўска-лаўніцкага. Інвентар начыння аптэкі быў складзены ўраднікамі 17 студзеня, а інвентары нерухомай маёмасці — 18 студзеня (гл. дадатак 2). Інфармацыя ва ўсіх дакументах не супярэчыць адно аднаму. Дадаткова тэстамент быў актыкаваны ў Метрыку ВКЛ. Выпіс быў занесены ў кнігі 11 лютага 1639 г.[11] Далёка не ўсе мяшчане маглі запісаць тэстамент у Метрыку ВКЛ. Але гэта не адзінкавы выпадак актыкацыі. У кнігах часам сустракаюцца дакументы апошняй волі віленскіх, ковенскіх, гарадзенскіх мяшчан.

Дакумент пачынаецца з тыповай фразы: „W Imie Przenaswiętszey Troycy Oyca i syna i ducha swię[teg]o stan sie wola Boża". Складзены быў ён па прычыне хваробы. Аднак тэстатар адзначыў, што дакумент напісаны ў свядомым стане. Душа даручалася Богу, а цела павінна была жонка пахаваць паводле хрысціянскага абраду ў езуіцкім касцёле ў Берасці[12]. На пахаванне прызначалася 200 злотых. Грошы жонка павінна была ўзяць з сумы за арэнду фальварка Казловічы, якую вінен магістрат. Дадаткова езуітам было запісана два свірны, якія былі пабудаваны на іх уладаннях[13]. Пасля смерці Бабро́ўскага берасцейскі магістрат увёў у валоданне свірнамі Гаспара Лаўкоўскага, рэктара берасцейскіх езуітаў[14]. Рэлігійная частка традыцыйная і даволі кароткая, змяшчае неабходныя і агульнапрынятыя фразы і распараджэнні аб пахаванні.

Асноўная ўвага ў тэстаменце была сканцэнтравана на размеркаванні маёмасці паміж спадчыннікамі. Але ў канцы агаворвалася, што пры ўмове выздараўлення ўся маёмасць вярталася да Бабро́ўскага. Зыходзячы з прадстаўленай інфармацыі ў дакументах бурмістра можна аднесці да заможнага мешчаніна. Пасля яго засталося два дамы на Рынку, аптэка, фальварак Дабровінскі, 3 агароды на вул. Ветраная,

[10] *АВАК*, т. 6, с. 270, 271, 278, 284, 300, 303, 305.

[11] НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 377-384.

[12] Езуіты ў Берасці пачалі сваю дзейнасць з 1620-х гг. Касцёл і кляштар былі пабудаваны ў цэнтры горада. Не захаваліся па прычыне пабудовы Брэсцкай крэпасці. Т. Блінова, *Брэсцкі езуіцкі калегіум*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 2, Мінск 1994, с. 100.

[13] НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 333-334.

[14] Тамсама, арк. 522-523.

6 свірнаў, 5 караблёў (тыпу скута), рухомыя рэчы (зброя, срэбра, лекі, віно і інш.), але наяўных грошай не было.

Сваю маёмасць бурмістр набыў дзякуючы сваёй працы аптэкара і купца. Гэтыя два заняткі былі звязаны паміж сабой. Баброўскі меў уласныя караблі і ездзіў гандляваць у Гданьск, які меў важнае значэнне ў балтыйскім гандлі[15]. Гданьск і Каралявец былі асноўнымі гарадамі ў Прусіі, з якімі гандлявалі мяшчане ВКЛ. Вывозілі ў Прусію прадукты харчавання і сыравіну, а прывозілі віны, прыправы, тканіну і інш.[16] Баброўскі меў магчымасць прывезці для аптэкі абсталяванне і лекі. Напрыклад, з Караляўца рэчы для аптэкі сабе прывёз гарадзенскі аптэкар і радца Ян Мерэеўскі (1600)[17]. Баброўскі супрацоўнічаў са сваім зяцем, люблінскім доктарам Янам Лаўэрманам, а партнёрам па гандлі быў Бернат Арагон. Бурмістр прасіў апошняга выплаціць пазыкі ў Гданьску, а таксама прывезці 3 000 дахоўкі з Гданьска на яго караблі.

Паспяховая гандлёвая дзейнасць дазволіла Баброўскаму мець кантакты са шляхтай. Сярод яго кліентаў быў крайчы ВКЛ і берасцейскі староста Гедыён Міхаіл Трызна (вінен 500 злотых за віно), берасцейскі падкаморы[18] (вінен 138 злотых за віно).

Баброўскі быў жанаты з Аленай Малішэўскай. У іх былі дзецi Ян, Фаўстын, Станіслаў і Агнешка. Станіслаў стаў манахам езуіцкага ордэна. Агнешка атрымала адукацыю, што было рэдкасцю для мяшчанак. Аб гэтым сведчыць яе ўласны подпіс у дакументах. Агнешка першы раз выйшла замуж за люблінскага радцу Яна Вазынскага. Другім мужам стаў люблінскі доктар Ян Лаўэрман (1613-1648)[19], сын радцы Давыда Лаўэрмана[20]. Іх заручылі пры бацьку жаніха, у прысутнасці

[15] M. Bogucka, *Gdańskie kontakty zbożowe w pierwszej połowie XVII wieku*, „Kwartalnik Historii Kultury Materialnej", 1969, nr 4, s. 711-718; Z. Romaniuk, *Kontakty handlowe miast podlaskich z Gdańskiem w XV w.*, [w:] *Małe miasta. Między tradycją a wyzwaniem przyszłości*, t. II, red. M. Zemło, Supraśl 2002, s. 69-81.

[16] З. Ю. Копысский, *Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.*, Минск 1966, с. 175, 188-190, 194, 219-225; Z. Guldon, L. Stępkowski, *Z dziejów handlu Rzeczypospolitej w XVI-XVIII wieku: studia i materiały*, Kielce 1980, s. 99-102; Z. Guldon, J. Wijaczka, *Związki handlowe ziem litewskich i białoruskich z Królewcem w świetle rejestrów celnych komory grodzieńskiej z lat 1600 i 1605*, „Komunikaty Warmińsko-Mazurskie", Olsztyn 1993, nr 1, s. 21-33; J. T. Kotilane, *Russia's Foreign Trade and Economic Expansion in the Seventeenth Century: Windows on the World*, Brill — Leiden — Boston 2005, p. 397, 436-437.

[17] Vilniaus universiteto bibliotekos Rankraščių skyrius, f. 4-A2106, l. 73v.

[18] У дакуменце не згадваецца імя і прозвішча падкаморыя.

[19] S. Kośmiński, *Słownik lekarzów polskich obejmujący oprócz krótkich życiorysów lekarzy polaków oraz cudzoziemców w Polsce osiadłych, dokładną bibliografią lekarską polską od czasów najdawniejszych aż do chwili obecnej*, Warszawa 1883, s. 265.

[20] Я. Лаўэрман атрымаў адукацыю ў галіне медыцыны і ў сваёй тытулатуры пісаўся як „доктар медыцыны".

апекуноў прызначаных ад люблінскага ўрада — Балтазара і Аляксандра Канопніцаў. Наступным чынам С. Бабpоўскі абяцаў у якасці пасагу даць 4 000 злотых і 5 000 у золаце і срэбры. Балтазар і Аляксандр Канопніцы павінны былі аддаць 3 000 злотых і 5 000 у золаце і срэбры, як гэта запісаў Ян Вазынскі. З агульнай сумы сужэнцы не атрымалі 2 000 злотых. Яе аддала маці Агнешкі 15 студзеня 1639 г.[21]

Спадчына была размеркавана наступным чынам. Алена Малішэўская атрымала палову фальварка Дабровінскі[22], 3 агароды на вул. Ветранай[23] (з іх выплаціць 30 злотых швагру Пятру Горычу, які стаў бернардынцам), 100 злотых з арэнды фальварка Казловічы, серабро, залаты ланцужок, хатнія рэчы, віно, свойскую жывёлу, застаўную сенажаць ад Карніловіча ў 100 злотых (з гэтых грошай павінна выплаціць пазыкі і чэлядзі). На частку Фаўстына прыйшліся палова новага дома на Рынку (разам з Янам быў абавязаны выплаціць грошы Алене), палова фальварка Дабровінскі, палова з 4 свірнаў на вул. Зароўскай, 4 кілімы, даламан і шапка. Ян атрымаў палову новага дома на Рынку, палову з 4 свірнаў на вул. Зароўскай, палову начыння аптэкі (да паўналецця гэтай часткай распараджаўся Ян Лаўэрман), дэлію і даламан. Станіславу былі вылучаны грошы — 500 злотых, бо ён стаў манахам. Агнешцы прызначаліся пасаг 4 067 злотых (большая яго частка была выдадзена), палова начыння аптэкі. Ёй былі выплачаны ўсе грошы ў адпаведнасці з воляй бацькі (1639)[24].

Асноўная ўвага ў дакуменце была сканцэнтравана на размеркаванні нерухомасці. Стан заможнасці Бабpоўскага дазваляў не апісваць у дэталях падзел рухомых рэчаў, як гэта часта рабілі маламаёмасныя мяшчане[25]. Такім чынам, багатая маёмасць была падзелена паміж усімі спадчыннікамі ў адпаведнасці з магдэбургскім правам. Асноўная нерухомасць перайшла сынам Яну і Фаўстыну, а Станіславу і Агнешцы грошы і рэчы. Жонка таксама атрымала забеспячэнне. Непаўналетнія дзеці — Ян і Фаўстын заставаліся пры ёй. На іх гадаванне прызначаліся грошы з пазыкі Булыгі. Алена Малішэўская на красавік 1640 г. ужо была замужам за Янам Фуніцкім. Берасцейскі магістрат выкупіў у яе застаўленыя Казловічы[26].

[21] НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 341-345.

[22] Берасцейскія ўлады ўвялі Алену ў валоданне фальваркам Дабровінскім і паловай дома на Рынку. За дом пазней павінны былі даць грошы яе сыны. НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 351-352.

[23] Незадоўга перад сваёй смерцю С. Бабpоўскі набыў з жонкай адзін з агародаў у Кацярыны Матфейчы за 10 злотых. НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 74-75.

[24] НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2, арк. 469-471.

[25] Напрыклад, гл. аб тэстаментах гарадзенскіх мяшчан: N. Sliž, *Testamenty mieszczan grodzieńskich w pierwszej połowie XVII w.*, „Kwartalnik Historii Kultury Materialnej", 2013, t. 61, z. 2, s. 305-316.

[26] *АВАК*, т. 6, с. 348-349.

У якасці апекуноў для жонкі і дзяцей прызначаліся наступныя асобы: Гедыён Міхаіл Трызна, ксёндз, рэферэндар і пісар ВКЛ Марцін Трызна, берасцейскі падстолі і падстароста Мікалай Табенскі, Бернат Арагон, Ян Малінерна, месцкі пісар Базыль Раповіч. Такі пералік апекуноў дадаткова сведчыць пра сувязі Бабroўскага са шляхецкім асяроддзем. Наяўнасць мяшчан у гэтым спісе сведчыць, што ў звычайных сітуацыях варта было разлічваць на іх дапамогу. Сведкамі пры складанні дакумента былі лентвойт Ян Кур'яновіч, бурмістр Ян Андрэеўскі, радца Лукаш Памаранскі, месцкі пісар Базыль Раповіч.

Інвентары дамоў, аптэкі і свірнаў значна дапаўняюць інфармацыю з тэстамента. Начынне аптэкі было апісана, каб увесці ў валоданне Агнешку і яе мужа. Інвентар падае даволі падрабязнае апісанне (гл. дадатак 2). У будынку знаходзіліся розныя жбаны, шкатулкі з зёлкамі, перагонны куб, патэльні, біклагі, шалі і інш. Акрамя таго былі два траўнікі і дзве лекарскія кнігі. З пераліку вынікае, што прадаваліся ў аптэцы лекавыя травы, парашкі, салодкія вырабы, спецыі, свечкі і інш.[27] Будынак аптэкі быў спалучаны з новым домам на Рынку.

Інвентары нерухомасці былі напісаны для таго, каб зафіксаваць стан маёмасці пасля смерці С. Баброўскага. Пасля дасягнення паўналецця сыны павінны былі атрымаць усё па рэестры. Бурмістр валодаў двума дамамі на Рынку. Найбольш верагодна, што ў старым доме ён жыў да пабудовы новага. Стары дом знаходзіўся каля крамаў, быў агароджаны (гл. дадатак 2). На тэрыторыі двара знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы, стары дом з белай ізбой, каморай і сенямі, а таксама з печкай для выпякання хлеба. У тыле быў пабудаваны невялікі новы дом. У пабудовах вокны і дзверы былі на завесах. Дзверы зачыняліся ўнутранымі замкамі, клямкамі ці зашчэпкамі. Гэта была тыповая гарадская пабудова.

Новы дом прадстаўляе значна большую цікавасць па сваёй планіроўцы і ўнутраным убранні (гл. дадатак 2). Ён быў пабудаваны з каменя, меў два паверхі. На першым паверсе ў мэтах бяспекі на вокнах былі краты. Усе вокны былі зроблены са шкла. З памяшканняў пералічваліся склеп, дольная ізба, сені, пераходнае памяшканне, сталовая ізба, вялікая ізба, алькер, маляваная ізба, камора. Дзверы былі на завесах з замкамі ці кручкамі. У вялікую ізбу вялі маляваныя дзверы. У доме былі рознага віду шафы: умураваныя шафы з шуфлядамі, умураваныя ў сцены пад вокнамі малыя шафы, вялікая шафа ў куце, маляваная шафка[28]. З іншай мэблі — зэдлік, лавы, сталы, столікі, стол

[27] Інвентар аптэкі быў надрукаваны, гл.: *АВАК*, т. 6, с. 317-318; В. П. Грицкевич, *С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины*, Минск 1987, с. 66-68.

[28] У дамах польскіх мяшчан тамсама былі розныя віды шафаў, як убудаваныя, так і стаячыя каля сцяны. Прызначаліся для посуду, кніг, вопраткі і іншых рэчаў.

з шуфлядамі, столік са скрыняй і замком, скрыня (у ёй была вопратка і зброя)[29], ложак (у маляванай ізбе)[30]. На жаль не згадваецца мэбля, якая была прывезна ці замоўлена ў мясцовых майстроў. Не выключана, што Бабро́ўскі прывозіў рэчы для дома з Гданьска. У вялікай ізбе быў рукамыйнік. На сценах вісела 21 вялікіх і малых намаляваных на палатне абразоў і 2 карціны[31]. Інвентар толькі згадвае наяўнасць абразоў, але не ўдакладняе ні выявы, ні паходжання. У вялікай ізбе ліхтар быў у выглядзе галавы аленя. У ім было 7 трубак для свечак[32]. З рухомых рэчаў згадваліся калаўрот, клавікорд[33], дэліі, даламан, зброя (мушкеты, пісталеты, ручніца, стрэльбы, бердыш і інш.). На тэрыторыі двара яшчэ знаходзіліся кухня, стайні і пякарня.

Інвентар гэтага дома сведчыць пра заможны стан Баброўскага, які не саступаў польскім купцам. Можна казаць, што пабудаваны ён быў з улікам тагачасных тэндэнцый у будаўніцтве і адпаведна абсталяваны. Унутры была даволі разнастайная мэбля. Акрамя таго, можна адзначыць пра мастацкі густ мешчаніна: у доме былі творы мастацтва і музычны інструмент. Гэта магла быць як даніна модзе, так і ўласнае захапленне бурмістра. Наяўнасць калаўрота сведчыла пра актуальнасць прадзення ў мяшчанскім асяроддзі. Зброя была штодзённай неабходнасці для мяшчан, асабліва для купцоў. Так як Баброўскі ездзіў на далёкія адлегласці, то баявы арсенал быў патрэбны. Паводле тэстамента ўсе рэчы павінны былі застацца ў гэтым доме. Варта адзначыць, што рэдка які інвентар так падрабязна падае апісанне дома. Далёка не кожны мешчанін мог сабе дазволіць такі побыт. Абмежаванасць крыніц не дазваляе параўнаць побыт С. Баброўскага з побытам іншых берасцейскіх мяшчан. Адзначым, што сярод выяўленых інвентароў гарадзенскіх дамоў падобных дамоў у той час не сустрэлася[34].

M. Bartkiewicz, *Odzież i wnętrza domów mieszczańskich w Polsce w drugiej połowie XVI i w XVII wieku*, Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk 1974, s. 33-36.

29 Скрыня вельмі распаўсюджана была ў мяшчанскім асяроддзі. Як правіла была зроблена з дрэва. M. Bartkiewicz, *Odzież i wnętrza domów mieszczańskich*..., s. 25-32.

30 Пра ложак адзначаны толькі колер — зялёны. Але з гэтага апісання не зразумела ці ён быў пафарбаваны, ці накрыты зялёным намётам.

31 У дамах польскіх мяшчан было таксама распаўсюджана вешаць вялікую колькасць абразоў і карцін. Яны былі як мясцовага паходжання, так і замежнага. M. Bartkiewicz, *Odzież i wnętrza domów mieszczańskich*..., s. 66-68.

32 Падобныя ліхтары былі папулярны сярод познаньскіх і люблінскіх мяшчан. M. Bartkiewicz, *Odzież i wnętrza domów mieszczańskich*..., s. 82.

33 Клавікорд у асноўным быў пры дварах, у мяшчанскім асяроддзі сустракаўся вельмі рэдка. M. Bartkiewicz, *Odzież i wnętrza domów mieszczańskich*..., s. 76-77.

34 Н. Сліж, *Гарадзенскія падворкі ў XVII ст.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI-XX ст.*, рэд. А. Ф. Смаленчук, Н. У. Сліж, Мінск 2011, с. 222-254.

Чатыры свірны знаходзіліся недалёка ад Буга і былі прызначаны для захавання караблёў і прыналежных да іх рэчаў. Іх месцапалажэнне было абсалютна мэтазгодным. Карабельшчык Каспер кіраваў гэтай часткай гаспадаркі Бабро ўскага. Ён прысутнічаў пры інвентарызацыі. У бурмістра было чатыры караблі, і пяты быў толькі пабудаваны. Гэта сведчыць, што гандляваў Бабро ўскі на сур'ёзным узроўні, перавозіў вялікія партыі тавару. Гандаль у яго атрымліваўся даволі паспяхова, калі ён змог развівацца ў гэтым кірунку.

Зыходзячы з дакументаў можна сцвярджаць, што маёмасць была пакінута ў добрым стане. Не менш важна, што яна была размеркавана паміж спадкаемцамі мірным шляхам, без судовых працэсаў і згодна з воляй Бабро ўскага. Асноўны падзел і выплаты адбыліся ў першы месяц пасля смерці бурмістра. Гэта сведчыць пра ўменне дамаўляцца ўнутры сям'і і пра дастаткова добрыя адносіны паміж спадчыннікамі.

Такім чынам, тэстамент С. Бабро ўскага і інвентары прадстаўляюць свет заможнага берасцейскага ўрадніка. Дзякуючы сваёй працы і ўласным здольнасцям Бабро ўскі скончыў сваё жыццё як паспяховая асоба. Хаця пра гэта можна меркаваць толькі па вонкавых выніках, бо ўнутраныя тэндэнцыі не заўсёды адлюстраваліся ў крыніцах. Аднак бурмістр здолеў дасягнуць высокага ўзроўню ў прафесійнай, сацыяльнай, грамадскай, матэрыяльнай сферах. Пасля сябе ён пакінуў чацвярых дзяцей: тры сыны і дачку. Адзін з сыноў стаў манахам, дачка добра была выдадзена замуж, а два сыны павінны былі стаць спадчыннікамі і працягваць справу бацькі. Прафесійная дзейнасць дала магчымасць забяспечыць дабрабыт для сябе і сям'і, быць абраным на самую высокую пасаду ў гарадской сістэме кіравання — бурмістра, мець статус і сувязі ў мяшчанскім, шляхецкім асяроддзі ў ВКЛ і за мяжой.

## Дадаткі

Дакументы напісаны на польскай мове XVII ст., якая выкарыстоўвалася ў ВКЛ. Першыя словы і часам літары ў назвах дакументаў напісаны чырвонымі чарніламі. Гэта адметнасць прысутнічае як элемент аздобы амаль ва ўсіх дакументах гэтай кнігі. Яна сведчыць пра заможны стан Берасця ў той час. Падобных элементаў не вынайдзена ў захаваўшыхся магістрацкіх кнігах гарадоў ВКЛ. Для вылучэння гэтай адметнасці літары пазначаны тлустым шрыфтам. Пры друку захаваны прынцып палітарнай перадачы. Тэксты прадстаўлены з тагачаснымі адметнасцямі мовы.

*Дадатак 1.*

**Тэстамент берасцейскага бурмістра Станіслава Бабро ўскага, 1639 г.**

НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2.

[333]

Testament Stanisława Bobrowskiego burmistrza breskiego 4 I 1639.

**Testament** ostatniey woli P. Stanisława Bobrowskiego burmistrza breskie[g]o przyznany.

**Actu** Inquitate Braestensi Magni ducatu Lith, die 4 mensis January Anno D[omi]ni 1639.

Na urzędzie Burmistrzowskim y Radzieckim w miescie Krola Je[g]o M[o]sci Brz[eskim] przed nami Janem Jędzieiowskim Burmistrzem Brzeskim, Janem Kurianowiczem Lantwoyten, Łukaszem Pomarzanskim Raycą, Bazylim y Mikołaiem Rapowiczami Pisarzami urzędnikami mieyskimi brzeskimi z zacnie sławny Pan Stanisław Bobrowski Burmistrz Brzeski rell[igie]y rzymskie oczewiscie zeznał testament ostatniey woli y ku zapisaniu do xiąg mieskich radzieckich brzeskich na pismie s pieczęcią i s podpisem ręki swey własney [na piśmie] podałł żądaiąc aby byłł do xiąg wpisany. Ktory upisuiąc słowo do słowa tak w sobie ma.

**W Imie P**rzenaswiętszey Troycy Oyca i syna i ducha swię[teg]o stan sie wola Boża. Amen. **Ja Stanisław** Bobrowski mieszczanin brzeski oznaymuię tym moim testamentem ostatniey woli mey. Iż ia będąc na ciele chory ale na umusle y pamięci dobrze zdrowy, zdrowym rozmysłem y s poradą przyiaciołł moich takowe rozrządzenie po smierci moiey miec chcę. Naprzod dusze moię gdy s te[g]o mizernego ciała za powołaniem Bozkim wynidzie w ręcę miłosierzdzia Pana Boga wszechmogące[g]o oddaię. A ciało ku pogrzebowi ktore pochowane byc ma w kosciele Oycow Jezuitow przez miła małżonkę moię Panią Halene Maliszewską porządkiem koscioła krzescianskiego. Na pogrzeb ciałą mego leguię złotych 200. Dobra moię leżącę ktorem s pracy rąk moich nabył to iest kamienica w miescie Brzesciu w Rynku stoiąca obmiedzę potomkow nieboszczyka Pana Słupskiego, a z drugą stronę potomkow Witowych tę kamienice potomkom moim to iest Janowi y Faustynowi Bobrowskim na wiecznosc w wolny szafunek zapisuię. S tym dokładem yż oni małżonce mey Paniey Halenie Maliszewskiey summę ode mnie osobliwym listem zapisem na urzędzie burmistrowskim zapisano oddac maią. Jakoż małżonka moia zwysz mianowana w tey

[334]

kamienicy moiey mieszkac ma nie wyliczaiąc sie nikomu s pozytkow przychodzących aż do oddania s pełna summy pieniędzy. Folwarek Dabrowinski moy własny pod Kozłowczami leżący tego folwarku połowica małżonce mey Halenie Maliszewskiey, a druga połowice Faustynowi Bobrowskiemu zapisuię na wiecznosc. Od ktorego folwarku inszych wszystkich potomkow moich oddalam. Dom w miescie Brzeskim na rogu leżący w Rynku obmiedzie nieboszczyka Jakuba Rączki ten dom Janowi Bobrowskiemu zapisuię. Do ktore[g]o małżonka moia i inni potomkowie wstępowac sie nie maią. Szpichlerze dwa na gruncie Ich Mscw Oycow Jezuitow zbudowa-

ne za pozwoleniem Ich Mscw tę dwa szpichlerze Ich Mscw Oycom Jezuitom brzeskim zapisuię. A drugie cztyry szpichlerze na grunce ratusznym na czynszu zbudowanę i na grunce Markowskim moim własnym kupnym zbudowanę, kture szpichlerze maią byc w dozorze u Je[g]o Msci Pana Bernata Aragonie[g]o i małżonki mey Haleny Maliszewskiey aż do wzrostu lat zupełnych potomkow moich. Ogrodow trzy na ulicy Wietrzney leżących małżonce mey zapisuię na wiecznosc. S ktorych ogrodow powinna będzie dac jako nayprzędzey Piotrowi Goriczowi szwagrowi memu ktory do zakonu bernardynskiego wstąpiłł złotych 30. Jakoż Piotr Goricz wziąwszy złotych 30 powinien będzie małżonkę y potomkom moim kwitowac bo iuż za ynsze dobra stała sie mu satisfactia za co też iest osobliwa kwitacya. Stanisławowi Bobrowskiemu synowi memu ktory zostałł jezuitom z miłosci rodzicielskie zapisuię złotych 500. Ktore maią oddac opiekunowie moy niżey mianowani s froktu gdanskiego y sprzedanie szkut[35]. Pani Jagnieszka Bobrowska Wazynska wyposażona iest. Ktora wzieła posagu 4 067 złotych. A ieszcze iey maią dac s tey ze kamienicy moiey poł pięta sta złotych. Ktora wziąwszy poł pięta sta ma kwitowac

[335]

potomkom moich i zrzeczenie uczynic ma ze wszystkich dobr leżących y ruchomych. Teyze corce mey odyskawszy dług od Je[g]o Msci Pana Mikołaia Łokieckie[g]o s tego długi złotych 270 małżonka moia oddac ma aby sie iey według regestru dosyc stało w posagu. Na Kozłowiczach ktore mam od miasta we 300 złotych od miasta[36] małżonka moia mieszkac ma do oddania pieniędzy. A gdy Panowie Burmistrze y Rayce oddadzą powinna będzie ustąpic i prawo zastawnę skasowac. S ktorey summy małżonka moia złotych 200 na pogrzeb dac ma. A 100 złotych małżonce mey należec będzie. Pieniędzy gotowych zadnych nie mam. Bułyżynskich reżow 7 w zastawie we złotych 175. Tę rzezy małżonka moia Halena Maliszewska trzymac ma do oddania pieniędzy. A gdy pieniędzę Bułyha odda powienien będzie ustąpic. A tę pieniędze na pozytek swoy małłżonka moia obrocic ma i to małżonce mey zapisuię. S ktorych wyzywienie potomkom moich do wzrostu lat ych dawac ma i ochędostwo dawac winna będzie. Złota nie mam. Srebra łyżek 2 tuziny i kufel srebny, tak ze kubek srebny to ma byc przy małżonce mey, ktore srebro przedawszy ma ona dłużki swoie y moie popłacic. Cyny, miedzi y naczynia aptekarskiego wszytkiego należy połowica Pani Jagnieszce Wazynskiey corce mey a druga połowica Janowi Bobrowskiemu synowi memu. Jednak to cyną, miedią y naczyniem

[35] Шкута (szkuta) — карабель з плоскім дном і мачтай пасярэдзіне быў прызначаны для перавозкі грузаў, мог змясціць прыкладна каля 100 тон зерня, абслугоўваўся 16-20 плытнікамі.

[36] Так у тэксце.

aptekarskim ma disponowac Pan Lauerman Doktor lubelski do wzrostu lat syna me[g]o Jana. Kilimow trzy starych, a czwarty nowy to przy małżonce zostawac ma. Szaty moię delia połgranatowa zielona takowey że masci y dołoman z guzami złocistemi adamaszkiem podszytę tę synowi memu miłemu Faustynowi Bobrowskiemu zostawuię. Delia lazurowa połgranatowa adamaszkiem podszyta

[336]

z guzami srebnymi pozłocistemi, do niey dołoman wiszniowy kitayką starą podszyty z guzikami srebnymi, tę delią i dołoman Janowi Bobrowskiemu zapisuię. Delia szalamami lisimi podszyta łazurowa tę pisarzowi mieskiemu Bazylemu Rapowiczowi zapisuię. Czapka czerwona połszkarłatna sobolem podszyta tę Faustynkowi leguię. S tey przyczyny iż Je[g]o Msc Xiądz Referendarz W[ie]lkie[g]o X[ię]stwa Lith[ewskieg]o darowałł onemy białogłowskie szaty i ubiory ktorem małżonce swey za iey przemysłęm posprawował to przy małżonce zostawac ma. Konie, woły i wszystko bydło rogate i nierogate to wszytko małżonce mey miłey zapisuię. Sianożęc od Korniłowicza we 100 złotych w zastawie ta przy małżonce ma byc do wykupna. S ktorey ona dług Szmierkowi za beczkę miodu przasne[g]o złotych 50. A żydowi Szay dług według porachowania regestrowe[g]o złotych 18 zapłacic powinna będzie. A złotych 32 co zostaną czeladzi drobney w kamienicy będącey małżonka moia popłacic ma. Tak ze czeladzi co na folwarku są małżonka moia s tegoż folwarku zapisanego załużone popłacic powinna będzie. Długu u Je[g]o Msci Pana Podkomorzego brzeskiego za wino y insze potrzeby przychodzi według regestru złotych 138, a zosobna złotych 100 gotowych pieniędzy pozyczanych ktore ia y zyda przez interesy pożyczyłł na to iest konik złoty y łancuszek. U Je[g]o Msci Pana Gedeona Michaela Tryzny Starosty brzeskiego za wino złotych 500. Tę długi małżonka moia odyskawszy za wino ktore do Brzescia maią mi przywiesc i furmanom oddac y zapłacic ma. Fure, dachowka ktora była wzięta sposobem pozyczanym y Je[g]o Msci Pana Szopskie[g]o ktorey dachowki 3 000 było, ktorey dachowki kupiwszy we Gdansku przyprowadziwszy ią na frior do Brzescia oddac ma Je[g]o Msc Pan Bernath ktorego ia uniżenie proszę aby na szkutach moich przyprowadzona była. Dłużki ktore mam we Gdansku o ktorych Je[g]o Msc Pan Bernath wie ktore odyskawszy komu będzie należało popłacic ma. Szkuta w kamienice nowa i na drugą szkutę drzewo ktorem miałł od Je[g]o Msci Pana Starosty Me[g]o M[iło]sciwe[g]o Pana tę szkute y drzewo do Brzescia spowadzic potrzeba. Ktorą przedawszy Je[g]o Msc Pan Bernath długi ktore by sie z rachunku pokazali popłacic ma. A wino ktore teraz przywiozą małżonce mey do wolnego szafunku zapisuię. Ktora też ma ostatka za wino dopłacic i dłużki wszytkie

[337]

ktore by sie po mnie słuszne pokazali popłacic y dosyc kazdemu uczy-

nic powinna będzie. Łancuszek złoty ktorem ia we społęk z nią z s połnego złota tak iey iako y mego sprawił to małżonce zapisuię. Jakoż ona względem tego łancuszka ma dług zapłacic Panu Janowi Malinnernowi złotych 150. Tak też Je[g]o Msci Xiędzu Rektorowi brzeskiemu jako sie z rachunku pokaże reszte zapłacic ma. Gdy go Pan Bog zwroci do Brzescia. Sprzeth domowy wszytek małżonce mey należac ma. Wina ktorego przez ręce sługi mego Boratinskie[g]o roznym ludziom wydawali tedy odyskawszy ma Boratinsky rachunek słuszny uczynic i s tych sługow ktore odyskanę będą Boratinskiemu zapłacone ma byc zasłużonę. A te wina ktore sie w sklepie zostali, te wina małżonka moia spieniężywszy na ratunek sobie y na poprawe kamienicy obrocic ma. Ochędoztwo kamieniczną, obrazy, kartinie to wszystko przy kamienicy zostawac ma. A zamykaiąc ia ostateczną wolą moie opiekunami zostawuię Wielmożnych Ich Mscow Panow Je[g]o Msci Pana Gedeona Michaela Tryznę Starostę Brzeskiego, Krayczego W[ie]lkie[g]o X[ię]stwa Lith[ewskieg]o, w Bodze Wielebnego Je[g]o Msci Xiędza Marcyana Tryznę Referendarza y Pisarza W[ie]lkie[g]o X[ię]stwa Lith[ewskieg]o, Je[g]o Msci Pana Mikołaia Tabeskie[g]o Podstolego y Podstarosciego Brzeskiego. Tak że Je[g]o Msci Pana Bernata Aragoniego. Ktorych Ich Mscow uniżenie proszę aby sie ubogą małżonka moią tak że dziatkami y maiętnoscią opiekali i krzywdy czynic nie dopuszczali. Tak że tez z mieszczan opiekunami zostawuię Pana Jana Malinnerna y Bazyle[g]o Rapowicza Pisarza miesckie[g]o aby też małżonkę moię tak że y dziatki w opiece mieli y porządek we wszystkiey maiętnosci mey podług tego testamentu mego sprawuiąc czynili. A com kom namieniłł na tym przestawali. Prosząc Pana Boga Wszechmogącego za dusze moię aby mie nie raczyłł za grzechi moię karac ale według swego niesmiertelnego miłosierdzia łaskę najswiętszą otrzymac dałł. W czym wszytkim jako sie zwysz pomieniło. Jesliby Pan Bog Wszechmogący do pierwszego zdrowia przyprowadzic raczył wolny sobie szafunek we wszytkiey maiętnosci zostawuię. A dla lepsze[g]o swiadectwa do tego testamentu mego pieczęc przycisnąłłem

[338]

y ręką podpisałem. Tak że y Panow pieczętarz o przyłożenie pieczęci y o podpis rąk prosiłem. To iest Pana Jana Kurianowicza Lantwoyta Brzeskie[g]o, Pana Jana Jędrzeiewskiego Burmistrza y Pana Łukasza Pomarzanskiego Rayce tak że y Bazyle[g]o Rapowicza Pisarza mieskie[g]o Brzeskiego. Ktorzy na prosbę moią uczynili przy pieczęciach przycisnionych ręcę swę podpisali. Pisan w Brzesciu dnia 4 January roku Panskiego 1639. U tego testamentu pieczęci przycisnionych 5 a podpis rąk tymi słowy. Stanisław Bobrowski ręką swą. Ustnie proszony pieczętarz do tego testamentu od Pana Stanisława Bobrowskiego rękę podpisałł Jan Kurianowicz Lantwoyt Brzeski mpa. Proszony ustnie pieczętarz do tego testamentu od Pana Bobrowskiego Burmistrza Brzeskiego Jana Andrzeiewski Burmistrz Brze-

ski mpa. Ustnie proszony do tego testamentu rękę podpisałł Łukasz Pomarzanski mpa. Do tego testamentu oczewisto proszony pieczętarz od Pana Stanisława Bobrowskie[g]o Burmistrza Brzeskie[g]o Mikołay Rapowicz Woytowski Pisarz. Ktory takowy testament oczewiscie przed urzędem zwysz mianowanym przyznany i do xiąg wieczystych mieskich brzeskich iesth upisany.

*Дадатак 2.*

**Інвентары аптэкі, двух дамоў і чатырох свірнаў, 1639 г.**

НГАБ, ф. 1786, воп. 1, спр. 2.

[353]

**Inwentarz s**pisania naczynia aptekarskie[g]o po niebozczyku Panu Stanisławie Bobrowskim burmistrzu pozostałey a podług testamentu niebożczykowskiego P. Jagnieszcze Wazynskiey doktorowey teraznieyszey y P. Janowi Bobrowskiemu przynależącey przez urzęd burmistrowsky brzesky spisany dnie 17 January A[nno] D[omini] 1639.

**Naprzod w aptece**

**Cyny** konewek cenowych z seropami niektoremi tszczemi 26. Puszek cenowych wielkich 19. Miedzi ktoremi wielkimi y małemi proznich niemało. Puszek cenowych przez wierchi 3. Puszek mnieyszych cenowych 10. Puszek blaszanych 32. Szkatułł malowanych aptekarskich drzewanych z ziołami 56. Puszek drzewanych malowanych wielkich y małych ogułem 300. Pudeł malowanych 12. Mozdzierzow wielkich 2. S pisztołami mozdzierzow małych 2

[354]

szpiształami. Patel wielkich 3. Patel ręcznych 4. Patel miedzianych 2. Szkatułeczka mała srebrem oprawna apteczka. Szale 3. Patela miedziana do polewania swiec. Trans mazyna niektore, i inne proszki y materie. Instrument z deklem miedzianym. Form składanych marcepanowych. Skrzynia iedna pełna y szafa pełna. Przy ktorych formach xiąg czworo, to iest Herbarzow polskich 2, Antidotarium[37] 2. Alembikow[38] 2, ieden mnieyszy, a drugi większy szczapkami y z rurą iedną. Stoł apteczny s szufladami y safa w ktorey formy w sklepie. Forma do wosku. Flaszek 30 szklanych większych z roznemi oleykami y s comfectami. A małych flaszek szklanych siedm tak ze z oleykami. **Z osobna ka**mieniczney czyny i miedzi do gospodarstwa należącey garniec cenowy 1. Mis cenowych wielkich 7.

[37] Лекарская кніга.

[38] Алембік — прыстасаванне з медзі для ачышчэння напояў, гарэлкі, складаўся з катла, шапкі і трубаў. Z. Gloger, *Encyklopedia staropolska*, t. 1, Warszawa 1900, s. 39.

Misa mnieysza 1. Talerzow tuzinow 5 przez dwoch. Połmiskow srzednich 11. Połmiskow z małęmi kraincami 7. miseczek 7. Naliwka 1. Miednica 1. Flaszek 6. Jaszczow 2. Flasza połgarcowa 1. Flaszka mnieysza 1. Kufel z nakrywko 1. Połgacowek cenowych 4. Kwarty 2. Połmiseczkow małych 6. Połkwarcie 1. Połmiskow z herbami 11. Lichtarzow cenowych 2. Miedz. Kociołkow miedzianych miernych 6. Kociołek z osobna 1 większy. Paneweczka małą 1. Patelka do smażenia pirożkow mała 1. S tey cyny P. Jan Lauerman Doktor Paniey

[355]

Stanisławowey dał ad fideles manus flaszek 2, połgarcowkę1, i iaszcz.

**Inwentarz** spisania **k**amienicy po niebozczyku Panu **S**tanisławie **B**obrowskim pozostałey przez urzęd burmistrowsky radziecky dnia 18 January A[nn]o **D[omi]ni 1639**.

**K**amienica w miescie Brzeskim w Rynku stoiąca wszytka całą dokonczona, dachowką wszytka pokrita nową. W tey kamienicy drzwi dwoiste drzewiane z Rynku wchodząc na zawiasach zelaznych. Przy drzwiach w sieni w murze szafa drzewiana na 4 zawiasach. Pod kamienicą ława zelazem przybita. Drzwi zelazne w sieniach stoią proznie.

Do apteki drzwi zelaznie z zamkiem więtrznym. Okiennica drzewiana dwoista z Rynku na zawiasach zelaznych. W aptece pod okniem krata zelazna z wrzeciądzami y hantaba w murze. Z apteki do sklepiku murowane[g]o drzwi drzewiane na zawiasach zelaznych z zamkami więtrznymi. W sklepiku szafa iedna na zawiasach zelaznych, lisztew 3. W aptece szaf 2 drzewnianych z zameczkami więtrznymi y z zawiesami. Ław 3 zamczystych. W aptece stolik mały z szufladą. Krato zelazna do sieni z sklepiku. Skrzynia biała z szufladami y z zawiasami. Druga skrzynia czarna. Do sklepu podziemniego drzwi zelazne s kłodką zawiesistą. Blacha zelazna u czelusci izby dolney. Drzwi do izby dolney drzewiane malowane na zawiasach zelaznych pobielanych z zamkiem

[356]

więtrznym y z hantabami dwemia ze wnątrza i z wierzchu. W tey że izbie dolney piec cały nowy, okien 2 całych sklanych ze dwiemia kratami zelaznymi, ław 2. W sieniach na dole na tyła drzwi drzewiane dwoiste z zawiasami zelaznymi. Okno przy wschodku szklane s krato zelazno. Okno drugie na wschodzku sklanie. Przez kraty trzecia okno na gurze w sieniach szklane. Na gurze przed izbą stolową wielką okien 2 sklanych na tył. Do transitu drzwi drzewiane na zawiasach, ław 2 w sienich y wschod drzewiany na gurze. W sieniach na gurze alkierik murowany z okniem iednym sklanym y s piecikiem. Drzwi drzewiane na zawiasach. W sieniach szafka y skrzynia spieżarnia. Do izby wielkiey drzwi drzewiane na zawiasach zelaznych z hantabami dwiema y s klamko. W yzbie szaf dwie z szufladami w murze na zawiasach zelaznych z zamkami wnętrznemi. Szafek mniey-

szych pod oknami trzy z zamkami wnętrznemi y z szufladami na zawiasach zelaznych. Antwos cenowy wierzchny y spodny przy murze do wymywania rąk. Piec cały nowy, okien 3 sklanych nowych całych z okiennicami drzewianymi y z zaszczepkami zelaznymi. Lisztew 2 wielkich. A nad oknami tak ze lisztew 2. Stołow 3, zydel 1, stołkow sukniem kritych 4, ław 3, a koło pieca ław 2. Obicia kołtrym 3. Płociennych obracow wielkich y małych roznych w ramach wszytkich 8. W yzbie wielkiey lichtarz to iest głowa jelenia do swiec, w ktorey 7 rurek blaszanych.

[357]

Do alkierza drzwi drzewiane na zawiasach zelaznych pobielanych y zamek wnętrzny z antabami dwiema. W tem alkierzu w murze szafa z szufladami na zawiasach zelaznych z zamkiem wnętrznym. Pod oknami szaf 2 z zamkami. Szafa w kącie stoiąca za drzwiami. Szafka mała malowana stoią. Okien 2 sklanych z okiennicami drzewnianemi. Obrazow 11 małych i wielkich. Listew 3 malowanych. Stolik z skrzyneczką y z zamkiem wnętrznym. Ław 2. Piecie s kominem. Meluzina ze dwiemia rurami mosiądzowemi. Drzwi drzewiane do komory. Okienką w komorze sklane 1. Obrazow 2. Lisztewek 3 malowanych. Skrzynia z zamkiem wnętrznym. W tey skrzynie szaty. Delia połgranatowa zielona. Takowey że masci dołoman admaszkiem podszyte z guzami złocistymi. Delia łazurowa połgranatowa admaszkiem podszyta z guzami srebrnymi pozłocistymi. Dołoman wiszniowy kitayką szarą podszytę z guzikami srebnemi, klawikordzik y skrzynka mała. W tey ze komorze kołowrotek zelazny. Oganka. Berdyszow 2. Strzelby muszkietow 2. Rucznica 1. Pistoletow par 2. Muszkietow 3. Ptaszynka. Tę ptaszynkę Pani Stanisławowa mianowała ze Pan Doktor wziąłł. Kordelasz[39] 1 z nozem y s pilką. Kord szablasty. Ładowniczka[40] aksamitna krita. Łozko 1 zielone.

[358]

Drzwi drzewniane do malowaney izby na zawiasach zelaznych z zamkiem wnętrznym. W niey piec cały, stoł 1 wymykany z szufladami. Ramki lisztowiane w koło. Kortyn 2, ław 2, obraz 1. Drzwi wychodząc drzewniane na zawiasach zelaznych z zamkiem wnętrznym y ze dwiema hantabami y s klamką. Dwor wszytek odełowany. Na tyle kuchnia. Drzwi drzewniane z zawiasami. Wilki zelazne z obłozynami zelaznemi. Staienka za wszytkim. Drzwi na zawiasach z wrzeciądzem y kłodka zawiesista. Budynek nowy naprzeciw staienki to iest piekarnia s pieciem murowanym y s kominem przez ław i okien nie masz. Drzwi dwoie. Jednę do sieni, a drugie do yzby wrota tylne dwoiste ze trzemia kunami zelaznymi.

[39] Kordelas — халодная зброя, прамы ці скрыўлены доўгі нож аднаручны ці двухручны, выкарыстоўваўся для патрашэння звяроў, вядомы з позняга сярэднявечча.

[40] Патранташ.

**Inwentarz s**pisania **d**omu **H**anusowskiego na rogu w miescie Brzeskim stoiącego. **S**przodku od Rynku **k**ramnic 2 z oknami dwiema na zawiasach zelaznych z łancuchami dwiema. Wrotą sprzodku. Kuna iedna, zawiasow 2, rygiel 1 zelazny. Szpichlerz na piwnicy ze dwoygiem, drzwi z zawiasami zelaznymi, łancuch 1. Okno dwoiste z zawiasami zelaznymi. Szopa wielkimi drzwiami. Kuna 1. Zaszczepka y proboy 1. Staienka dla koniey. Do staienki drzwi na zawiasach zelaznych. Piwnica s przegrodą. Drzwi na zawiasach dwoie od dworu z zamkiem wnętrznym iednym, a drugie drzwi z zaszczepką od Rynku z zawiasami y z ryglem. Trzecia drzwi u piwnicy z wierzchy na zawiasach zelaznych. Cwarte drzwi nad piwnicą z Rynku z zawiasami zelaznymi. Izba biala s komorą. Budynek stary. W yzbie okien 2 z okiennicami na zawiasach zelaznych. W komorze okno trzecie sklane z okiennicą ktore okno złe stare

[359]

potłuczonę. W izbie ław 3, lisztew 1. Lisztwy u drzwi do stawiania mis cenowych. Piec 1 chlebny do sieni, a drugi kaflany stary. Drzwi do komory drzewiane na zawiasach zelaznych zaszczepka i zamek wnętrzny. Drzwi izdebne na zawiasach zelaznych z zaszczepkami dwema i z hantabą. Drzwi trzecie u komorki na zawiasach y z wrzeciądze. Okiennica w sieniach stara z zawiaskami dwemia y s proboiem wielkim iednym. Połap z wierzchu cały. Budynek nowy tylny. W sieni drzwi na zawiasach z ryglem zelaznym y z zaszczepką y z klamką. W sieniach komorka. Drzwi na zawiasach. Okienko małe. Połapu w sieniach nie masz. Drzwi w yzbie białey na zawiasach z hantabą y z zaszczepką y z klamko. Lisztwy do naczynia, ław 3, okien 2 sklanych dobrych z okiennicami na zawiasach zelaznych s prochodniami. Piec stary kafłowy y drugy piec chlabowy z kominiem. Drzwi do komory na zawiasach z hantabą z wrzeciądzem ze dwiema zaszczepami. Okno jedno sklane, okiennica na zawiasach s prochodniem. Forta na tyle. Jeden zawias zelazny y hantaba. Na budynku nowym pokricie dobre. Dwor wszytek odylowany.

**Na ulicy Zarowskiey s**zpichlerzow **c**ztyry

Jeden szpichlerz z ganeczkiem. Drzwi na zawiasach na gurze z zaszczepką. W tym że szpichlerzu statki na gurze wszytkie do trzech szkuth iako Kasper szkutnik niebożczykowski powiadał. Na co y regestrz iest przi nim. Kocieł o dwu wiadrach so szkut należący. Pomost na szpichlerzu. Szpichlerz słomo pokrity. Drugie drzwi na gurze z zawiasami zelaznymi z zaszczepką s proboiem y kłodka zawiesista. U tegoż szpichlerza na dole wrota ze dwiema kunami

[360]

ze dwiema proboiami y drugie drzwi na zawiasach. Dylow kopa. Na podworzy drzewa wielkiego może byc kopa. Warstath cały do szkuty procz balek łodzi dwie, do szkuth sztaba iedna, uręga iedna. Słoniny polcy 30.

Drugi spichlerz słomo pokryny wrota ze dwiema kunami. Trzecy spichlerz mały dranicami pokrity wrota ze dwiema kunami. Czwarty spichlerz dranicami pokrity ze dwema wrotami z zawiasami zelaznymi po trzy zawiasy u wrot. Posiadzki nie masz, tylko przy iednym boku. Tarcic 30. Dwor płotem chroscianym w koło ogrodzony. Szkuth trzy porządnie ze wszytkim na Bugu. Czwarta szkuta w iezierze nowa niszczym przez statkow w Muchowłoki. A paiątą szkutę mianował Kaspier szkutnik nieborzczykowsky drzewo gotowe w kamieniu. Ktory to takowy inwentarz urzędowie sprawiony do xiąg wieczystych mieskich brzeskich iesth upisany.

Першая старонка інвентару камяніцы, 1639 г.


355

Dnia 18 January A: Dni 1639



Езуіцкі касцёл з гравюры Дальберга, Erik Jönsson Dahlbergh, Urbs et Castellum Brestzie Litewski, 1696
Гравюра паходзіць са старонкі: http://be-x-old.wikipedia.org/wiki/%A4%D0%B0%D0%B9%D0%BB:Biera%C5%9Bci%D0%B5._%D0%91%D0%B5%D1%80%D0%B0%D1%81%D1%8C%D1%86%D0%B5_%28XVII%29.jpg

**Summary**

**The will of Stanisław Bobrowski, Mayor of Brest, 1639**

The wills of townsmen have attracted the attention of researchers for a long time; however the wills of the townsmen of Brest have been studied only fragmentarily in historiography. Some wills have been published but the issue is still under-researched.

The will of Stanisław Bobrowski, the Mayor of Brest, contains valuable information on the history of urban officials and that of the town itself. There are documents attached to the will which confirm the propriety rights of the inheritors as well as inventories of the estate. Stanisław Bobrowski, a merchant and pharmacist, was appointed Mayor in 1637. His legacy comprised two houses in the Market Square, a pharmacy, the Dobrowiński farm, 3 gardens in Wietrzna Street, 6 granaries, 5 cargo boats, as well as personal property (a suit of armour, silverware, medicines, wines, etc.). The property was divided between his wife, Helena Maliszewska, and children: Jan, Faustyn, Stanisław and Agnieszka. Owing to his hard work and skills, Stanisław Bobrowski gained a high professional, social and material status and was thus able to provide for his family. Since he held the highest position in the town's self-government, he was able to establish contacts among the bourgeois and gentry milieu in the Grand Duchy of Lithuania and abroad.



**Streszczenie**

**Testament burmistrza brzeskiego Stanisława Bobrowskiego, 1639 r.**

Testamenty mieszczan od dawna przyciągają uwagę badaczy. Dokumenty ostatniej woli mieszczan brzeskich w historiografii rozpatrywano fragmentarycznie. Niektóre testamenty zostały opublikowane. Jednakże problem w dalszym ciągu pozostaje mało zbadany.

Testament burmistrza brzeskiego Stanisława Bobrowskiego zawiera cenne fakty zarówno z historii urzędników miejskich, jak i z dziejów Brześcia. Do testamentu załączone są dokumenty świadczące o wprowadzeniu spadkobierców we władanie majątkiem nieboszczyka oraz inwentarze majątkowe.S. Bobrowski posadę burmistrza objął w 1637 r. Był on kupcem i aptekarzem. Pozostawił po sobie dwa domy na Rynku, aptekę, folwark Dobrowiński, 3 ogrody na ulicy Wietrznej, 6 spichlerzy, 5 statków (typu szkuta), rzeczy ruchome (zbroja, srebra, lekarstwa, wina i inne). Majątek został podzielony między żonę Helenę Maliszewską i dzieci Jana, Faustyna, Stanisława i Agnieszkę. Dzięki pracy i zdolnościom Bobrowski osiągnął wysoką pozycję zawodową i społeczną oraz status materialny. Zabezpieczył materialnie siebie i rodzinę, został wybrany na najwyższą posadę w samorządzie miejskim, nawiązał kontakty w środowisku mieszczańskim i szlacheckim w Wielkim Księstwie Litewskim i za granicą.



**Natalla Śliż** — historyk, pracuje w grodzieńskiej filii Białoruskiego Instytutu Prawoznawstwa. Autorka ponad 120 artykułów. Zainteresowania badawcze: historia rodziny szlacheckiej, historia małżeństwa szlacheckiego, cudowne obrazy, historia Grodna w okresie Wielkiego Księstwa Litewskiego.

вуцінскага[8] і інш. Тут жа трэба заўважыць, што ў расійскіх часопісах да 1905 г. друкаваліся і ўспаміны некаторых паўстанцаў, але аўтарам ці выдаўцам даводзілася рабіць разнастайныя агаворкі, як, напрыклад, паўстанцу з Ігуменскага павета Уладзіславу Баратынскаму: «У сваіх успамінах я строга прытрымліваўся праўды, пісаў толькі тое, што сам выпрабаваў альбо чаму быў відавочцам, пазбягаючы небесстароннасці альбо патрыятычна-фанатычнай нянавісці; зрэшты, пасля 23 гадоў, што працяклі пасля апісаных падзей, пра фанатычную нянавісць не можа быць і мовы, — я цяпер не паляк, а славянін, а таму і на мяцеж 1863 года гляджу як на цалкам бяздумную мару, непатрэбную сварку двух братоў — і хто ў гэтым больш вінаваты, хто меў рацыю, для мяне ўсё адзіна, я толькі назапасіў масу фактаў, а меркаваць пра гэта не бяруся; перадаць жа гэтыя факты да агульнага ведама лічу карысным, каб паказаць, да чаго, да якіх пакут можа давесці захапленне нязбыўнымі фантазіямі і бязглуздымі марамі»[9]. Падобным жа чынам папярэджаны выдаўцом і ўспаміны паўстанца з Брэсцкага павета Юльяна Ягміна: «Цікаўна таксама прасачыць, як паступова, непрыкметна для самога сябе, аўтар спачатку прыходзіць да пераканання, што ён служыць хлуслівай ідэі, што ён ашуканы; як, у рэшце рэшт, ён з паляка-фанатыка зрабіўся рускім патрыётам і прыняў праваслаўе»[10].

Рэвалюцыя 1905-1907 гг. садзейнічала пэўнай лібералізацыі ўнутранай палітыкі Расійскай імперыі ў адносінах да нярускіх народаў і, між іншым, аслабіла цэнзурны ціск. У выніку ў перыяд да 1917 г. была выдадзена цэлая серыя польскамоўных мемуараў удзельнікаў паўстання ў Беларусі і Літве, якія да цяперашняга часу не губляюць сваёй актуальнасці і служаць карыснай крыніцай пры правядзенні гістарычных даследаванняў. Сярод іх варта згадаць успаміны старшыні Аддзела кіравання правінцыямі Літвы Якуба Гейштара[11], акруговага Ракаўскай акругі Апалінарыя Свентарэцкага[12] ці паўстанца з Навагрудскага павета Вандаліна Чэрніка[13]. У немалой ступені да гэтага мела дачыненне віленскае аб’яднанне «Бібліятэка ўспамінаў» (пол.:

[8] С. Т. Славутинский, *Город Гродно и Гродненская губерния во время последнего польского мятежа. (Отрывок из воспоминаний)*, «Исторический вестник», 1889, т. 37, № 7, с. 53-79; № 8, с. 271-295.

[9] В. Л. Баратынский, *Последняя польская смута 1863-1864 гг.*, «Русская старина», 1886, т. LI, № 8, с. 421-446; № 9, с. 583-604; т. LII, № 10, с. 185-209.

[10] А. Ягмин, *Воспоминания польского повстанца 1863 года*, «Исторический вестник», 1892, т. 49, № 9, с. 561-585; т. 50, № 10, с. 74-98; № 11, с. 413-431; № 12, с. 715-732.

[11] J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1857-1865*, t. 1-2, Wilno 1913.

[12] [A. Świętorzecki], *Ze wspomnień wygnańca z roku 1863*, spisała Zofia Kowalewska, Wilno 1911, ss. 262.

[13] W. Czernik, *Pamiętniki weterana 1864 r.*, Wilno 1914, ss. 88.

«Biblioteka pamiętników»). Выходзілі ў гэты час успаміны паўстанцаў і на рускай мове, як напрыклад Рамана Рагінскага[14].

Утварэнне незалежнай польскай дзяржавы ў 1918 г. дало штуршок напісанню і выданню на яе тэрыторыі ўспамінаў удзельнікаў паўстання. У цэлым, гэтая тэндэнцыя працягваецца і да цяперашняга часу, і ў выніку створаны вялікі пласт мемуарнай літаратуры, які ў значнай ступені служыць базай навуковых распрацовак[15].

* * *

Нягледзячы на каштоўнасць такога віду крыніц, як мемуары, у айчыннай гістарычнай літаратуры яны выкарыстоўваюцца недастаткова. Напрыклад, у манаграфіі Анатоля Смірнова[16] вышэй адзначаныя ўспаміны У. Баратынскага нават не згадваюцца пры апісанні паўстання ў Мінскай губ. і Ігуменскім пав. у прыватнасці; у артыкулах Алега Карповіча[17] і Сяргея Глазырына[18], прысвечаных паўстанню ў Віцебскай губ., успаміны Грасыльды Маліноўскай пра дзісенска-лепельскі атрад паўстанцаў пад камандаваннем Генрыка Дмахоўскага і Максімільяна Чэрняка[19] не выкарыстоўваюцца таксама; у зборніку дакументаў пра паўстанне ў Беларусі і Літве, складзеным Генадзем Кісялёвым[20], успаміны Альжбеты Табенскай[21], выдадзеныя яшчэ ў 1897 г., і Вандаліна Шукевіча[22], што ўбачылі свет у 1908 г., пра дзейнасць лідскага паўстанцкага атрада і яго камандзіраў Людвіка Нарбута і Аляксандра Парадоўскага не згадваюцца ніводнага разу. Як і ў біяграфіч-

14 *Из воспоминаний повстанца (Р. Рогинский)*, «Исторический вестник», 1906, т. 105, с. 422-452.

15 Тут хацелася б выказаць падзяку даследчыцы з Вроцлава (Польшча) Малгажаце Каранкевіч-Гупайле за дапамогу ў напісанні артыкула, у прыватнасці ў аблягчэнні доступу да некаторых успамінаў, якія адсутнічаюць у бібліятэках Беларусі.

16 А. Ф. Смирнов, *Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии*, Москва 1963, 392 с.

17 О. В. Карпович, *Состав и деятельность повстанческих организаций 1863 г. в Витебской губернии*, [у:] *Віцебскія старажытнасці: матэрыялы навук. канф.*, рэдкал.: Г. У. Савіцкі [і інш.], Мінск 2013, с. 62-65.

18 С. Я. Глазырын, *Спроба ўзброенага выступлення ў Віцебскай губерні падчас паўстання 1863 года*, [у:] *Ученые записки УО «ВГУ им. П. М. Машерова»*, т. 11, Витебск 2011, с. 21-27.

19 G. Malinowska, *Pamiętnik kresowej nauczycielki z lat 1833-1921*, Bydgoszcz 1995, s. 31-69.

20 *Восстание в Литве и Белоруссии 1863-1864 гг.: Сборник документов*, Москва — Вроцлав 1965, 586 с.

21 E. Tabeńska, *Z doli i niedoli. Wspomnienia wygnanki*, Kraków 1897, s. 33-45.

22 W. Szukiewicz, *Wspomnienie z r. 1863*, [w:] *Kalendarz wydany staraniem Katolickiego Towarzystwa Dobroczynności przy Kościele Św. Katarzyny w Petersburgu*, 1908, R. 13, s. 96-101.

на-краязнаўчым нарысе пра Нарбута аўтарства Паўла Камароўскага і Аляксандра Калышкі[23]. Падобныя прыклады можна множыць[24]. У сувязі з гэтым выяўленне і ўвядзенне ў навуковы ўжытак мемуараў пра паўстанне 1863-1864 гг. застаюцца актуальнымі праблемамі айчыннай гістарыяграфіі. Хаця з іншага боку нельга не адзначыць рост цікавасці да мемуарнай спадчыны сярод беларускіх гісторыкаў.

Да выкарыстання ў даследаваннях мемуараў неабходна падыходзіць з пэўнай доляй асцярогі і абавязкова з грунтоўнай іх крытыкай. Будучы крыніцай асабістага паходжання, мемуары заўжды маюць істотны налёт суб'ектывізму ў апісаннях, калі аўтар імкнецца не толькі строга пераказаць бачанае, але падаць яго ацэнку з уласнага пункту гледжання. Суб'ектывізм таксама можа праяўляцца і ў тым, якія падзеі ўключаюцца ці не ўключаюцца ў твор, альбо ў паўнаце і дакладнасці апісання, і г.д. Менавіта падобныя суб'ектыўнасць, асабістасць і з'яўляюцца прычынай таго, што даследчыкамі XIX-XXI стст. успаміны ўспрымаюцца па-рознаму — ад практычна поўнага непрыняцця ці прызнання толькі іх другаснага (дапаможнага) характару як гістарычнай крыніцы да выкарыстання як паўнапраўнага дакументальнага матэрыялу. Неабходна заўважыць, што каштоўнасць мемуараў асабліва ўзрастае з пашырэннем у гістарычнай навуцы такога накірунку як мікрагісторыя[25]. Ніжэй будзе зроблена спроба аналізу ўспамінаў аднаго з паўстанцаў — Вандаліна Чэрніка — у якасці прыкладу, наколькі каштоўным можа быць падобны від крыніц і наколькі крытычна неабходна падыходзіць да яго ўжывання. Аднак перш чым звярнуцца да самога твора, варта падаць некаторыя біяграфічныя звесткі пра яго аўтара.

* * *

Вандалін-Юльян-Міхал Чэрнік нарадзіўся 25 жніўня 1842 г. у с. Альшэва Слонімскага пав. (хрышчаны 30 жніўня ў Альшэўскім касцёле) і быў сынам двараніна Казіміра-Вандаліна-Барталамея (нар. у 1823, памёр да 1871) і Анелі Арахоўскай. У сям'і акрамя яго былі яшчэ браты Антоні-Юзаф-Тадэвуш (нар. у 1852 г., памёр у 1879 г.) і Міхал (нар.

[23] P. Komorowski, A. Kołyszko, *Ludwik Narbutt: z dziejów historycznej świadomości Polaków na Ziemi Lidzkiej*, Warszawa — Lida 1999, ss. 41.

[24] Увогуле, пра багаты і пераважна яшчэ не выкарыстаны ў даследаваннях па гісторыі паўстання 1863-1864 гг. у Беларусі і Літве пласт мемуарных крыніц, выдадзеных у розны час і на розных мовах, гл.: *Bibliografia historii Polski XIX i XX wieku*, t. 2: *1832-1864*, cz. III, vol. 2, pod. red. W. Chojnackiego, Wrocław 1976, ss. XXXVIII + 517.

[25] Больш падрабязна пра падыходы гісторыкаў да выкарыстання мемуараў у даследаваннях, гл.: В. Гарбачова, *Мемуарыстыка XIX стагоддзя ў беларускай культурнай традыцыі*, «ARCHE Пачатак», 2014, № 1-2, с. 5-14.

29 верасня 1843 г., палкоўнік расійскіх войскаў, памёр пасля 1896 г.) і сястра Юлія. Звестак пра дапаўстанцкі перыяд яго жыцця захавалася няшмат. Вядома, што ў 1860 г. ён паступіў на службу ў расійскае войска[26], таму ў расійскіх дакументах ён называецца юнкерам, а сам сябе Чэрнік называў «былы падхарунжы» (с. 69). Напярэдадні выступлення ён жыў у Навагрудскім пав. Найлепшай крыніцай да яго біяграфіі перыяду паўстання і пасля яго з'яўляюцца менавіта ўспаміны. Ён уваходзіў у склад навагрудскага паўстанцкага атрада пад камандаваннем Вітальда Міладоўскага, удзельнічаў у баі ля в. Мілавіды Слонімскага пав., затым яшчэ ў дзвюх сутычках у Навагрудскім пав. Падчас знаходжання ў лясах захварэў на тыф, у выніку чаго вярнуўся ў родны дом. Затым перавезены ў Навагрудак, дзе быў арыштаваны расійскімі ўладамі. Яго маёмасць на падставе распараджэння мінскага губернатара ад 30 жніўня 1863 г. і ўказа Мінскага губернскага праўлення ад 9 верасня 1863 г. падлягала секвестру. Маёнтак Садкова Навагрудскага пав. (ацэнены ў 8 тыс. руб. срэбрам), якім ён валодаў на правах суспадчынніка з братамі і сястрой, быў секвестраваны 28 кастрычніка 1863 г. З Навагрудка Чэрнік быў пераведзены ў Мінск і зняволены ў будынку былога бернардынскага кляштара. Пасля следства і суда, дзе ён пачаткова атрымаў смяротны прысуд, канфірмацыяй намесніка віленскага генерал-губернатара Аляксандра Патапава ад 27 (ці 31) жніўня 1864 г. прысуджаны да пазбаўлення вайсковых чыноў, дваранства, правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на 8 гадоў на заводах[27]. Праз Вільню, Маскву, Ніжні Ноўга-

[26] Род Чэрнікаў быў зацверджаны ў правах расійскага дваранства ўказам Часовай прысутнасці Герольдыі Сената ад 27 кастрычніка 1843 г. Вандалін быў далучаны да роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16 траўня 1860 г. і зацверджаны ўказам Дэпартамента Герольдыі Сената ад 15 верасня 1860 г. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), ф. 319, воп. 2, спр. 3636: Справа аб дваранскім паходжанні роду Чэрнікаў — арк. 32, 36-37 адв., 90-116 адв. і інш.

[27] Апрача ўспамінаў Чэрніка пра яго біяграфію гл. таксама: НГАБ, ф. 162, воп. 1, спр. 116: Распараджэнні, загады Мінскага губернскага праўлення аб разглядзе спраў пра канфіскацыю маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 г. і іншых спраў, што знаходзяцца ў вытворчасці. 22.02.1862—14.12.1864 — арк. 146, 156; ф. 295, воп. 1, спр. 1643: Алфавіт ваенна-судовых і палітычных спраў канцылярыі мінскага губернатара з 1863 па 1866 гг. — арк. 252; ф. 296, воп. 1, спр. 89: Спісы секвестраваных маёнткаў па Мінскай губ. 11.10.1864—13.05.1866 — арк. 14 адв.; ф. 320, воп. 1, спр. 398: Справа аб пошуку маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 г. для ўзяцця ў секвестр. 05.08.1863—30.09.1866 — арк. 3, 644; ф. 320, воп. 2, спр. 99: Справа аб накладанні секвестру і канфіскацыі маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863-1864 гг. 17.09.1868—06.04.1868 — арк. 51 адв.-52; ф. 1430, воп. 1, спр. 52163: Справа аб канфіскацыі маёмасці ўдзельнікаў паўстання 1863 г. 01.04.1863—15.04.1865 — арк. 535; ф. 1525, воп. 2, спр. 2:

рад, Казань ён прыбыў у Іркуцк, дзе да вясны 1866 г. знаходзіўся на катаржных працах. Пасля выхаду маніфеста аб аблягчэнні пакарання быў пераведзены на будаўніцтва Забайкальскай дарогі. Затым жыў у г. Усолле Іркуцкай губ., праз 5 гадоў пераведзены на пасяленне ў Ільгінскую воласць Верхаленскай акругі. У 1880 г. атрымаў палёгку пакарання з правам паступлення на дзяржаўную службу і ў 1882 г. служыў сакратаром і канцылярыстам у Іркуцкім гарадавым судзе. Пасля шэрагу выдадзеных амністый Чэрнік вярнуўся на радзіму і пасяліўся ў сямейным маёнтку Садкова, дзе ў 1912 г. і напісаў свае мемуары. На сённяшні дзень яны з'яўляюцца вядомымі ў беларускай гістарыяграфіі. Напрыклад, іх выкарыстоўвалі Рышард Мяніцкі пры напісанні навукова-папулярнага нарыса па гісторыі Навагрудчыны ў складзе Расійскай імперыі[28] і Вольга Гарбачова для складання біяграмы Канстанціна Кашыца[29]. Варта больш пільна прыгледзецца да гэтай гістарычнай крыніцы і паспрабаваць крытычна ацаніць яе карысць для будучых навуковых даследаванняў.

* * *

Мемуары Вандаліна Чэрніка выйшлі ў свет у Вільні ў 1914 г. у друкарні Юзафа Завадскага пад назвай «Успаміны ветэрана 1864 г.»[30]. Штуршком да іх напісання стала выданне ў 1911 г. пісьменніцай Зоф'яй Кавалеўскай успамінаў іншага паўстанца — вышэйзгаданага Апалінарыя Свентарэцкага. У самога Чэрніка ўспаміны Свентарэцкага выклікалі рэзка негатыўную рэакцыю, таму апошні раздзел яго твора, самы вялікі паводле аб'ёму (с. 69-87), прысвечаны менавіта крытыцы Свентарэцкага (пра гэта гл. ніжэй). Выданне папярэджана прадмовай, дзе Чэрнік сцвярджае, што бярэцца за ўспаміны, «маючы на мэце не толькі павелічэнне нашага гістарычнага даробку, але і практычную карысць для наступных пакаленняў моладзі, якая заўжды першая неразважліва нясе сваё маладое жыццё нібыта на алтар народнай ахвяры, а на самой справе на ўласную згубу і большую нядолю сваіх землякоў» (с. 5). Тут жа ў прадмове ён сцвярджае, што будзе падаваць толькі «чыстую праўду, як ад чалавека, які хутка павінен стаць перад судом Бога» (с. 6).

Справа аб узяцці на парукі грамадамі былых удзельнікаў паўстання 1863 г. і накладанні забароны на маёнткі ўдзельнікаў паўстання 1863 г. і інш. 1863 г. — арк. 44-45 адв.

28 R. Mienicki, *Ziemia Nowogródzka w dobie porozbiorowej (1793-1915)*, Wilno 1935, ss. 80.

29 В. В. Гарбачова, *Беларускі падарунак Уладзіславу Міцкевічу*, [у:] *Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах*, вып. 2, Мінск 2010, с. 358-380; яе ж, *Паўстанцы 1863 году на фотаздымках*, «ARCHE Пачатак», 2010, № 12, с. 126.

30 W. Czernik, *Pamiętniki weterana 1864 r.*, Wilno 1914, ss. 88.

Структурна ўспаміны падзелены на 14 раздзелаў, якія ахопліваюць перыяд з 1863 г. да пачатку 1870-х гг. Аднак не ўсе раздзелы прысвечаны храналагічнаму пераказу падзей. У некаторых з іх падаюцца погляды Чэрніка на тыя ці іншыя падзеі ці з'явы, напрыклад «Ксяндзы», «Польскае пакаленне, што паходзіць ад змешаных шлюбаў», «Падсумаванне» і да т.п. Розняцца раздзелы і паводле аб'ёму — ад паўтары да амаль дзесяці старонак.

Успаміны маюць пэўныя характэрныя рысы. Па-першае, гэта рэзка крытычны погляд на сваіх землякоў і ў цэлым на апісаныя падзеі. Зададзены ў прадмове прынцып «калі ж мае асабістыя погляды не ўсім будуць даспадобы, не мая ў гэтым віна, бо, нягледзячы нават на нацыянальныя інтарэсы, грэбаваць і прыхарошваць факты я не магу» Чэрнік вытрымлівае на працягу ўсяго твора. Яго ўспаміны поўныя апісанняў ганебных учынкаў (у тым ліку і крымінальных злачынстваў) паўстанцаў на радзіме і ў ссылцы, негатыўных характарыстык, выкрыцця хлусні і г.д. Пры гэтым самым частым аб'ектам крытыкі з'яўляюцца ўраджэнцы Каралеўства Польскага — «караняжы». Мяжу паміж выхадцамі з розных частак былой Рэчы Паспалітай Чэрнік праводзіць ужо на першых старонках апісання дарогі ў ссылку: «Я павінен тут успомніць яшчэ, што польскія выгнаннікі, верагодна, з прычыны розніцы тэмпераментаў і ўласцівасцей, падзяліліся на тры групы. Да першай належалі выгнаннікі з Каралеўства [Польскага — Дз. М.], і іх называлі караняжамі; да другой — выгнаннікі з заходніх губерняў, ліцвіны; урэшце, да трэцяй — выгнаннікі з паўднёвых губерняў, русіны, якія ў далейшым злучыліся з ліцвінамі, бо ў характарах і поглядах былі цалкам падобныя адзін да аднаго. Гэтыя групы выразна праяўляліся паўсюль: і ў партыях, і на пасяленні, і нават у цяжкіх працах» (с. 25). Пры гэтым шмат разоў Чэрнік апісвае выпадкі, калі менавіта з-за караняжаў ссыльныя траплялі ў складаныя сітуацыі. Напрыклад, у дарозе ў Сібір караняжы тры дні запар напіваліся алкаголю і распачыналі непарадкі і бойкі, што пагражала ўсім ссыльным у групе больш цяжкімі ўмовамі этапавання; справа была вырашана толькі далучэннем хуліганаў да партыі крымінальнікаў (с. 26). Калі ва ўспамінах усплывае слова «кароняж», побач амаль заўсёды Чэрнік змяшчае яго крытыку, як напрыклад: «Трэба тут аддаць належнае братам-караняжам, што ніхто так хутка, як яны, не здольны асіміляваўцца, бо ўжо праз паўгода з паляка звычайна робіцца халуй, і калі б не акцэнт, якога не могуць пазбавіцца, то ніколі немагчыма было б пазнаць, што гэта паляк» (с. 62). У пошуках прычын такой розніцы паміж «ліцвінамі» і «караняжамі» Чэрнік прыходзіць да ацэнкі характару паўстання ў розных частках Рэчы Паспалітай паводле складу ўдзельнікаў: «Калі непарадкі 1863-га года магчыма назваць паўстаннем, то ў заходніх

і паўднёвых губернях яно было выключна шляхецкім, а ў Польшчы ні шляхецкім, ні народным, але выключна пралетарскім. Польшча ў 63-ім годзе выкінула на паўстанцкі рынак усіх сваіх патомкаў, увесь зброд, — словам, ачысцілася. Я павінен зрабіць тут пэўную агаворку, бо і сярод выгнаннікаў-караняжаў было шмат прыстойных людзей, але ў адносінах да агульнай колькасці іх было мала» (с. 56).

Апрача гэтага, крытычнасць праяўляецца таксама ў наступным. Выпадкі, дзе яго землякі праяўлялі сябе са станоўчага боку, апісваюцца Чэрнікам, як правіла, дастаткова павярхоўна, без празмернай эмацыянальнасці і адносна коратка; моманты ж негатыўныя апісваюцца значна больш падрабязна, з большай колькасцю эпітэтаў і эмоцый.

Схільнасць да крытыкі асабліва праяўляецца ў апошняй частцы выдадзенага твора «Крытычны агляд „Успамінаў Апалінарыя Свентарэцкага, выгнанніка 1863 г.”, напісаных з яго слоў спадарыняй Зоф’яй Кавалеўскай». Пры гэтым крытыка заключаецца не толькі ў несупадзенні пазіцый і поглядаў на тыя ці іншыя з’явы. Галоўная яе прычына — хлусня Свентарэцкага, якога Чэрнік ведаў асабіста, з якім быў у дарозе з Мінска да Іркуцка і сустракаўся ў ссылцы. Усе ўспаміны Свентарэцкага ён называе «баечкай, якая грунтуецца нібыта на падставе рэальна перажытых падзей» (с. 70). І менавіта на фактаалагічных памылках, на несупадзеннях з рэчаіснасцю ён і будуе сваю крытыку, дапаўняючы яе незгаданымі ў Свентарэцкага фактамі і абвяргаючы яго «рамантычныя» высновы.

Магчыма, менавіта за такую згушчанасць фарбаў, непрывабнасць ацэнак і падзел палякаў паводле рэгіёна паходжання Рышард Мяніцкі, які свой нарыс выдаваў у серыі «Бібліятэка развіцця ўсходніх зямель. Навагрудская акруга», назваў Чэрніка «аўтарам малакаштоўных і злаславых „Успамінаў”»[31].

Другой яскравай рысай успамінаў з’яўляецца наяўнасць вялікай колькасці характарыстык людзей. Пры гэтым яны не залежаць ад агульна прынятай у асяроддзі вакол Чэрніка думкі, і пры іх складанні ён кіруецца выключна ўласнымі перакананнямі. Напрыклад, ксёндз Феліцыян Лашкевіч, які стварыў навагрудскі паўстанцкі атрад і доўгі час кіраваў ім, атрымоўвае ў Чэрніка наступную характарыстыку: «Гэта быў чалавек вышэйшага за сярэдні росту, вылучаўся вялікім дарам слова і сухасцю душы, шмат казаў пра марнасці гэтага жыцця і ўзнагароды на небе, сам жа быў першаразрадным баязліўцам, баяўся за ўласнае жыццё да смеху і пры першым стрэле знікаў кудысьці, як дым, — словам, у атрадзе быў цалкам лішнім баластам» (с. 20). Дыктатары паўстання Людвік Мераслаўскі і Мар’ян Лянгевіч у Чэрні-

[31] R. Mienicki, *Ziemia Nowogródzka...*, s. 53.

ка — «ашуканцы» (с. 56), ссыльныя, што спрабавалі ўзняць паўстанне ў Забайкаллі, — «авантурысты», рабаўнікі і «годныя шыбеніцы» (с. 34), дзве трэці ксяндзоў у Сібіры — «інтрыганы, хціўцы, распуснікі» (с. 51) і г.д. У той жа час Вітальд Міладоўскі, які зняславіўся сярод землякоў падрабязнымі паказаннямі на следстве пра паўстанцаў і з гэтай прычыны з боку ссыльных падвяргаўся прыніжэнням, заслугоўвае ў Чэрніка апраўдання: «Хацеў бы я ведаць, як бы павялі сябе гэтыя грозныя суддзі, гэтыя *en nature*[32] ка́ты, калі б перад імі паставілі такую кароткую дылему: „альбо кажы праўду, альбо ідзі на шыбеніцу", — якую яны выбралі б дарогу?» (с. 76). Расійскія чыноўнікі ў Чэрніка — камендант ва Усоллі Тураў — «вельмі прыстойны чалавек» (с. 44), камендант на станцыі Мішыха афіцэр Паўлаў — таксама (с. 32), генерал-губернатар Усходняй Сібіры Мікалай Сінельнікаў — «надзвычай справядлівы чалавек» (с. 48), расійскі афіцэр Порахаў, які загінуў падчас забайкальскага бунту, — «пакутнік» (с. 37), і г.д.

Адным словам, ва ўсіх успамінах Чэрніка вельмі моцна праяўляецца яго ўласны суб'ектывізм. Гэта робіць абавязковым і неабходным правядзенне яго крытыкі перад выкарыстаннем у даследаваннях. Аднак ніжэй будуць прааналізаваны не ўсе ўспаміны, а толькі тая іх невялікая частка, дзе апісаны ўласна паўстанне, зняволенне, следства і суд (с. 7-22).

Крытычна ацаніць успаміны магчыма з дапамогай іншых крыніц, дзе апісана паўстанне ў Навагрудскім павеце, дзейнасць навагрудскага паўстанцкага атрада альбо іншых атрадаў. У гэтым артыкуле будуць ужывацца пераважна такія крыніцы як вышэйназваныя ўспаміны Ігната Арамовіча, Апалінарыя Свентарэцкага, Валерыяна Валодзькі, Эдварда Паўловіча, а таксама паказанні на следстве Вітальда Міладоўскага, рапарт падпалкоўніка Булгарына пра бой ля Мілавідаў, некаторыя архіўныя матэрыялы і іншыя. Будзе зроблена спроба ацаніць дакладнасць датавання і геаграфічнай лакалізацыі і ступень паўнаты апісаных падзей, ідэнтыфікаваць згаданых асоб, і як вынік вышэйназванага — вызначыць ступень даверу да пададзенай Чэрнікам факталогіі ў цэлым.

* * *

Датаванне падзей ва ўспамінах Чэрніка ў цэлым мае рысы, характэрныя ўвогуле для твораў, напісаных праз працяглы час пасля падзей. У іх рэдка сустракаюцца дакладныя даты — на ўвесь тэкст успамінаў іх усяго некалькі. Звычайна падзеі датуюцца больш шырокімі перыядамі: месяцамі — «у першых днях чэрвеня» (с. 12), «у апошніх днях жніўня» (с. 28), «у другой палове красавіка» (с. 7) і г.д.); порамі

[32] En nature (фр.) — натурай.

года — «позняй восенню» (с. 20) альбо адлегласцю ад папярэдняй падзеі — «праз некалькі дзён» (с. 10), «яшчэ тыдзень» (с. 12), «на трэці дзень» (с. 16), «пасля шасці тыдняў» (с. 21) і г.д. Некаторыя падзеі пададзены ўвогуле без датавання, як напрыклад высылка па чыгунцы з Вільні ў Санкт-Пецярбург (с. 22).

Дакладная дата ў апісаных падзеях паўстання маецца толькі адна — 18 траўня 1863 г. (с. 8), дзень, калі Чэрнік пачаў удзельнічаць у паўстанні. Верагодна, што ёй варта давяраць, бо для яго гэта быў вызначальны дзень, які цалкам змяніў яго далейшае жыццё. Падобная спецыфіка характэрная таксама і для іншых успамінаў. Напрыклад, Эдвард Паўловіч, які ў сваіх успамінах падае мала дакладных дат, дзень, што стаў для яго лёсавызначальным, называе дакладна: «Назаўтра, як сёння памятаю, гэта было ў чацвер 19/7 сакавіка»[33].

Мяркуючы па іншых датах, пры апісанні паўстання Чэрнік выкарыстоўвае грыгарыянскі каляндар, які ўжываўся ў той час Каталіцкім касцёлам і шмат якімі прадстаўнікамі вышэйшага саслоўя ў Беларусі.

Характэрнай рысай датавання падзей паўстання ва ўспамінах з'яўляецца яго недакладнасць. Нягледзячы на выкарыстанне пры лакалізацыі ў часе шырокіх прамежкаў, нават яны шматразова не адпавядаюць іншым крыніцам. У сувязі з гэтым словы ў прадмове «з ласкі Стваральніка мая памяць не аслабла» неабходна ўспрымаць хутчэй як пажаданне Чэрніка самому сабе, а не як гарантыю дакладнасці. Першая хаыналагічная памылка сустракаецца ўжо на чацвёртым радку тэксту — «дэманстрацыямі **60-га** (выдзелена мной тут і ніжэй. — Дз. М.) года» (с. 7). Як вядома, самыя першыя дэманстрацыі пачаліся ў Варшаве 13 (25) лютага 1861 г. і дакаціліся да Беларусі і Літвы праз некалькі тыдняў.

На гэтай жа старонцы маецца запіс — «Урэшце, **у першай палове траўня** казакі прыцягнулі ў навагрудскую турму каля 20 асоб „мяцежнікаў", забраных пасярод памешчыкаў, сярод якіх былі Шалевіч, Пуслоўскі, Урублеўскі, Берасневіч, Жвірдоўскі, Клюкоўскі, і двух ужо старых ксяндзоў Эйсманта і Кучана» (с. 7). Пералічаныя асобы, за выключэннем ксяндзоў, уваходзілі ў склад навагрудскага паўстанцкага атрада пад камандаваннем Феліцыяна Лашкевіча і Адама Пуслоўскага[34]. Гэты атрад быў разбіты 7 (19)[35] красавіка ў Налібоцкіх

[33] E. Pawłowicz, *Wspomnienia. Nowogródek...*, s. 149.

[34] Спіс палонных з гэтага атрада, у якім змешчаны імёны і вышэйзгаданых Адама Пуслоўскага, Гераніма Жвірдоўскага, Яўгена Берасневіча, Антонія Урублеўскага, гл.: НГАБ, ф. 296, воп. 1, спр. 29б, арк. 1-3 адв.; апублікавана ў: *Паўстанне 1863-1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі*, уклад. Дз. Ч. Матвейчык; рэдкал.: У. І. Адамушка [і інш.], Мінск 2014, с. 420-421.

[35] Тут і ніжэй даты будуць падавацца паводле двух календароў — юліянскага і (у дужках) грыгарыянскага.

лясах Ашмянскага пав. і, як сведчыць рапарт мінскага цывільнага губернатара Аляксандра Кажэўнікава ад 12 (24) красавіка[36], атрад расійскіх войскаў, які і разбіў паўстанцкі атрад і ў склад якога ўваходзіла толькі 10 казакоў, вярнуўся ў Навагрудак 9 (21) красавіка. Значыць, храналагічная памылка ва ўспамінах складае каля двух тыдняў.

Наступнае недакладнае датаванне сустракаецца ў апісанні бою ля Мілавідаў. Паводле ўспамінаў Ігната Арамовіча, навагрудскі паўстанцкі атрад з Міладоўскім і Лашкевічам на чале прыбыў пад Мілавіды 1 чэрвеня, і гэтая дата паўторана ім двойчы[37]. У Чэрніка яна фігуруе як «у першых днях чэрвеня» (с. 12). Дата самога бою супадае ў дзвюх крыніцах — ва ўспамінах Арамовіча гэта 3 чэрвеня[38] (грыгарыянскі каляндар), у рапарце падпалкоўніка Булгарына гэта 22 траўня[39] (юліянскі каляндар). Такім чынам, паміж прыбыццём навагрудцаў і боем прайшло толькі 2 дні. Аднак Чэрнік паведамляе, што пасля прыбыцця «яшчэ тыдзень прайшоў спакойна ў адпачынку, знаёмствах і размовах», і толькі на восьмы дзень адбыўся бой (с. 12-14). Нават калі западозрыць у недакладнасці Арамовіча, то рапарт Булгарына, дзе ён называе дакладныя даты, складзены 26 траўня (7 чэрвеня); адпаведна бой ніяк не мог адбыцца 27 траўня (8 чэрвеня) альбо пазней, што вынікае з падлікаў паводле Чэрніка. Апрача гэтага, Арамовіч і Булгарын незалежна адзін ад аднаго паведамляюць пра тое, што паўстанцы амаль адразу пасля бою ўночы з 22 на 23 траўня (з 3 на 4 чэрвеня) пакінулі лагер. У Чэрніка ж гэта адбылося «на пяты дзень» «пад вечар» (с. 15, 16). Таксама не супадаюць і гадзіны бою. Калі гадзіна яго пачатку ў Арамовіча («а палове на 12-ю») і Чэрніка («каля адзінаццатай перад поўднем») прыкладна супадаюць, то гадзіны заканчэння — «да паловы на 9-ю вечара» (Арамовіч) і «да пятай гадзіны пасля паўдня» (Чэрнік) выразна адрозніваюцца. Пры гэтым найбольш верагодна, што больш блізкай да рэчаіснасці з'яўляецца дата Арамовіча, якую ўскосна пацвярджае Булгарын у паведамленні, што адной з прычын яго адступлення з'яўляўся «надыход цемнаты».

Перыяд пасля бою апісаны ў Чэрніка ў цёмных танах — «Мы адышлі з-пад Мілавідаў на захад без правадніка, без плану, проста навобмацак», «абдзёртыя і галодныя, мы цягнуліся па балотах і купінах» і да т.п. Аднак увесь тэкст ажно да страты прытомнасці ад хваробы апісаны без дакладных дат, а выключна як «на трэці дзень», «назаўт-

[36] Рапарт гл.: НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 1562, арк. 20-23; апублікавана ў: *Паўстанне 1863-1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях...*, с. 417-420.

[37] І. Арамовіч, *Мары...*, с. 31, 53.

[38] Там жа, с. 32.

[39] *Восстание в Литве и Белоруссии...*, с. 363.

ра», «на світанку» і да т.п. Магчыма вызначыць толькі крайнюю дату гэтых падзей — 28 чэрвеня (10 ліпеня), калі адбылася сутычка паўстанцаў з войскамі паміж вёскамі Ігнатава і Дрычалава Навагрудскага пав. Аднак пра гэтую падзею Чэрнік паведамляе ўжо не як сведка, а са слоў іншых — «штó я даведаўся ад сваіх таварышаў па зброі пра канец усяго навагрудскага паўстання» (с. 19-20), — бо ў гэты час ён ужо быў цяжка хворым. Цікава, што Чэрнік апісвае дзве сутычкі з расійскімі войскамі, аднак паводле няпэўнага датавання іх ідэнтыфікаваць з вядомымі падзеямі практычна немагчыма.

Падзеі следства і суда Чэрнікам датаваны яшчэ слабей. Адзінае, што паведамляецца, «ужо позняй восенню» яго выклікалі ў Навагрудскую следчую камісію. Даты ні пераводу ў Мінск, ні зняволення ў турме, ні абвяшчэння канфірмацыі, ні адпраўкі ў Вільню, ні высылкі ў Санкт-Пецярбург не пазначаны ніякім чынам, хаця ад зняволення да даты канфірмацыі (гл. вышэй) прайшло больш за год.

Падводзячы пэўную выснову, варта адзначыць, што датаванне застаецца дастаткова слабым бокам успамінаў Чэрніка.

Геаграфія апісаных падзей ва ўспамінах таксама змяшчае шматлікія прабелы. Усяго ў адзначаным урыўку названы 19 населеных пунктаў, 5 адміністрацыйных адзінак (паветаў), 4 геаграфічныя абшары (Каралеўства Польскае, Літва, Сібір, Паволжа), 1 рака (Нёман). З улікам таго, што геаграфічныя абшары і адміністрацыйныя адзінкі не маюць прамога дачынення да апісаных падзей, найлепей дазваляюць лакалізаваць іх менавіта назвы населеных пунктаў.

Усе — большыя (гарады Навагрудак, Слонім, Нясвіж і інш.) і меншыя (сяло Мілавіды, мястэчкі Усялюб, Крывошын, Налібокі, вёскі Міратычы, Лапушна, Ваўканоша і інш.) — населеныя пункты паддаюцца ідэнтыфікацыі. Аднак найбольшая праблема ў тым, што шмат якія падзеі не лакалізаваны ў Чэрніка падрабязна, а некаторыя — амаль ніяк. Напрыклад, пра паход з-пад Налібокаў пад Мілавіды пішацца, што ён працягваўся 8 дзён, аднак няма ні слова пра мясцовасці, праз якія праходзіў навагрудскі атрад[40]. Таксама цяжка паддаецца ідэнтыфікацыі мясцовасць, дзе адбываліся дзве апісаныя Чэрнікам сутычкі. Першая з іх адбылася пры пераправе праз «малую рэчку, не надта шырокую, але надзвычай балоцістую», да якой з-пад Мілавідаў паўстанцы «на захад» дайшлі «на трэці дзень» (с. 16-17). Адзіны населены пункт, які згаданы пры апісаннях, гэта «вёска Кулікі», якая знаходзілася «за некалькі вёрст» ад рэчкі. Аднак тут ёсць пэўная супярэчнасць. Адзіная вёска Кулікі, вядомая ў той мясцовасці, знаходзіцца

[40] Пра гэтыя мясцовасці гл. паказанні В. Міладоўскага: *Восстание в Литве и Белоруссии...*, с. 457.

па суседстве з сялом Мілавіды на поўдзень ад яго (Дабромысленскай воласці Слонімскага пав., у цяперашні час — Востраўскага сельсавета Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці). Але, да яе не трэба ісці 3 дні «па балотах» і «на захад».

Першая з апісаных Чэрнікам сутычак можа быць ідэнтыфікавана (з пэўнай доляй дапушчэння верагоднасці памылкі) з апісанай Арамовічам сутычкай слонімскага атрада, пры якім знаходзіліся навагрудцы і гродзенцы, з расійскімі войскамі, што адбылася падчас пераправы паўстанцаў праз раку, якая ў яго фігуруе як «лясная рэчка пад назвай Гура»[41] (Міладоўскі ў сваіх паказаннях увогуле не згадвае пра шмат якія сутычкі, у тым ліку і пра гэтую). Але і такая назва ракі невядомая. На захад ад Мілавідаў вядомыя рэкі Шчара і далей яе правы прыток Грыўда. Магчыма, маецца на ўвазе адна з іх, тым больш што на гэта ўказваюць і некаторыя ўскосныя паведамленні Чэрніка. Напрыклад, мяркуючы паводле апісання, «малая рэчка» была не такой ужо малой і дастаткова глыбокай, бо пры пераправе праз яе ўплаў падчас бою патанулі як мінімум тры паўстанцы «малога росту», «не могучы дастаць да цвёрдага дна» (с. 17).

Апісанні Арамовіча і Чэрніка маюць падабенства толькі ў агульных рысах — падзеі на беразе невялікай балоцістай ракі, бой падчас пераправы праз яе, калі пэўная частка паўстанцаў ужо пераправілася. Ва ўсім астатнім апісанні адрозніваюцца. Калі ў Арамовіча, які сам падзеі не бачыў, апісанне абмяжоўваецца фразай «наш ар'ергард яшчэ не здолеў пераправіцца на другі бераг, а маскалі ўжо пачалі страляць, а потым пайшлі за нашымі», то Чэрнік апісвае ўсё як натуральную бойню — «я бачыў, як патокі крыві ўжо плылі па рацэ», «я ўбачыў, як па ўсёй рачулцы плывуць трупы», «нас білі, як гусей» і да т.п. (с. 17).

Месца наступнай сутычкі таксама лакалізавана недакладна. Яна адбылася ля вёскі, да якой паўстанцы дайшлі раніцай наступнага дня, «на захад» ад месца папярэдняй сутычкі. Пра яе лакалізацыю магчыма меркаваць толькі з дзвюх згадак: 1) пра месца знаходжання іншага паўстанцкага атрада — «за 30 вёрст адсюль, дзесьці пад Крывошынам»; 2) пра знаходжанне на дарозе — «(...) перасекшы адразу за вёскай вялікую дарогу (...)» (с. 18). Аднак, безумоўна, гэтага недастаткова для паўнавартаснага вызначэння. І гэтая сутычка апісана ў Чэрніка ў чорных фарбах: «Мяне раптоўна збудзіў раздзіраючы крык. Я ўскочыў на ногі, і перад маімі вачыма паказалася страшная карціна — гэта жаўнеры калолі штыкамі тых, хто спаў. Не думаючы доўга, я скочыў убок і паімчаўся ў балоты».

[41] І. Арамовіч, *Мары...*, с. 54.

Апісанні баявых дзеянняў заканчваюцца ў Чэрніка яго злучэннем з атрадам Міладоўскага на мяжы Слонімскага і Навагрудскага паветаў. Пасля гэтага, як ён паведамляе, «расхварэўшыся, я ледзьве дацягнуў да сваіх старон», а пасля перавозу сялянамі ў Навагрудак — «штó было далей, не памятаю, бо я страціў прытомнасць» (с. 19). Яго далейшы лёс да прысуду быў звязаны з гарадамі Навагрудкам і Мінскам, дзе ён сядзеў у турмах да канфірмацыі.

Падсумоўваючы выкладзеныя звесткі пра геаграфічную лакалізацыю падзей, неабходна адзначыць, што і гэты бок успамінаў Чэрніка змяшчае шматлікія пропускі, якія магчыма запаўняць толькі паводле ўскосных звестак і іншых крыніц.

Колькасць названых у прааналізаваным урыўку ўспамінаў асоб — 55. Амаль усе, за выключэннем пяці, паддаюцца ідэнтыфікацыі з дапамогай архіўных і іншых матэрыялаў. Большая частка з іх — гэта паўстанцы, якія напярэдадні выступлення жылі ў Навагрудскім пав. Напрыклад, «ксёндз Беліковіч» з Усялюба (с. 8-9) — гэта усялюбскі пробашч Цыпрыян Беліковіч, які ў канцы 1864 г. прызначаны да ссылкі «адміністрацыйным парадкам» на сталае жыхарства ў Пермскую губ. пад нагляд паліцыі[42]; «доктар Лазоўскі», які знаходзіўся ў паўстанцкім злучэнні пад Мілавідамі (с. 13), — гэта вольнапрактыкуючы доктар Навагрудскага пав. Эдвард Лазоўскі, які пасля паўстання быў сасланы на катаргу на 4 гады[43]; «Фуровіч» з «цалкам пасечанымі рукамі» ў Навагрудскай турме (с. 20) — гэта дваранін Навагрудскага

[42] Пра Беліковіча гл.: НГАБ, ф. 160, воп. 2, спр. 682: Указы Мінскага губернскага праўлення аб пошуку і накладанні секвестру на маёмасць і капіталы, што належалі ўдзельнікам паўстання 1863-1864 гг.; спісы асоб, пазбаўленых правоў стану. 04.01.1865—05.12.1865 — арк. 57, 108; ф. 162, воп. 1, спр. 122: Распараджэнні, загады губернскага праўлення аб дастаўленні звестак пра канфіскацыі маёнткаў, накладанні секвестру на маёмасць удзельнікаў паўстання 1863 года. 31.12.1864—15.12.1865 — арк. 11, 21; ф. 320, воп. 1, спр. 398, арк. 679; ф. 1416, воп. 4, спр. 11416: Справа аб асобах, якія прымалі ўдзел у палітычных непарадках па Віцебскай губерні. 13.05.1864—21.04.1867 — арк. 314; ф. 1430, воп. 1, спр. 52163, арк. 796; ф. 2586, воп. 1, спр. 116: Указы і цыркуляры Віцебскага губернскага праўлення, пошукавыя артыкулы і г.д. пра пошук удзельнікаў паўстання 1863 г., іх маёмасці, якая падлягае секвестру, асоб, што ўхіліліся ад рэкруцтва, даўжнікоў і інш. 10.01.1865—28.12.1866 — арк. 476.

[43] Пра Лазоўскага гл.: НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 1643, арк. 116; ф. 295, воп. 1, спр. 3537: Справа аб вяртанні былому палітычнаму ссыльнаму Лазоўскаму Э. правоў стану і дваранства. 04.10.1880—9 арк.; ф. 299, воп. 1, спр. 579: Журналы пасяджэння агульнай прысутнасці Мінскага губернскага праўлення за 1864 г. — арк. 298-307; ф. 319, воп. 1, спр. 479: Алфавітны спіс асоб, пазбаўленых правоў стану за ўдзел у паўстанні 1863 г. 27.05.1865 — арк. 19; ф. 320, воп. 1, спр. 398, арк. 3; ф. 1430, воп. 1, спр. 52163, арк. 206; ф. 1525, воп. 2, спр. 2, арк. 44-45 адв.

пав. Антоні Фуровіч, які да паўстання жыў у мястэчку Новая Мыш і напрыканцы 1864 г. прысуджаны да ссылкі з канфіскацыяй маёмасці[44]; «У. Чыжык з чатырнаццаццю ранамі» (с. 20) — гэта дваранін Навагрудскага пав. Уладзімір Чыжык, які вучыўся ў Навагрудскай гімназіі і напрыканцы 1864 г. таксама прысуджаны да ссылкі з канфіскацыяй маёмасці[45], і г.д.

Неідэнтыфікаванымі застаюцца толькі «нехта Маньян» (с. 11), пра якога сам Чэрнік выказваўся як пра асобу «містычную», і чацвёра палеглых паўстанцаў — «Габік і Горскі», якія загінулі пад Мілавідамі (с. 15), і «Пятроўскі з Міратычаў» і «Калясінскі», што загінулі ў другой сутычцы пасля адыходу з-пад Мілавідаў (с. 19).

Некаторыя паўстанцкія камандзіры названы ў Чэрніка паводле мянушак. Напрыклад, Міхал-Ян Гайдэнрайх — «Крук» (с. 7), палкоўнік Аляксандр Лянкевіч — «Брандт» (с. 12), Густаў Стравінскі — «Млодак»[46] (с. 12) і інш. Аднак тут жа патрэбна звярнуць увагу на блытаніну ў імёнах у адным месцы — камандзірам ваўкавыскага паўстанцкага атрада называецца Шчэнсны Улодак (пол. — «Włodek»), а пружанскага — Млодак, Густаў Стравінскі (с. 12, 13), хаця ўсе іншыя крыніцы паказваюць адваротнае — Стравінскі-Млотак арганізоўваў і камандаваў ваўкавысцамі, Улодак — пружанцамі. Верагодна, падобная недакладнасць закралася з-за падабенства прозвішча аднаго і мянушкі другога.

Прозвішчы двух расійскіх афіцэраў у друкаванай версіі ўспамінаў напісаны з памылкамі — генерал Носціц напісаны як «Nastie» (с. 13), а палкоўнік Аляксандр Чартоў фігуруе як «Czestow» (с. 20). Падобнага кшталту памылка зроблена і ў назве аднаго населенага пункта — вёска Ігнатава (пол. — «Ihnatów») названа «Ілматава» («Ilmatów») (с. 20). Аднак найбольш верагодна, што гэта — вынік недастатковай працы выдаўцоў, бо падобныя памылкі з’яўляюцца, як правіла, пры расчытванні рукапіснага тэксту і пераводзе яго ў друкаваны.

[44] Пра Фуровіча гл.: НГАБ, ф. 160, воп. 2, спр. 682, арк. 59; ф. 295, воп. 1, спр. 1643, арк. 235 адв.; ф. 295, воп. 1, спр. 1699: Паведамленне камісіі па палітычных справах аб аддачы ваеннаму суду дваран Фуровіча, Лукашэвіча, Жалязоўскага і інш. за ўдзел у паўстанні 1863 г. 06.03.1864—1 арк.; ф. 534, воп. 1, спр. 14: Спісы асоб, пазбаўленых у судзе (па палітычных справах) правоў стану, маёмасць якіх падлягае канфіскацыі ў казну, і асоб, датычных да спраў па мяцяжы, прызначаных да адміністрацыйнага спагнання і высылкі на жыхарства ў аддаленыя губерні, і цыркуляры Мінскага губернскага праўлення. 23.12.1864—05.01.1865 — арк. 23; ф. 320, воп. 1, спр. 398, арк. 3; ф. 1525, воп. 2, спр. 2, арк. 44-45 адв.

[45] Пра Чыжыка гл.: НГАБ, ф. 162, воп. 1, спр. 122, арк. 15; ф. 295, воп. 1, спр. 1643, арк. 252 адв.; ф. 534, воп. 1, спр. 14, арк. 24.

[46] «Млодак» (пол. «Młodek») — гэта памылковае напісанне, павінна быць «Млотак» (пол. — «Młotek»).

У цэлым, згадкі пра асоб з'яўляюцца моцным бокам успамінаў Чэрніка. У іх фігуруюць людзі, дзейнасць якіх у той час і ў тых месцах пацвярджаецца іншымі гістарычнымі дакументамі.

Апрача храналогіі, геаграфіі і асоб успаміны Чэрніка карысныя таксама і падачай шмат якой іншай фактalогіі, але і яна патрабуе пацвярджэння іншымі крыніцамі. Напрыклад, у Чэрніка колькасць навагрудскага паўстанцкага атрада «з афіцэрамі і невялікай колькасцю абслугі» падчас выхаду з-пад Налібокаў — «84 асобы» (с. 11), і ён не піша пра далучэнне іншых асоб у маршы да Мілавідаў. Гэта істотна адрозніваецца ад звестак Арамовіча, які піша, што 1 чэрвеня пад Мілавіды «прыбылі 136 добраахвотнікаў з Навагрудскага павета пад камандаваннем Міладоўскага»[47]. Сам Міладоўскі ў паказаннях гаворыць, што да іншых атрадаў пад Мілавідамі далучыліся навагрудцы «ў колькасці 120 чалавек»[48].

Асобна неабходна звярнуць увагу на апісанне бою пад Мілавідамі, змешчанае ва ўспамінах. Яно адрозніваецца ў некаторых важных момантах ад паведамленняў Арамовіча і Булгарына. Звесткі Чэрніка тым больш паддаюцца ацэнцы, бо Булгарын апісвае ў першую чаргу дзеянні расійскіх войскаў, а Арамовіч і Чэрнік — паўстанцаў (супрацьлеглага боку).

Па-першае, колькасць паўстанцкага злучэння Чэрнікам ацэньваецца як «няпоўная тысяча» (с. 12). Гэта прыкладна супадае з падлікамі, якія магчыма зрабіць на падставе звестак Арамовіча і нататкі Канстанціна Каліноўскага[49] (Булгарын і Міладоўскі ўвогуле не паведамляюць пра колькасць паўстанцаў).

Па-другое, Чэрнік паведамляе пра выкарыстанне паўстанцамі дзвюх дубовых гармат у баі (с. 12, 14), аднак гэта застаецца сумнеўным, бо ні Арамовіч, ні тым больш Булгарын не пішуць пра такі важны паварот падзей.

Па-трэцяе, у Арамовіча і Чэрніка па-рознаму апісана камандаванне і каардынацыя дзеянняў паўстанцаў. Чэрнік піша, што пад Мілавідамі «кожны камандзір быў абсалютным гаспадаром сваёй партыі, кожны рабіў паводле свайго „бачыццамне"[50], бо агульнага камандзіра не было» (с. 12). Аднак у Арамовіча згадваецца, што палкоўнік Лянкевіч спачатку «атрымаў камандаванне над аб'яднаным ваўкавыска-гродзенскім атрадам», затым пад яго камандаванне паступіў і пружанскі

[47] І. Арамовіч, *Мары...*, с. 31.

[48] *Восстание в Литве и Белоруссии...*, с. 457.

[49] Яе тэкст гл.: *Восстание в Литве и Белоруссии...*, с. 75-79; *Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага*, уклад. З. Кузменка, Мінск 2014, с. 65-73.

[50] У польскім арыгінале: „widzimisię".

атрад, а непасрэдна пад Мілавідамі «Юндзіл са сваім [слонімскім — Дз. М.] атрадам падпарадкаваўся яму як старэйшаму». Пра падпарадкаванне навагрудцаў Лянкевічу Арамовіч не паведамляе, аднак піша, што падчас бою Лянкевіч кіраваў часткай, якая была пакінута на чале з ксяндзом Лашкевічам[51]. Міладоўскі сугучны з Арамовічам і на следстве паказваў пра камандаванне злучэннем пад Мілавідамі — «палкоўнік Лянкевіч, які ў той жа час быў на чале ўсяго атрада»[52].

Па-чацвёртае, Чэрнік, як і Арамовіч, піша пра супярэчнасці паміж паўстанцкімі камандзірамі напярэдадні бою, але падае пра гэта іншыя звесткі. Паводле Арамовіча, толькі Улодак застаўся незадаволены агульным камандаваннем Лянкевіча — «(...) але Улодак жадаў змены планаў і склікання вайсковай рады. Калі Лянкевіч з гэтым не пагадзіўся, ён са сваім атрадам цалкам сышоў з лініі і рушыў праз абоз Юндзіла дарогай на Гушчанку для аб’яднання з Траўгутам (...)»[53]. Паводле ж Чэрніка, вайсковая рада была праведзена, і на ёй «абраны галоўным начальнікам абароны Міладоўскі», што прыйшлося недаспадобы Улодаку (які памылкова называецца «начальнік пружанскай партыі Млодак») і Лянкевічу (які называецца «Брандт»), у выніку чаго яны абодва пакінулі паўстанцкае злучэнне («Якім жа было нашае здзіўленне, калі мы ўбачылі, што абодва гэтыя рыцары, такія ганарлівыя, забралі свае партыі, і праз гадзіну іх ужо не было ў лагеры» — с. 13). Гэтыя паведамленні Чэрніка выглядаюць сумнеўна. Незразумела, чаму камандзірам паўстанцаў павінен быць абраны прапаршчык Міладоўскі, а не палкоўнік Лянкевіч ці паручнік Стравінскі. Наконт выхаду Лянкевіча з-пад Мілавідаў, магчыма толькі выказаць меркаванне, што Чэрнік, амаль праз 50 гадоў пасля паўстання, блытае адлучэнне атрада Улодака ад іншых з перамяшчэннямі і расстаноўкай па пазіцыі паўстанцаў з атрада Лянкевіча. Пра пазіцыю паўстанцаў напярэдадні бою і яе ініцыятара Лянкевіча Арамовіч піша падрабязна, як і пра яго актыўны і непасрэдны ўдзел у сутыкненнях з войскамі.

У цэлым, падводзячы высновы наконт пададзенай Чэрнікам факталогіі, неабходна адзначыць, што шмат у чым яна патрабуе параўнання з іншымі крыніцамі, без пацвярджэнняў якіх выкарыстоўваць змешчаныя ва ўспамінах звесткі не рэкамендуецца. Колькасць недакладнасцей, памылак, некарэктнасцей, пропускаў, прабелаў і да т.п. у Чэрніка дастаткова вялікая.

Мемуары Чэрніка цікавыя не толькі факталогіяй, але і яго ацэначнымі меркаваннямі, якія могуць быць выкарыстаны пры аналізе сі-

[51] І. Арамовіч, *Мары...*, с. 27, 30-32, 53.
[52] *Восстание в Литве и Белоруссии...*, с. 457.
[53] І. Арамовіч, *Мары...*, с. 32.

туацыі напярэдадні паўстання, вызначэнні прычын яго паражэння, адносін да яго розных сацыяльных слаёў і да т.п. Асабліва, калі магчыма правесці паралелі з іншымі крыніцамі ці дакументальнымі матэрыяламі. Напрыклад, пры ацэнцы сітуацыі на Навагрудчыне ўвесну 1863 г. Чэрнік піша: «Моладзь кіпела» (с. 7). Гэта падобна на аналагічныя ацэнкі Апалінарыя Свентарэцкага: «Вясна 1863 г. знайшла ўжо ўвесь край напагатове. Чакалі толькі закліку»[54]; Валерыяна Валодзькі: «Тут паказалася таямнічая сіла нацыянальнага духу (...), уздымаўся ўзровень пачуццяў (...)»[55] і таксама на паведамленні мінскага губернатара Эдуарда Келера ад 1861 г.: «унутраная, глухая, няўлоўная праца падбухторшчыкаў — працягваецца бесперапынна (...), юны наэлектрызаваны натоўп (...) мяцецца надзвычай»[56]. Нават Эдвард Паўловіч, які рэзка негатыўна ставіўся да ідэі паўстання, піша пра падобную напружанасць, хаця і з іншымі ацэнкамі: «(...) якой бы ні была доўгая і шырокая Русь і Літва, запанаваў хаос і страх»[57]. Больш за тое, апісанне настрояў і чутак у Навагрудскім павеце Чэрнік і Паўловіч апісваюць з вялікім падабенствам, хаця і з храналагічнай разбежкай у два месяцы, — Чэрнік: «Ужо ў другой палове красавіка пачалі кружыцца чуткі пра незвычайны поспех партыі паўстанцаў пад Брэстам пад камандаваннем Рагінскага, пра заняцце ёю Пружанаў і г.д. У Навагрудскім павеце панавала поўная цішыня, і толькі з хуткасцю бліскавіцы кружыліся важныя звесткі пра поспех паўстання ў Каралеўстве і ў Літве, заўжды на вуснах былі імёны Лянгевіча, Пуставойтавай, Крука, Траўгута, Міраслаўскага і нават Гарыбальдзі» (с. 7); Паўловіч пра люты 1863 г.: «Навіны пра Сямятыцкую бітву 6 лютага, пра напад на Пружаны паўстанцаў 13 лютага, пра ўступленне Траўгута і Рагінскага на Палессе, як таксама і нібыта пра поспехі Лянгевіча ў Каралеўстве; пра цэлыя атрады, ба, нават пра цэлыя палкі, бачаныя ўжо дзесьці недалёка, абягалі ваколіцы і перадаваліся з вуснаў у вусны»[58].

Заслугоўваюць, несумненна, увагі рэляцыі Чэрніка пра катастрафічны стан збору паўстанцаў, якія нібыта прысягалі з’явіцца на зборныя пункты пасля абвяшчэння паўстання. Ён піша пра тое, што яму

54 [A. Świętorzecki], *Ze wspomnień wygnańca...*, s. 11.

55 W. Koszczyc, *Wspomnienia z powstania województwa mińskiego...*, s. 203.

56 *Ліст мінскага цывільнага губернатара Эдуарда Келера міністру ўнутраных спраў Пятру Валуеву ад 24 кастрычніка 1861 г. аб напружанай сітуацыі ў Мінскай губ. і захадах, неабходных для яе стабілізацыі.* НГАБ, ф. 1418, воп. 2, спр. 1, арк. 6-8 адв.; апублікавана ў: *Паўстанне 1863-1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях...*, с. 46-49.

57 E. Pawłowicz, *Wspomnienia. Nowogródek...*, s. 138.

58 Там жа.

было загадана ўзначаліць групу ў 150 паўстанцаў, якая павінна была сабрацца ў вёсцы Ваўканоша, і далучыць да яе яшчэ 50 чалавек з Усялюба, аднак у Ваўканошы «сабралося 11-ць», а ва Усялюбе «згадзіліся толькі двое» (с. 8-9). Амаль тое ж самае пішуць акруговы Свентарэцкі: «(...) поўны найлепшых надзей, я аб'язджаў наваколле, вярбуючы дваравую і засцянковую моладзь. Вярбоўка ішла лёгка. Сыпаліся абяцанні і прысягі. Усе, як адзін, павінны былі з'явіцца ў прызначаны дзень. (...) Я разлічваў, што прынамсі 100 тых, хто даў прысягу, з'явяцца. У добрай веры я чакаў доўгія гадзіны. Урэшце, з'явілася толькі... дваццаць»[59]; і камандзір аднаго з планаваных атрадаў у Мінскім павеце Валерыян Валодзька: «(...) а ў іншым месцы, дзе павінны былі ўзяць кіраўніцтва двое маскоўскіх афіцэраў з палка пяхоты, што размяшчаўся ў горадзе [Мінску — Дз. М.], Рамішэўскі і Ельчанінаў, сабралася так мала, што тыя, распусціўшы сабраных па дамах, самі вярнуліся ў горад. (...) Чацвёрты ж атрад (...) сабраўся ў Прылуках, за 3 мілі ад горада, на Койданаўскім тракце, маючы замест абяцаных 80 людзей усяго 18»[60]. Яшчэ адзін прыклад — апісанне цяжкіх умоў паходнага жыцця паўстанцаў у лесе ў значнай ступені падобна на аналагічнае Уладзіслава Баратынскага[61], паўстанца з атрада Станіслава Ляскоўскага.

Такім чынам, нягледзячы на шматлікія недахопы ўспамінаў Чэрніка, некаторыя фактары паказваюць, што ігнараваць гэтую цікавую і карысную крыніцу падчас даследавання паўстання 1863-1864 гг. у Беларусі немагчыма, бо шмат якія большыя ці меншыя падзеі, паводзіны і дзеянні шмат якіх асоб згаданы і апісаны толькі ў ёй. Падабенства ж пададзеных ацэнак і агульных апісанняў з іншымі крыніцамі, створанымі незалежна ад Чэрніка, прымушае даваць ім пэўны давер, а значыць, і выкарыстоўваць у навуковых працах.

**Summary**

**Memoirs of Wandalin Czernik as a source in research regarding the history of the January uprising in Belarus: an attempt at a critical analysis**

Wandalin Czernik's memoirs are a valuable source material in the research regarding the history of the January uprising and the deportation of insurgents to Siberia. To asses the credibility of the information in Czernik's account, in terms of the accuracy of dating, geographical locations and the identity of the people mentioned, it has been compared to many other manuscripts and printed documentary materials. It transpired that the dating and localization of events contains many errors and inaccuracies; descriptions of places are sometimes incomprehensible; and the events described from the point of view of an ordinary participant, thus rendering the account incomplete. As regards the people mentio-

59 [A. Świętorzecki], *Ze wspomnień wygnańca...*, s. 11-12.

60 W. Koszczyc, *Wspomnienia z powstania województwa mińskiego...*, s. 210.

61 В. Л. Баратынский, *Последняя польская смута...*, № 8, с. 421-446.

малася біяграфіяй лідара Грамады Браніслава Тарашкевіча[2] і беларускім рухам у міжваеннай Польшчы ўвогуле[3].

Больш шырока прадстаўлена сучасная гістарыяграфія БСРГ. У прыватнасці, былі выкарыстаны працы ўдзельнікаў V Навуковай канферэнцыі Беларускага гістарычнага таварыства, надрукаваныя ў 12 нумары «Гістарычнага альманаха»[4]: Алеся Пашкевіча, Андрэя Вашкевіча, Андрэя Чарнякевіча, Алеся Смаленчука і інш. Гэтаксама былі выкарыстаны працы некаторых іншых сучасных даследчыкаў — Анатоля Сідарэвіча, Вольгі Матусевіч, Яўгена Мірановіча і інш.

**Гістарыяграфія вывучэння БСРГ**

Беларуская сялянска-работніцкая грамада ад пачатку свайго існавання выклікала бурныя дыскусіі датычна яе характару. З боку СССР яна бачылася як паспяховы праект па ўнясенні ідэй класавай барацьбы ў беларускае сялянства. Падобным чынам яе бачылі і польскія ўлады, якія лічылі Грамаду агентам Камінтэрна, які падрывае асновы Польскай Рэспублікі. Беларускія нацыянальныя дзеячы некамуністычнага кірунку бачылі (ці хацелі бачыць) у Грамадзе масавы нацыянальна-вызваленчы рух, што паставіў бы сабе за мэту поўную незалежнасць Беларусі. Адпаведна, гэты спектр поглядаў адбіўся і ў працах гісторыкаў.

Пры аналізе гістарыяграфіі больш увагі надавалася найбольш дыскусійным і спрэчным момантам гісторыі Грамады. Гэты агляд не ставіў перад сабою мэту пераліку ўсіх вядомых публікацый, звязаных з БСРГ. Больш важным падаецца аналіз самых значных прац.

Першай і на сённяшні час адзінай манаграфіяй, прысвечанай БСРГ, была праца Уладзіміра Палуяна *Беларуская сялянска-рабочая грамада*, выдадзеная ў 1967 годзе ў Мінску. Натуральна, на сённяшні дзень гэтая кніга, напісаная з пазіцый марксізму-ленінізму, выглядае занадта ідэалагізаванай і састарэлай. Беларускі даследчык Анатоль Сідарэвіч назваў яе «ўзорна-паказальнай для бээсэсэраўскіх гісторыкаў»[5]. Менавіта як найбольш яскравая праява беларускай савецкай гістарыяграфіі гэтая праца і была разгледжана ў дадзеным даследаванні. Пры гэтым трэба зазначыць, што яна захоўвае сваю фактalагічную

[2] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча: Гістарычны жыццяпіс*, Мінск 1996, 192 с.

[3] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, Warszawa 1984, ss. 287.

[4] «Гістарычны альманах. Навуковы гістарычны і краязнаўчы часопіс», Гродня 1998, т. 12, 248 с.

[5] А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада*. Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/sidarevic709.htm [Дата доступу: 1.05.2012].

вартасць, бо Уладзімір Палуян шырока выкарыстоўваў матэрыялы беларускіх і часткова літоўскіх архіваў, польскія статыстычныя матэрыялы і інш. Да таго ж суб'ектывізм гэтай працы ў адносінах да Грамады і нацыянальнага руху ўвогуле дае нам зразумець стаўленне савецкага ўрада і камуністычнай партыі да БСРГ.

Адметнай рысай даследавання Палуяна з'яўляецца тое, што нават знаходзячыся на пазіцыях марксізму, аўтар не лічыць Грамаду камуністычнай партыяй у поўным сэнсе гэтага слова і размяжоўвае пазіцыі БСРГ і КПЗБ, грамадоўскую ды камуністычную ідэалогію. Так, аналізуючы ідэалагічны падмурак БСРГ, якую Палуян адносіць да рэвалюцыйна-дэмакратычных арганізацый, ён адзначае таксама і некаторыя «недахопы» праграмы Грамады. У прыватнасці, ён крытыкуе падтрымку Грамадой хутарызацыі, якую ён называе «куртатай буржуазнай рэформай»[6]. У артыкуле праграмы, прысвечаным стварэнню сацыялістычнага саюза еўрапейскіх народаў, Палуян бачыць уплыў старой рэфармісцкай тэорыі партый II Інтэрнацыянала на стварэнне Злучаных Штатаў Еўропы[7] (пра іх, між іншым, згадваў Тарашкевіч у сваім апошнім слове ў судзе[8]). Аўтар таксама адзначаў, што праграма БСРГ не вырашыла пытання аб нацыяналізацыі і сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. Лідараў Грамады, якія, паводле яго слоў, знаходзіліся ў стане пераходу ад рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый да пазіцый марксізму-ленінізму, а таксама шараговых сяброў партыі ён крытыкаваў за перабольшванне самастойнай палітычнай ролі сялянства і палітычнай ролі культурна-асветніцкай працы, палітычную неакрэсленасць і сялянскую абмежаванасць[9]. Падсумоўваючы, Палуян сцвярджаў, што няслушна казаць пра сацыялістычны (у бальшавіцкім сэнсе) характар праграмы Грамады[10].

Што тычыцца практыкі, а не тэорыі, то і тут Палуян казаў пра неаднароднасць палітычных поглядаў сяброў БСРГ. Ён сцвярджаў, што невялікая колькасць «нацыянальна настроеных элементаў інтэлігенцыі» вагалася ад ідэі саюза з СССР, да адасобленай незалежнасці[11]. Паводле Палуяна, прысутнасць унутры Грамады невялікай групы «буржуазных нацыяналістаў», што ўносілі дух «згодніцтва і вагання», падрывала трываласць гэтай партыі[12].

[6] У. Палуян, *Беларуская сялянска-рабочая грамада*, с. 74.
[7] Там жа, с. 75.
[8] Lietuvos centrinis valstybės archyvas (далей: LCVA), F. 129, a. 2, b. 2357, l. 388.
[9] У. Палуян, *Беларуская сялянска-рабочая грамада*, с. 160.
[10] Там жа, с. 77.
[11] Там жа, с. 135.
[12] Там жа, с. 192.

Увогуле аўтар вылучаў тэзіс пра падпарадкаванне дзейнасці Грамады Камуністычнай партыі[13]. Адначасова ён кажа, што КПЗБ патаварыску крытыкавала БСРГ, калі гэта было патрэбна. Цікавы факт з'яўлення «ліквідатарскіх настрояў» у некаторых павятовых групах КПЗБ, што вылілася ў жаданне кінуць нелегальную працу і цалкам перайсці ў БСРГ[14], гаворыць пра тое, што ў рэшце рэшт нешматлікая Камуністычная партыя Заходняй Беларусі не заўсёды магла кантраляваць дзейнасць шматтысячнай Грамады.

Цікавым з'яўляецца апісанне стасункаў БСРГ з іншымі беларускімі партыямі. Хоць Палуян і гаворыць пра канфрантацыю Грамады са «згодніцкімі, дробнабуржуазнымі, нацыяналістычнымі» партыямі, у кнізе прыводзіцца даволі мала рэальных доказаў гэтага. Характэрна, што цытаты з газет «Сялянская ніва» (БСС) і «Biełaruskaja Krynica» (БХД) падаюцца з нумароў, што выйшлі да разгрому Грамады[15]. Натуральна, што Палуян не гаворыць пра хвалю салідарнасці, што ахапіла беларускі рух пасля падзей у ноч з 14 на 15 студзеня 1927 года.

Такім чынам, гэтая найбольш значная праца па Грамадзе ў беларускай савецкай гістарыяграфіі паказвае нам, што БСРГ не лічылася камуністычнай партыяй нават марксісцкімі гісторыкамі. Гэтая ж праца апісвае некаторыя іншыя праблемы, на якія сёння спрабуюць адказаць беларускія гісторыкі, а менавіта: стасункі паміж БСРГ і КПЗБ, паміж БСРГ і іншымі беларускімі партыямі, накіраванасць самой Грамады і пытанне ідэалагічнай еднасці яе сяброўскага складу.

Яшчэ адным вядомым гісторыкам БСРГ эпохі сацыялізму з'яўляецца выбітная польская даследчыца Аляксандра Бергман. Яе працы *Слова пра Браніслава Тарашкевіча* і *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej* выглядаюць менш ідэалагічна загружанымі ў параўнанні з працай Палуяна. Дадатковую цікавасць выклікае тое, што Бергман сама з'яўлялася актывісткай КПЗБ і ведала пра беларускі нацыянальна-вызваленчы рух з першых рук. Да таго ж яна была рэпрэсаваная ў 1934 г. і адсядзела ў сталінскіх турмах 10 гадоў[16]. Паводле даследчыцы польскай гістарыяграфіі Вольгі Матусевіч, Бергман стала «своеасаблівай заканадаўцай моды ў гэтай тэматыцы»[17]. На думку Анатоля Сідарэві-

13 Там жа, с. 209.

14 Там жа, с. 159.

15 Там жа, с. 168, 184-185.

16 Л. Маракоў, *Аляксандра Бергман*, [у:] *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991*, т. I. Доступ праз Інтэрнэт: http://www.marakou.by/ru/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-i/index_19273.html [прагледжана 1.05.2012].

17 В. Матусевіч, *Сучасная польская гістарыяграфія аб дзейнасці беларускіх палітычных партый у міжваеннай Польшчы*, «Беларускі гістарычны часопіс», 2009, № 11, с. 18.

ча, «там [у ПНР — *заўвага А. Б.*] удавалася трохі больш: з боем, пераадольваючы супраціў, Аляксандра Бергман магла друкаваць біяграфіі дзеячаў Грамады»[18].

Цікавыя сведчанні яна падала пра стасункі і ўзаемаадносіны паміж Грамадой і заходнебеларускімі камуністамі. Бергман згадвала падпольную Гданьскую канферэнцыю паміж КПП, КПЗБ, КП(б)Б і прадстаўнікамі беларускага руху ў Польшчы, у прыватнасці з Тарашкевічам. Яго ўдзел у гэтай канферэнцыі выкарыстоўваўся падчас працэсу над Грамадой як доказ яго працы на СССР. У прыватнасці рабіліся закіды аб тым, што менавіта на той канферэнцыі Тарашкевічу далі задачу арганізаваць легальную партыю для прыкрыцця дзейнасці КПЗБ. Аднак, Бергман, цытуючы аўтабіяграфію Тарашкевіча, гаворыць, што пытанне аб Грамадзе было толькі адным з пунктаў парадку дня[19].

Неадназначнасць узаемаадносін паміж КПЗБ і Грамадой праявілася таксама і ў сітуацыі з праграмай БСРГ. У прыватнасці, Бергман працытавала аднаго з лідараў заходнебеларускіх камуністаў Язэпа Лагіновіча: «Да гэтага часу мы прытрымліваліся няправільнага погляду на Грамаду. Мы лічылі, што гэтую Грамаду можна будзе ператварыць у легальную камуністычную партыю. Нават склалі для яе праграму, якая мала адрознівалася ад праграмы кампартыі. Але добра, што мы не апублікавалі гэтай праграмы»[20]. З удзелам Тарашкевіча праграма была перапісана. Паводле Бергман, гэта сведчыла пра тое, што кіраўніцтва камуністычнай партыі зразумела, што нельга разглядаць БСРГ як легальную «прыбудоўку» («экспазітуру»). Такім чынам аўтарка адзначыла, што грамадоўскі рух меў уласнае аблічча і спецыфіку, характэрную для ўсялякага народна-вызваленчага руху[21].

Важным момантам у працы Бергман з’яўляецца яе вытлумачэнне поспеху Грамады. Насуперак поглядам некаторых камуністаў, якія лічылі, што БСРГ дамаглася поспеху дзякуючы таму, што выбітныя дзеячы беларускай лявіцы далучыліся да КПЗБ, яна сцвярджала, што гэта КПЗБ абавязана сваім поспехам беларускім сацыялістам, якія **згадзіліся** [выдзяленне — *А. Бергман*] на супрацоўніцтва з камуністамі[22].

У сваёй працы Бергман характарызавала Грамаду крыху ў іншым святле, чым той жа Палуян: «Камуністы (...) былі яе вядучай сілай,

[18] А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада.* Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/sidarevic709.htm [Дата доступу: 1.05.2012].

[19] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 83.

[20] Там жа, с. 84.

[21] Там жа.

[22] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, s. 135.

але па колькасці складалі нязначны працэнт. Стрыжнем руху былі сяляне, для якіх барацьба за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне была чымсьці непадзельным»[23]. Яна дадае, што ў Грамадзе прысутнічалі і далёкія ад камунізму асобы, для якіх галоўнымі былі нацыянальныя каштоўнасці. Так, Бергман прыводзіла цытаты з пастановы III Канферэнцыі КПЗБ, у якіх сцвярджалася, што сярод беларускай інтэлігенцыі існавалі трактаванні БССР як толькі этапу да незалежнай беларускай дзяржавы. З такімі ідэямі спалучаецца своеасаблівая ідэя «двух цэнтраў», што панавала ў пэўных асяродках грамадоўцаў. Ідэя двух цэнтраў палягала ў прызнанні «Малога парламента» — беларускіх сеймавых фракцый БПК і БСРГ — як правамоцнага рэпрэзентатыўнага ўрада Заходняй Беларусі, роўнага з урадам БССР[24].

Цікавым у працах Аляксандры Бергман падаецца яе абвяржэнне закідаў супраць Грамады, зробленых некаторымі дзеячамі КПЗБ у пазнейшыя часы. У прыватнасці, аўтарка разглядала брашуру пад красамоўнай назвай *Нацыянал-апартунізм у КПЗБ і ідэалагічная спадчына Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі.* У гэтай брашуры пад аўтарствам тагачаснага сакратара ЦК КПЗБ Язэпа Лагіновіча абвяргаўся рэвалюцыйны характар БСРГ, а яе лідары — Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін — абвінавачваліся ў кіраванні беларускай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыяй. Аўтарка падкрэслівала, што тэорыі «нацыянал-фашызму» і «нацыянал-апартунізму» дагэтуль не былі абвергнутыя, хоць прынеслі шмат шкоды дзейнасці КПЗБ. Менавіта праз гэта, паводле Бергман, дзеячы Грамады і «Змагання» аж да 1970-х гадоў знаходзіліся ў няміласці савецкіх гісторыкаў[25].

Апошнім адметным момантам прац Аляксандры Бергман з’яўляецца акрэсленне стаўлення да Грамады польскай інтэлігенцыі. Зноў жа, насуперак традыцыйнай савецкай інтэрпрэтацыі (якую падтрымлівае і Палуян), яна сцвярджала, што частка польскіх інтэлектуалаў шчыра спачувала Грамадзе і падтрымлівала яе. У доказ гэтаму яна прыводзіла выказванні многіх польскіх культурных і палітычных дзеячаў, якія словам і справай абаранялі грамадоўцаў на працэсе. Колькасць дэпутатаў Сейма, што прагаласавалі супраць пазбаўлення паслоў ад БСРГ дэпутацкай недатыкальнасці (89 з 460 ці каля 20%), таксама сведчыць на карысць гэтага тэзісу[26]. Такі адыход ад марксісцка-ленінскага бачання стасункаў паміж польскім і беларускім грамадствам стаўся слушным, паколькі тэзіс пра неадназначнае стаўленне

[23] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 95.
[24] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, s. 117.
[25] Там жа, с. 134.
[26] Там жа, с. 136-137.

польскай супольнасці да Грамады знайшоў пацвярджэнне ў працах пазнейшых даследчыкаў, напрыклад, Алеся Смаленчука[27].

Бачна, што ў працах, напісаных прыкладна ў адзін час, адрозніваліся ацэнкі дзеяння БСРГ і яе характару. Гэтыя адрозненні з'яўляюцца ў тых ключавых пытаннях, на якія звернуць увагу пазнейшыя даследчыкі. Адметнай рысай савецкай гістарыяграфіі БСРГ з'яўляецца заўсёднае змяшчэнне апошняй у кантэксце дзейнасці КПЗБ. Хоць, натуральна, дзейнасць БСРГ немагчыма разглядаць, не згадваючы дзейнасць КПЗБ, такі падыход падаецца ў пэўнай ступені ідэалагізаваным.

Уклад у вывучэнне Грамады зрабіла навукова-папулярная канферэнцыя, прысвечаная 40-годдзю БСРГ, што адбылася ў Беластоку ў 1965 годзе[28]. Вынікам працы гэтай канферэнцыі стаў выпуск зборніка *Узнікненне і дзейнасць БСРГ на Беласточчыне* (*Powstanie i działalność BWRH na Białostocczyźnie. Materiały z sesji popularno-naukowej*[29]).

Ужо ў наш час беластоцкія гісторыкі працягнулі працу сваіх папярэднікаў. Так Веслаў Харужы апублікаваў артыкул *Дзейнасць БСРГ у Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах у 1925-1927 гадах*[30]. У сваёй працы даследчык параўноўвае феномен Грамады з феноменам «Салідарнасці» і тлумачыць поспех Грамады прывабнасцю праграмы партыі, асабліва яе аграрнай палітыкай. Тым не менш, Харужы гаворыць пра нязначнасць нацыянальнай рыторыкі ў працэсе развіцця Грамады[31].

Іншы польскі даследчык Войцех Сляшынскі ў сваім артыкуле пра Грамаду выказаў меркаванне, што такі поспех БСРГ звязаны з травеньскім пераваротам Пілсудскага. Паводле даследчыка, менавіта гэтае ўзрушэнне нарадзіла надзею на змены ў беларускім грамадстве ў другой палове 1926 года[32].

Варта адзначыць, што беластоцкія гісторыкі збольшага засяроджваюць увагу на дзейнасці Грамады ў паветах, што сёння належаць да Польшчы.

[27] А. Смалянчук, *Разгром «Грамады» на старонках польскага віленскага друку («Кур'ер Віленьскі», «Пшеглёнд Віленьскі», «Слова»)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 79-87.

[28] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, s. 97.

[29] *Powstanie i działalność Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady na Białostocczyźnie. Materiały z sesji popularno-naukowej poświęconej 40-leciu BWRH*, Białystok 1973, ss. 178.

[30] W. Choruży, *Działalność Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady w powiecie białostockim, bielskim i sokólskim w latach 1925-1927*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 1994, t. 1, s. 40-62.

[31] Там жа.

[32] W. Śleszyński, *Białoruska działalność dywersyjna w pierwszej połowie lat dwudziestych i formowanie się Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2008, t. 29, s. 190.

Пераходзячы да сучаснай беларускай гістарыяграфіі БСРГ, трэба паўтарыць, што на сённяшні дзень не існуе агульнай працы па БСРГ, напісанай з пазіцыі незалежнай беларускай гістарычнай навукі. Сінтэтычныя працы па гісторыі Беларусі, што апісваюць гісторыю Грамады, дагэтуль спасылаюцца збольшага на дасягненні савецкіх аўтараў. Слушнай выглядае цытата беларускага гісторыка Анатоля Сідарэвіча: «Нам трэба па-новаму асэнсаваць гісторыю Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады (БСРГ). І па-новаму яе напісаць»[33].

Гэтая гісторыя пачынае пісацца нанава. За апошнія дзесяцігоддзі з’явіўся шэраг гістарычных прац, дзе даследчыкі спрабуюць нанова асэнсаваць месца БСРГ у беларускай гісторыі. Большасць сучасных гісторыкаў вымушана дыскутаваць са сваімі папярэднікамі, а менавіта, з савецкімі даследчыкамі. Вяртаючыся да праблемы класіфікацыі БСРГ паводле яе палітычнай накіраванасці, варта адзначыць цікавую працу даследчыка Аляксандра Радзюка. У сваім невялікім па аб’ёме артыкуле *Нацыянальныя і сацыялістычныя складнікі праграмы і статута Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады*[34] ён спрабуе правесці гэтую класіфікацыю. Выкарыстоўваючы ідэі класіка тэорыі нацыяналізму Энтані Сміта, Радзюк адносіць Грамаду да «камуністычных нацыянальных рухаў». Паводле Радзюка, рысы марксісцкага нацыяналізму, сфармуляванага Смітам, добра накладаюцца на БСРГ: замена на месцы лідара традыцыйнага пралетарыяту сялянствам, змена класавага ворага з буржуазіі на неакаланізатараў, што не належаць да нацыі (асаднікі, абшарнікі, адміністрацыя), класавая вайна становіцца «вайною народнага вызвалення» і г.д.[35]

Падобным чынам, толькі больш рэзка, акрэслівае характар Грамады Захар Шыбека: «Дзейнасць БСРГ — яскравы прыклад спробы супрацоўніцтва паміж беларускім нацыяналізмам і расейскім бальшавізмам. Беларускія нацыяналісты пачыналі служыць бальшавіцкай Расеі, маючы надзею на адпаведную ўзнагароду з яе боку»[36]. Як бачна, пераасэнсаванне грамадоўскага руху пачалося. Тое, што марксіст Палуян называў «памылкамі» рэвалюцыйна-дэмакратычнай Грамады на шляху да сацыялістычных мэт», зараз разглядаецца як яе адметная асаблівасць, як нацыянальны складнік яе ідэалогіі.

[33] А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада*. Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/sidarevic709.htm [Дата доступу: 1.05.2012].

[34] А. Радзюк, *Нацыянальныя і сацыялістычныя складнікі праграмы і статута Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады*, «Труды молодых специалистов Полоцкого государственного университета», 2007, № 20, с. 63.

[35] Там жа.

[36] З. Шыбека, *Беларускі нацыянал-камунізм альбо «няправільны» погляд на гісторыю Савецкай Беларусі*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 239.

Вялікім крокам беларускай гістарыяграфіі ў вывучэнні Грамады стала V Навуковая канферэнцыя Беларускага гістарычнага таварыства пад назвай «Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада ў кантэксце Нацыянальнага Адраджэння XIX-XX ст.»[37]. Падчас гэтай канферэнцыі былі ўзнятыя пытанні, якія ў савецкай гістарыяграфіі ці ігнараваліся, ці мелі моцную ідэалагічную афарбоўку. Адным з такіх пытанняў было пытанне стасункаў паміж сябрамі Грамады і іншымі беларускімі палітычнымі партыямі і рухамі. У савецкай гістарыяграфіі, натуральна, антаганізм паміж «рэвалюцыйна-дэмакратычнай» Грамадой і «згодніцкімі, дробнабуржуазнымі» беларускімі партыямі перабольшваўся. Іншы пункт гледжання маюць сучасныя беларускія гісторыкі.

Так, Алесь Пашкевіч у сваім артыкуле *БСРГ у першыя паўгады свайго існавання* падымае цікавую праблему расколу Беларускага пасольскага клуба. Аналізуючы сам раскол і далейшае існаванне дзвюх беларускіх сеймавых фракцый, Пашкевіч даводзіць, што паміж імі, насамрэч, не было рэальных разыходжанняў у мэтах і праграмах. Ён цытуе часопіс «Бальшавік», які выдаваўся камуністычнай групай, што адкалолася ад КПЗБ: «Праз некаторы час пасля расколу не відаць у органах гэтых дзвюх групаў якой-небудзь рэзкай узаемнай крытыкі. У расколе відаць нейкую штучнасць. Расколатыя нібыта бачаць сябе расколатымі кімсьці звонку, насуперак іх уласнай волі, не знаходзяць нагодаў для ўзаемных нападаў і бясконца шкадуюць адзін аднаго»[38]. Такім чынам, Пашкевіч даводзіць, што раскол у БПК не з’яўляўся натуральна абумоўленым, як пра гэта пісалі савецкія гісторыкі. Асноўнае сутыкненне пазіцый лявіцы і правіцы БПК адбывалася па пытаннях стаўлення да БССР, якую першыя пачалі ўважаць за «беларускі дом», а таксама па пытанні саюза беларускіх паслоў-сацыялістаў з НПХ (Незалежнай сялянскай партыі)[39].

Працягвае гэтую тэму Андрэй Вашкевіч у сваім артыкуле *Да пытанняў аб узаемаадносінах БХД і БСРГ*. Ён таксама даводзіць, што паміж лідарамі БСРГ і БХД не існавала прынцыповых разыходжанняў адносна сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускага народа. Канфлікт паміж БСРГ з аднаго боку, і БХД ды БСС з другога, узнікаў з-за рознага стаўлення да БССР дзвюх плыняў беларускага руху. Калі першыя бачылі ў БССР «беларускі дом», то другія недаверліва ставіліся да «пернікаў», што атрымлівалі ўсходнія беларусы ад баль-

[37] «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, 248 с.

[38] А. Пашкевіч, *Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада ў першае паўгоддзе існавання (чэрвень-снежань 1925 г.)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 34-35.

[39] Там жа, с. 34.

шавікоў[40]. З іншага боку артыкул раскрывае пазіцыю беларускіх несацыялістычных партый непасрэдна перад і пасля разгрому Грамады ў 1927 годзе. Вашкевіч цытуе прадстаўнікоў польскай паліцыі: «[Наступствы разгону з'езду ў Старым Беразове — *А. Б.*] выразіліся ў нараджэнні пачуцця агульнабеларускай салідарнасці, якая праявілася ў пэўным збліжэнні лідараў беларускіх партый»[41]. Натуральна, што ў савецкай гістарыяграфіі такія факты цалкам ігнараваліся. У сваім артыкуле Вашкевіч зноў уздымае найважнейшае пытанне датычна БСРГ: «Адказ на пытанне, чым была Грамада: правакацыяй ГПУ, ці спробай нацыянал-камуністаў арганізаваць народнае паўстанне ў Заходняй Беларусі, дадуць толькі новыя даследаванні»[42].

Трэба адзначыць, што падобнае даследаванне праводзіла яшчэ адна беластоцкая даследчыца Маргарыта Ацытка ў сваёй працы *Грамада ў ацэнках Беларускай хрысціянскай дэмакратыі*[43].

Яшчэ адзін выступ на V Канферэнцыі БГТ за аўтарствам Алеся Смаленчука тычыцца рэакцыі некаторых віленскіх польскіх выданняў на разгром Грамады. Артыкул паказвае неадназначнасць рэакцыі польскай грамадскасці на гэтую падзею. З трох аналізаваных газет — краёўскай «Przegląd Wileński», дэмакратычнай «Kurjer Wileński» і кансерватыўнай «Słowo» — паслядоўным праціўнікам ліквідацыі Грамады былі краёўцы. Але і ў газеце «Kurjer» друкавалася крытыка на дзеянні санацыйных улад у дачыненні да гэтай беларускай партыі і нацыянальнага руху ўвогуле[44]. Артыкул Алеся Смаленчука яшчэ раз даводзіць, што феномен Грамады вельмі складаны, а стаўленне да яе было разнастайнае з розных бакоў палітычнай арэны II Рэчы Паспалітай.

Разглядаючы матэрыялы вышэйназванай канферэнцыі, варта адзначыць выступ Арсеня Ліса падчас круглага стала, які можна лічыць падсумаваннем стаўлення да Грамады вялікай часткі беларускіх гісторыкаў. Адным з тэзісаў яго выступу было адмаўленне ад ідэі БСРГ як «экспазітуры» КПЗБ. Ліс заклікае звярнуць увагу на ўласнанацыянальныя беларускія матывы ў дзейнасці Грамады, а менавіта яе культурніцкую і школьную дзейнасць. Гэтаксама ён звяртае ўвагу на г.зв. сецэсію «Старога» і Міхала Гурына-Маразоўскага з КПЗБ, якая раз-

[40] А. Вашкевіч, *Да пытання аб узаемаадносінах Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (1925-1927)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 46.

[41] Там жа, с. 45.

[42] Там жа, с. 47.

[43] M. Ocytko, *Hromada w ocenie Białoruskiej Chrześcijańskiej Demokracji*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2008, t. 29, s. 192-201.

[44] А. Смалянчук, *Разгром «Грамады» на старонках польскага віленскага друку («Кур'ер Віленьскі», «Пшеглёнд Віленьскі», «Слова»)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 80-85.

глядаецца як магчымасць павярнуць камуністычную дзейнасць на ўласнабеларускія мэты[45].

Іншую пазіцыю займае гісторык Анатоль Сідарэвіч. У сваім артыкуле *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада* Сідарэвіч спрабуе аднавіць ролю Луцкевіча ў гісторыі БСРГ, якая ігнаравалася за часамі савецкай улады. Аўтар адзначае, што сама ідэя масавай сялянскай арганізацыі і адзінага сялянска-работніцкага фронту з'явілася ў Луцкевіча яшчэ за некалькі год да ўтварэння Грамады. Гэтаксама ён адзначае пераемнасць паміж праграмай БПК, напісанай Луцкевічам, і праграмай БСРГ. Аднак Сідарэвіч прыходзіць да высноў, падобных да высноў Віленскага працэсу «56-і». Ён сцвярджае: «няма сумневаў, што БСРГ стваралася для падрыхтоўкі антыпольскага паўстаньня. (...) Грамада стваралася як прыбочная арганізацыя і магла працягваць дзейнасць толькі як прыбочная арганізацыя (а больш дакладна — як экспазітура) КПЗБ»[46]. Як бачна, аўтар даволі катэгарычны ў сваіх ацэнках дзейнасці Грамады, сцвярджаючы, што Грамада была «вялікім падманам заходніх беларусаў».

Алег Латышонак і Яўген Мірановіч у сваёй працы *Гісторыя Беларусі: з сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст.* выказалі думку пра тое, што травеньскія падзеі 1926 года ў Варшаве паспрыялі хуткаму росту Грамады. Паводле даследчыкаў, «для пераважнай большасці беларускіх сялян Грамада была надзеяй на змены (...). Тактыка лідараў мала каго цікавіла. Ім проста давяралі, далучаючыся да розных форм дзейнасці, прапанаванай партыяй»[47].

Як бачна, беларускія гісторыкі ўжо пачалі пісаць гісторыю Грамады нанова. Аднак для большасці даследчыкаў найбольш важныя праблемы гісторыі Грамады яшчэ не вырашаныя. Натуральна, што пачалі з'яўляцца адказы на некаторыя спрэчныя пытанні гісторыі БСРГ. Тым не менш, некаторыя адказы ствараюць яшчэ больш пытанняў. Пашкевіч і Вашкевіч канстатавалі, што ў рэальнасці змаганне БСРГ з правымі беларускімі партыямі і рухамі было даволі своеасаблівым. Хоць Грамада і абвяшчала радыкальныя сацыялістычныя лозунгі, гэта не замінала такім асобам, як Радаслаў Астроўскі, Адам Станкевіч, Фабіян Акіньчыц, Антон Луцкевіч, знаходзіць агульную мову і працаваць разам з «сацыялістамі-інтэрнацыяналістамі» з пасольскага клуба БСРГ.

[45] А. Ліс, *Праблемы беларускага нацыянальнага Адраджэння 19-20 ст.* (тэкст выступу падчас дыскусіі), «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 144-145.

[46] А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада*. Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/sidarevic709.htm [Дата доступу: 1.05.2012].

[47] А. Латышонак, Я. Мірановіч, *Гісторыя Беларусі: з сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст.*, Вільня 2010, с. 182.

Калі гэта сапраўды так, то што рабілася ўнутры БСРГ? Палуян казаў пра «рыхласць» структуры Грамады, як пра адну з прычын яе паразы. Ці сапраўды нацыяналістаў у Грамадзе быў «ледзь прыкметны струменьчык», як казала Бергман? Ці існавала «моцная нацыянальная фракцыя, якая імкнулася будаваць беларускую нацыянальную свядомасць»[48], пра якую кажа Яўген Мірановіч? На гэтыя пытанні пакуль няма дакладнага адказу, як і няма дакладнага адказу пра рэальныя прычыны адколу групы Тарашкевіча з БПК, а таксама пра сапраўдныя іх мэты і планы ў дачыненні да БССР. Усе гэтыя праблемы застаюцца адкрытымі ў беларускай гістарыяграфіі і, магчыма, новыя дакументы, уведзеныя ў навуковы зварот, дапамогуць адказаць на гэтыя пытанні. З іншага боку варта акрэсліць таксама і стан навуковага выкарыстання ўжо вядомых крыніц па гісторыі Грамады.

**Крыніцы па гісторыі БСРГ**

Гістарычныя крыніцы, датычныя дзейнасці Грамады, раскіданы па некалькіх краінах. Паколькі БСРГ дзейнічала на тэрыторыі польскай дзяржавы, натуральна, што частка дакументаў, звязаных з яе гісторыяй, захоўваецца ў польскіх архівах. Частка дакументаў, што засталіся ад мясцовых органаў польскай улады, а таксама былі перададзены з віленскіх збораў, знаходзяцца ў беларускіх архівах. Зразумела, частка дакументаў Грамады захоўваецца і ў архівах Літвы.

Перш чым аналізаваць архіўныя крыніцы, варта апісаць некаторыя апублікаваныя дакументы. Некаторыя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй БСРГ, былі апублікаваныя ў першым томе зборніка дакументаў *Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы*[49]. Аднак непасрэдна Грамадзе ў зборніку прысвечана толькі некалькі дзясяткаў дакументаў. Да таго ж падабраныя яны даволі тэндэнцыйна і апісваюць у асноўным рэпрэсіі польскай паліцыі супраць Грамады ці правядзенне грамадоўцамі мітынгаў пад лева-радыкальнымі лозунгамі.

Больш значныя публікацыі крыніц мелі месца ўжо ў наш час. Напрыклад, у 2009 годзе выйшла на беларускай мове праца *Кароткі нарыс беларускага пытання*[50] пад рэдакцыяй Андрэя Вашкевіча, Алеся

[48] Я. Мірановіч, *Барацьба санацыйных уладаў са спадчынай Грамады*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 51.

[49] *Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы*, т. 1: *(1921-1929)*, Минск 1962, 620 с.

[50] *Кароткі нарыс беларускага пытання*, пад рэд. А. Пашкевіча, А. Вашкевіча, А. Чарнякевіча, Мінск 2009, 396 с.

Пашкевіча і Андрэя Чарнякевіча. Гэтая праца, створаная для службовага карыстання ў II аддзеле Генеральнага штаба Войска Польскага, з'яўляецца каштоўнай крыніцай таксама і па гісторыі БСРГ. Адметнасць гэтай працы заключаецца ў тым, што яна прадстаўляе пазіцыю афіцыйных польскіх улад у адносінах да Грамады.

Гэтаксама некаторыя дакументы, звязаныя з гісторыяй Грамады, былі апублікаваныя ў «Гістарычным альманаху». Напрыклад, Алесь Смалянчук апублікаваў успаміны тагачаснага міністра юстыцыі Аляксандра Мейштовіча і фрагменты дзённікавага запісу маршалка Сейма Мацея Ратая[51]. Гэтыя дакументы праліваюць святло на перадумовы і механізмы ліквідацыі Грамады польскімі ўладамі. Таксама, Алесь Смалянчук апублікаваў у 12 нумары «Гістарычнага альманаха» тэксты выступаў паслоў Рагулі і Ярэміча ў абарону Грамады[52]. У гэтым жа томе Алесь Пашкевіч прадставіў тэкст дыскусіі аб БСРГ на III Канферэнцыі КПЗБ, дзе вырашалася, якой арганізацыяй быць Грамадзе — нацыянальнай ці тэрытарыяльнай[53].

Як бачна, за апошнія гады быў апублікаваны шэраг істотных дакументаў, што тычацца гісторыі БСРГ, што не можа не спрыяць далейшаму вывучэнню партыі.

Архіўныя крыніцы па гісторыі Грамады, як згадвалася вышэй, раскіданыя па Беларусі, Польшчы і Літве. Матэрыялы па гісторыі Грамады, што знаходзяцца на Беларусі, захоўваюцца ў некалькіх архівах. Перш за ўсё гэта Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Гэты архіў уключае ў сябе фонды былога Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай Рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР (ЦДАКР БССР), а таксама Цэнтральнага партыйнага архіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ[54]. На абедзве часткі будучага НАРБ спасылаецца Уладзімір Палуян у сваёй працы. У асноўным ён цытуе матэрыял з фонду № 882 ЦДАКР («Цэнтральны камітэт Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, 1925-1927»)[55], а таксама фондаў №№ 2, 822 і 852 гэтага ж архіва. Фонд 882 першапачаткова захоўваўся ў ЦДА ЛССР пад нумарам 254, аднак быў перададзены

[51] *Разгром „Грамады”. За кулісамі палітычнага скандалу*, падрыхт. А. Смалянчук, «Гістарычны альманах», 2003, т. 8, с. 214-227.

[52] *Васіль Рагуля і Фабіян Ярэміч у абароне Грамады. 1927 г.*, падрыхт. А. Смалянчук, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 171-184.

[53] *Тэрытарыяльная ці нацыянальная? Дыскусія аб Грамадзе на III канферэнцыі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі*, падрыхт. А. Пашкевіч, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 163-170.

[54] *Государственное учреждение «Национальный архив Республики Беларусь» (НАРБ). Историческая справка*, [анлайн] Архивы Беларуси. Доступ праз Інтэрнэт: http://archives.gov.by/index.php?id=186065 [прагледжана 15.04.2012].

ў ЦДАКР 14 верасня 1960 года[56]. Некалькі разоў Палуян спасылаецца на фонд 242 Партархіва пры ЦК КПБ. Зараз гэтыя фонды знаходзяцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь і з'яўляюцца цікавымі аб'ектамі для даследавання. На жаль, сучасныя гісторыкі не вельмі часта выкарыстоўваюць матэрыялы, што знаходзяцца там.

Некаторыя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй Грамады, захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). У прыватнасці, 3-ці фонд гэтай установы (Фонд Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча) утрымлівае ў сабе дакументы Антона Луцкевіча, Браніслава Тарашкевіча і іншых дзеячаў БСРГ. Гэты фонд з'яўляецца больш распрацаваным у параўнанні з папярэднімі. На яго спасылаюцца Сідарэвіч, Вашкевіч, Чарнякевіч і іншыя.

Шэраг крыніц па гісторыі БСРГ знаходзіцца ў Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці і ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці. Матэрыялы гэтых архіваў уведзены ў навуковы зварот як працамі савецкіх, так і сучасных (Сяргей Токць, Яўген Мірановіч) даследчыкаў.

Трэба адзначыць, што збольшага архіўныя матэрыялы, датычныя гісторыі БСРГ, што знаходзяцца ў Беларусі, насамрэч распрацаваныя толькі часткова. Напрыклад, фонд Цэнтральнага камітэта БСРГ (ф. 882 НАРБ) зусім не апрацаваны сучаснымі даследчыкамі.

З іншага боку, падаецца, што больш распрацаванымі з'яўляюцца архівы Польшчы. У прыватнасці, іх шырока выкарыстоўвала Аляксандра Бергман у напісанні сваіх прац. Адной з асноўных крыніц яе даследаванняў быў Цэнтральны архіў Цэнтральнага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ЦА ЦК ПАРП — CA KC PZPR). Паколькі КПЗБ падпарадкоўвалася Камуністычнай партыі Польшчы, то шмат матэрыялаў датычна БСРГ і яе дзеячаў (у прыватнасці аўтабіяграфія Арсеня Канчэўскага, абвінаваўчая справа Браніслава Тарашкевіча і іншых) захоўвалася ў Варшаве. Зараз фонды гэтага архіва знаходзяцца ў Бібліятэцы Сейма, а менавіта ў аддзеле Збораў сацыяльнай гісторыі (Wydział Zbiorów Historii Społecznej (ZHS)[57]). Яшчэ адзін архіў, на які спасылаецца Бергман, гэта Цэнтральны архіў Міністэрства ўнутра-

[55] *Государственные архивы Республики Беларусь (1944-1997). Краткий справочник. Национальный архив Республики Беларусь. 1.26. Фонды общественных организаций*, [анлайн] Архивы Беларуси . Доступ праз Інтэрнэт: http://archives.gov.by/index.php?id=468536#1.26.2 [прагледжана 18.04.2012].

[56] Funikova L. Pažyma apie Baltarusių Valstiečių-Darbininkų Hramados ir Pasiuntinių Klubų fondą Nr. 365. LCVA, F. 365.

[57] *Zbiory BS. Wydział Zbiorów Historii Społecznej (ZHS)*, [анлайн] Biblioteka Sejmowa. Доступ праз Інтэрнэт: http://libr.sejm.gov.pl/bibl/zhs.html [прагледжана 20.04.2012].

ных спраў (Centralne Archiwum Ministerstwa Spraw Wewnętrznych), якi змяшчае некаторыя матэрыялы польскай паліцыі і пракуратуры. Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы ў 1998 годзе перадало свае архіўныя фонды ў Інстытут нацыянальнай памяці, дзе яны зараз і знаходзяцца[58]. Як першы, так і другі архіў засталіся па-за ўвагай даследчыкаў БСРГ, нягледзячы на тое, што яны ўтрымліваюць у сабе надзвычай цікавыя матэрыялы.

Больш распрацаваным беларускімі даследчыкамі з'яўляецца Цэнтральны вайсковы архіў Польшчы (Centralne Archiwum Wojskowe). Беларускія гісторыкі асаблівую ўвагу надаюць фондам II аддзела Генеральнага штаба (Oddział II Sztabu Generalnego), які ў II Рэчы Паспалітай займаўся выведкай і контрвыведкай. Яшчэ адной агульнавядомай крыніцай гісторыі БСРГ, якой карысталіся як ранейшыя, так і сучасныя гісторыкі, сталі стэнаграфічныя запісы сеймавых пасяджэнняў, якія таксама знаходзяцца ў бібліятэцы Сейма[59].

Як бачна, у Польскай Рэспубліцы таксама стае фондаў архіваў, нераспрацаваных беларускімі даследчыкамі. Асаблівую ўвагу трэба надаць вывучэнню былога архіва ЦК ПАРП, які змяшчае шмат дакументаў, датычных сувязі паміж КПЗБ і Грамадой.

Агульны аналіз крыніц, выкарыстаных аўтарамі, згаданымі ў першым параграфе, даў падставу лічыць, што матэрыялы літоўскіх архіваў у вельмі малой ступені задзейнічаныя ў беларускай гістарыяграфіі БСРГ.

Уладзімір Палуян спасылаецца ў сваёй працы на фонды №№ 2 і 6 Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Літоўскай ССР. Аднак пры трансфармаванні ЦДА ЛССР у Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў гэтыя фонды былі расфармаваныя. Частка вопісаў з 2-га і 6-га фондаў трапіла ў фонд № 51 (Віленская ваяводская ўправа, Польская Рэспубліка — Wileński Urząd Wojewódzki, Rzeczpospolita Polska). Некаторыя вопісы былога фонду № 6 трапілі таксама і ў 89-ы фонд (Ваяводскае ўпраўленне нацыянальнай паліцыі ў Вільні, Польская Рэспубліка — Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Wilnie, Rzeczpospolita Polska). Гэтыя фонды ЛЦДА адзінкава згадваюцца ў гістарычных даследаваннях. Напрыклад, Яўген Мірановіч цытуе дакумент з 17-га вопісу фонду № 51 ЛЦДА[60]. Аляксандра Бергман некалькі разоў спасы-

58 *Uroczyste przekazanie materiałów z MSWiA do IPN*, [анлайн] Instytut Pamięci Narodowej. Доступ праз Інтэрнэт: http://www.ipn.gov.pl/portal/pl/2/153/Uroczyste_przekazanie_materialow_z_MSWiA_do_IPN.html [прагледжана 28.10.2012].

59 *Zbiory BS. Archiwum Sejmu (AS)*, [анлайн] Biblioteka Sejmowa. Доступ праз Інтэрнэт: http://libr.sejm.gov.pl/bibl/archiwum.html [прагледжана 25.04.2012].

60 Я. Мірановіч, *Барацьба санацыйных уладаў са спадчынай Грамады*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 51-58.

лаецца на матэрыялы фонду № 129 («Віленскі акруговы суд») у сваёй працы *Слова пра Браніслава Тарашкевіча*[61]. Але збольшага яна звяртаецца толькі да справы № 2357, у якой змешчаны пратакол судовага пасяджэння «працэсу 56-і».

Натуральна, вельмі мала даследчыкаў працавалі з нядаўна знойдзенымі ў ЛЦДА матэрыяламі па гісторыі БСРГ. У 2012 г. быў выкладзены ў адкрыты доступ фонд 365, які яшчэ чакае свайго даследчыка.

Апроч архіўных крыніц, у гістарычных працах актыўна выкарыстоўвалася тагачасная публіцыстыка самых розных кірункаў — ад «Звязды» да «Słowa». Натуральна, ужываюцца і працы ранейшых даследчыкаў, як польскіх, так і савецкіх, што даследавалі блізкія да Грамады феномены: КПП, НПХ, КПЗБ, Сельроб і інш. Некаторыя ўспаміны тагачасных дзеячаў (Арэхва, Рагуля, Луцкевіч) таксама ўведзены ў навуковы зварот.

Такім чынам, можна заўважыць, што да гэтага часу ніводзін гісторык не скарыстаўся усёй базай вядомых архіўных крыніц па БСРГ. Некаторыя даследчыкі канцэнтраваліся збольшага на беларускіх крыніцах, некаторыя — на польскіх. Па-за ўвагай большасці заставаліся віленскія фонды, што яшчэ раз даводзіць патрэбу іх вывучэння. Адпаведна, стан даследавання гісторыі Грамады застаецца незадавальняючым. Як ужо згадвалася, адзінай навуковай манаграфіяй, цалкам прысвечанай Грамадзе, застаецца праца Уладзіміра Палуяна.

**Асноўныя вехі гісторыі БСРГ (1925-1927)**

Нягледзячы на тое, што БСРГ праіснавала адносна нядоўга, яна пакінула значны след у гісторыі беларускага руху ў міжваеннай Польшчы і ў гісторыі развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці ўвогуле. Натуральна, што Грамада, якую даследчыкі параўноўваюць з нястрымнай стыхіяй[62], не магла ўзнікнуць без адпаведных унутрана- і знешнепалітычных, эканамічных і сацыяльных перадумоў.

Перш за ўсё патрэбна разгледзець эканамічныя і сацыяльныя варункі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Тэрыторыі былой Віленскай, Гродзенскай і часткова Мінскай губерняў, якія склалі абшар Заходняй Беларусі, спазналі на сабе цяжар нямецкай акупацыі ў гады Першай сусветнай вайны, бальшавіцкія і польскія наступленні і контрнаступленні, масавыя ўцёкі, з’яўленне і знішчэнне дзяржаўных утварэнняў. Большая частка Заходняй Беларусі ўвайшла ў склад II Польскай Рэспублікі паводле Рыжскай мірнай дамовы 1921 года. Канчаткова тэры-

[61] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 192.

[62] А. Вашкевіч, *Да пытання аб узаемаадносінах Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (1925-1927)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 42.

торыя Заходняй Беларусі далучылася да Польскай дзяржавы 20 лютага 1922 г., калі Сейм Сярэдняй Літвы прыняў рашэнне аб далучэнні гэтай дзяржавы да Польшчы[63].

Такім чынам, тэрыторыя Заходняй Беларусі складала 29% тэрыторыі Польскай Рэспублікі. Паводле перапісу 1921 года, у рэгіёне пражывала 4 мільёны чалавек. Дадзеныя наступнага перапісу (1931 г.) паказваюць на лічбу 5 108 800 чалавек[64]. Але калі інфармацыя з польскіх крыніц пра колькасць насельніцтва хутчэй праўдзівая, то працэнтныя суадносіны нацыянальнасцей выклікаюць пытанні. Так, згодна з афіцыйнай статыстыкай, колькасць беларусаў у Палескім, Навагрудскім і Віленскім ваяводствах была на ўзроўні 31%[65]. Беларускія і некаторыя замежныя гісторыкі лічаць гэтыя адсоткі няпраўдзівымі. Так, па падліках Уладзіміра Палуяна, беларусаў у паўночна-ўсходніх ваяводствах Рэчы Паспалітай было 70%[66], паводле Аляксандры Бергман — каля 60%[67]. Рэшту насельніцтва краю складалі палякі, габрэі, літоўцы, украінцы, рускія. У гарадах пераважалі габрэі і палякі, у той час як беларусы ў асноўным складалі насельніцтва вёсак (80% беларусаў) і часткова малых мястэчак[68].

Калі казаць пра эканоміку Заходняй Беларусі, то большасць даследчыкаў справядліва называлі яе сыравінным прыдаткам Польшчы. Заходняя Беларусь апынулася адрэзаная межамі як ад Літвы, так і ад Усходняй Беларусі, што знішчыла традыцыйныя гандлёвыя шляхі. Недасяжнасць найбольш блізкіх балтыйскіх партоў рабіла заходнебеларускую прадукцыю занадта дарагой, а працяглая мяжа з БССР і асабліва становішча памежных раёнаў ускладнялі развіццё гаспадаркі на гэтых землях[69].

Што тычыцца непасрэдна сельскай гаспадаркі, то яна пакутавала ад малазямелля з аднаго боку, а з іншага характарызавалася вялізнымі зямельнымі ўладаннямі абшарнікаў — «крэсавых зуброў». У дадатак на былыя дзяржаўныя землі, якія мясцовыя сяляне часта ўжо апрацоўвалі, засялялі асаднікаў, што стварала дадатковую сацыяльную і нацыянальную напружанасць[70].

Прамысловасць была прадстаўлена ў асноўным лесаапрацоўчай галіной і дробнымі промысламі. Агульная вага прамысловасці ў экано-

[63] А. Трусаў, *Сярэдняя Літва*, «Наша слова», Мінск 2004, № 28.
[64] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 44-45.
[65] У. Палуян, *Беларуская сялянска-рабочая грамада*, с. 16.
[66] Там жа, с. 17.
[67] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, s. 100.
[68] Там жа.
[69] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 64.
[70] Там жа, с. 64-65.

міцы краю была нязначная. Усяго, па падліках даследчыкаў, у Заходняй Беларусі было 100 тысяч работнікаў прамысловасці[71].

Апроч эканамічнага ўціску беларусаў асаднікамі і абшарнікамі, польская ўлада праводзіла і палітычныя рэпрэсіі супраць беларускага насельніцтва. Была закрыта большасць беларускіх школ, адкрытых за часамі нямецкай акупацыі[72]. Рэгулярна адбываліся палітычныя працэсы супраць рэальных ці ўяўных камуністаў. Гэтак жа часта закрываліся беларускія газеты. У адказ на такі нацыянальны і сацыяльны гвалт на пачатку 20-ых гг. шырыўся партызанскі рух, інспіраваны эміграцыйным урадам Вацлава Ластоўскага ў Літве з аднаго боку і савецкім урадам з другога. Гэты рух, аднак, сцішыўся праз эканамічную стабілізацыю ў Польшчы і слабую падтрымку шырокімі пластамі насельніцтва ідэі ўзброенага паўстання[73].

У такіх умовах беларускі рух мусіў выпрацаваць стратэгію дзеянняў. Асноўным метадам барацьбы за вызваленне ад нацыянальнага і эканамічнага ўціску зрабіліся канстытуцыйныя парламенцкія метады. Гэтую ідэю акрэсліў Антон Луцкевіч яшчэ ў 1921 годзе. Ім жа вылучалася ідэя пра масавую сялянскую арганізацыю, што мусіць змагацца за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. У 1922 г. ён узначаліў Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт у Вільні, які правёў паспяховую кампанію на тэрыторыі ўсёй Заходняй Беларусі[74]. На здзіўленне многіх у тагачаснай Рэчы Паспалітай, Блок нацыянальных меншасцей, у які ўваходзілі беларусы, здабыў больш за трацiну ўсіх галасоў выбарцаў з усходніх ваяводстваў. Такім чынам, у лістападзе 1922 г. у Сейм і Сенат Польскай дзяржавы прайшлі 11 і 3 беларускія паслы адпаведна. Так утварылася парламенцкая фракцыя Беларускі пасольскі клуб[75].

Левая частка БПК на працягу 1922-1925 гадоў усё больш радыкалізавалася і збліжалася з лідарамі КФП (Камуністычнай пасольскай фракцыі), КПП і НПХ. Паслы не бачылі плёну ў сваёй соймавай працы, бо там яны ўсё адно заставаліся меншасцю, а іх прапановы адкідаліся польскай эндэцыяй. У гэтых умовах лідар БПК і будучай БСРГ Браніслаў Тарашкевіч наладзіў кантакты таксама і з нелегальнай КПЗБ і ўсё больш схіляўся да супрацоўніцтва з саветамі[76].

[71] Там жа, с. 65.
[72] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, s. 102.
[73] Там жа, с. 103-104.
[74] А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада*. Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/sidarevic709.htm [Дата доступу: 1.05.2012].
[75] A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej...*, s. 104.
[76] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 96.

Такім чынам, у Беларускім пасольскім клубе паўстае ўнутранае напружанне (падаграванае, праўда, звонку). Лявіца БПК на чале з Тарашкевічам усё цяжэй знаходзіць агульную мову з правымі пасламі на чале з ксяндзом Адамам Станкевічам, які быў супраць пагадненняў з камуністамі і НПХ[77].

Так 24 чэрвеня 1925 г. шэраг паслоў БПК абвяшчае аб выхадзе з клуба і стварэнні новай пасольскай фракцыі — Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Непасрэднай прычынай падзелу стала адмова некаторых паслоў БПК далучыцца да законапраекта аб зямельнай рэформе, прапанаванай КФП і НПХ. Але гісторык Алесь Пашкевіч сцвярджае, што праект у любым выпадку не падтрымала б парламенцкая большасць, а гэты законапраект павінен быў, па плане камуністаў, раскалоць БПК па «класавых швах». Яшчэ па адной версіі, асоба старшыні НПХ Сільвестра Ваявудскага і яго дачыненне да беларускага руху стала тым фактарам, які рабіў немагчымым супрацоўніцтва двух палітычных кірункаў у БПК[78].

Важная падзея ў гісторыі Грамады адбылася ўвосень 1925 г. у Сопаце, на тэрыторыі вольнага горада Гданьска. Па ініцыятыве КПП там была арганізавана нелегальная канферэнцыя, у якой удзельнічалі сябры ЦК КПП, ЦК КПЗБ, ЦК КП(б)Б, а таксама прадстаўнікі беларускага руху ў Польшчы — Браніслаў Тарашкевіч, Радаслаў Астроўскі, Язэп Шнаркевіч і іншыя[79]. Антон Луцкевіч, які таксама быў запрошаны, на гэтую канферэнцыю не паехаў. Паводле Сідарэвіча, Луцкевіч не жадаў трапляць пад апеку саветаў[80]. На жаль, матэрыялы з Сопацкай (Гданьскай) канферэнцыі не захаваліся, аднак вядома, што там абмяркоўваліся ўзаемаадносіны паміж камуністычнай партыяй і беларускім рухам у Польшчы, у прыватнасці, справа будучай Грамады. Гэтае ж пытанне ўздымалася і ўзгаднялася на IV Канферэнцыі КПП і III Канферэнцыі КПЗБ, што адбыліся ў Маскве ў канцы 1925 г. Там жа ў снежні 1925 г. Браніслаў Тарашкевіч уступіў у КПЗБ.

Па вяртанні з Масквы Тарашкевіч пачаў актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы да легальнай працы партыі БСРГ. Так у снежні быў

[77] А. Вашкевіч, *Да пытання аб узаемаадносінах Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (1925-1927)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 38-39.

[78] А. Пашкевіч, *Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада ў першае паўгоддзе існавання (чэрвень-снежань 1925 г.)*, «Гістарычны альманах», 2006, т. 12, с. 23-37.

[79] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 83.

[80] А. Сідарэвіч, *Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада.* Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/sidarevic709.htm [Дата доступу: 1.05.2012].

скліканы актыў БСРГ, дзе Тарашкевіч прэзентаваў праграму і мэты будучай партыі. Па дамоўленасці з Тарашкевічам з Прагі вярнулася на Беларусь група беларускіх эмігрантаў.

У другой палове 1925 г. паслы БСРГ распачалі актыўную дзейнасць у Сейме і па-за Сеймам. Асабліва актыўна падаваліся інтэрпеляцыі (запыты) у Сейм аб парушэнні правоў беларускага насельніцтва. У верасні распачалася кампанія за беларускае школьніцтва. За тры месяцы было пададзена 16 тысяч заяў аб адкрыцці 412 школ. У першай палове 1926 г. вялася актыўная агітацыі сумесна з КПЗБ. Апроч улётак і транспарантаў, самі паслы арганізоўвалі мітынгі, дзе прадстаўлялі сваю праграму. Адначасова паслы наладжвалі сетку будучых актывістаў Грамады ў паветах. У красавіку пачаўся падбор інструктараў па стварэнні гурткоў Грамады на месцах. Такіх упаўнаважаных набіралі па 2-3 чалавекі на павет. Да траўня 1926 г. вакол пасольскага клуба ўжо сфармавалася група актывістаў у 100 чалавек[81].

Значна паўплываў на становішча Заходняй Беларусі і палітыку Грамады травеньскі пераварот Пілсудскага. Некаторыя левыя групоўкі ў Польшчы, у прыватнасці КПП і БСРГ, першапачаткова падтрымалі пераварот, спадзеючыся на сацыялістычныя перакананні Маршала. Пазней, аднак, гэтыя партыі прызналі, што ў выніку перавароту 12-13 траўня ў краіне ўсталявалася дыктатура[82]. Тым не менш, карыстаючыся разгубленасцю мясцовых улад, якія не ведалі, што чакаць ад новага гаспадара Варшавы, Грамада пачала дзейнічаць больш актыўна.

Як легальная партыя БСРГ паўстала 1 чэрвеня 1926 года. Менавіта ў гэты дзень пачаў дзейнічаць Цэнтральны сакратарыят Грамады — яе асноўны выканаўчы орган, адказны за арганізацыйную і канцылярскую работу. Гэтым жа летам пачаўся найбольш актыўны перыяд росту Грамады. У ліпені-жніўні 1926 г. пад выглядам настаўніцкіх курсаў у Радашковічах быў арганізаваны 6-тыднёвы семінар для актывістаў Грамады[83]. Ужо да жніўня ў кожным заходнебеларускім павеце было па 3-10 упаўнаважаных. Упаўнаважаныя БСРГ агітавалі сялян да стварэння гурткоў у сваіх вёсках і да ўступлення іх у Грамаду. Колькасць гурткоў пачала расці з такой хуткасцю, што ўлады на пэўным этапе страцілі кантроль над сітуацыяй[84]. Па звестках Цэнтральнага сакратарыята да 1 снежня 1926 г. у шэрагах Грамады стаяла больш за 60 тысяч чалавек[85].

[81] У. Палуян, *Беларуская сялянска-рабочая грамада*, с. 49-55.
[82] Там жа, с. 60.
[83] А. Бергман, *Слова пра Браніслава Тарашкевіча...*, с. 90.
[84] Там жа.
[85] У. Палуян, *Беларуская сялянска-рабочая грамада...*, с. 89.

ны прынцып вызначэння тэрыторыі дзяржавы, якая ў выпадку межаў з Літвой прыблізна адпавядае польска-літоўскай адміністрацыйнай лініі па стане на 9 кастрычніка 1939 г.[14] Гэта значыць, што Вільня мае знаходзіцца на беларускай тэрыторыі. Такая заява беларускага прэм'ера выклікала літоўскую негатыўную рэакцыю, што вылілася на старонкі эміграцыйнага друку. У адказ беларускія перыёдыкі друкавалі абгрунтаванні пазіцый урада БНР і развагі адносна перспектыў беларуска-літоўскіх дачыненняў.

Пытанне Вільні ў эміграцыйнай грамадскай свядомасці і беларусаў, і літоўцаў было цесна звязанае з больш шырокай праблемай гістарычна-культурнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, якое кожны з народаў лічыў сваёй дзяржавай. У выніку, ва ўяўленнях і палітыкаў, і інтэлектуальнай эліты, і шэраговых грамадзян умацоўвалася перакананне: чыя дзяржава (ВКЛ) — таго і Вільня[15]. І з абодвух бакоў прыводзіліся доказы адпаведнай прыналежнасці Княства і яго сталіцы беларускай або літоўскай гісторыі. Палеміка захоплівала і пытанне мовы ў ВКЛ, і этнічнай прыналежнасці кіруючай эліты і іншае. Пры гэтым адным з варыянтаў калі не вырашэння тэрытарыяльных спрэчак, дык хаця б зняцця іх актуальнасці і вастрыні выступала ідэя аднаўлення ў тым ці іншым выглядзе супольнага беларуска-літоўскага дзяржаўнага ўтварэння. Прапановы былі розныя: ад стварэння вузкай беларуска-літоўскай федэрацыі (або канфедэрацыі), дзе Вільня будзе агульнай сталіцай да больш шырокіх міждзяржаўных саюзаў з удзелам іншых балтыйскіх краін, а таксама Украіны і нават краін Скандынавіі[16]. Да сур'ёзнага абмеркавання гэткіх прапаноў на ўзроўні палітычных элітаў не дайшло.

Немагчымасць прыйсці да згоды ў пытанні Вільні на міжурадавых перамовах на пачатку 1949 г. зноў перапыніла наўпроставыя кантакты прадстаўнікоў БНР і Найвышэйшага камітэта вызвалення Літвы. Зведалі змены і дачыненні на ўзроўні грамадскіх арганізацый і асобных людзей. Так, калі цягам 1948 г. на старонках беларускай газеты „Бацькаўшчына" з'яўляліся паведамленні пра супольныя мерапрыемствы беларусаў з літоўцамі, нават пра кроўную роднасць двух народаў (праз

[14] *Інтэрв'ю прэм'ер-міністра Ураду БНР*, „Бацькаўшчына", 19.12.1948, № 40 (43).

[15] *Мы й нашыя суседзі. Беларусь і Летува*, „Бацькаўшчына", 06.02.1949, № 5 (49), с. 3; 23.02.1949, № 6 (50), с. 3; 09.03.1949, № 7 (51), с. 3.

[16] *Суседзям-сваяком на іхныя сьвяты*, „Бацькаўшчына", 15.02.1948, № 4 (7), с. 1-2; Ліцьвін Гудас Крэвэ, *Беларусь і Узбалтыка*, „Бацькаўшчына", 23.01.1949, № 3 (47), с. 2-3; *Пра Беларусаў у летувіскім друку*, „Бацькаўшчына", 25.10.1953, № 41-42 (172-173), с. 8; Я. Каранеўскі, *Пад супольным знакам Пагоні. Да беларуска-летувіскіх узаемадачыненьняў*, „Бацькаўшчына", 28.11.1954, № 43-44 (225-226), с. 2-3.

наяўнасць у беларусаў побач з славянскай і балцкай крыві)[17], то ад пачатку 1949 г. танальнасць паведамленняў выразна змянілася. Паказальнай можа быць зацемка пра святкаванне 625-годдзя пабудовы Лідскага замка, ладжанае літоўскай грамадой у Цюбінгене. Аўтар паведамляў пра тое, як запрошаны на вечарыну беларускі дзеяч Мікола Дзямідаў спрабаваў абвергнуць літоўскую прыналежнасць Ліды і не спаткаў ніякага разумення ў гаспадароў мерапрыемства[18]. Літоўцы лічылі беспадстаўнымі прэтэнзіі беларусаў на гістарычную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага наогул. Непрыняцце літоўскіх дзеячаў і абвінавачанне беларусаў у экспансіяніцкіх настроях выклікаў і той факт, што нававысвечаны пры канцы 1949 г. беларускі праваслаўны іерарх Васіль (Уладзімір Тамашчык) атрымаў тытул віленскага епіскапа.

Своеасаблівы „літоўскі фактар” стаў часткай і ўнутрыбеларускага палітычнага супрацьстаяння. Апаненты Рады БНР на эміграцыі — удзельнікі адноўленай таксама ў 1948 г. Беларускай Цэнтральнай Рады сталі шукаць уласных кантактаў з літоўскімі палітыкамі і нават прапанавалі свой варыянт вырашэння пытання Вільні. Так, у 1950 г. на старонках лонданскага часопіса „Аб’еднаньне” быў апублікаваны артыкул прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага пад назвай „Гранічныя спрэчкі беларусаў з іх суседзямі ды спосаб іх вырашэньня”. У тэксце сярод іншага ўтрымлівалася прапанова правесці мяжу паміж Беларуссю і Літвой па лініі чыгункі Беласток — Дзвінск (Даўгаўпілс). А паколькі чыгунка праходзіла таксама праз Вільню, то і гэты горад падзяліць адпаведна на літоўскі і беларускі сектары. Пры гэтым беларускі аказваўся значна меншы, але важна было менавіта сімвалічнае значэнне наяўнасці беларускай часткі былой сталіцы[19]. Нягледзячы на відавочную кампраміснасць варыянта, ён так і не быў пастаўлены на парадак дня беларуска-літоўскіх дачыненняў. Больш за тое, невядома ці наогул адбываліся кантакты прадстаўнікоў БЦР з літоўскімі палітыкамі на найвышэйшым узроўні. Прынамсі Вацлавас Сідзікаўскас сцвярджаў, што гэткіх кантактаў не было[20].

Тым не менш, цікавасць да апазіцыйных Радзе БНР палітыкаў у літоўскіх дзеячаў існавала, і ўнутрыбеларускія спрэчкі часам правакавалі з’яўленне правакацыйных публікацый на старонках літоўскай прэсы. Так, 12 траўня 1950 г. газета „Lietuvis” змясціла артыкул, дыскрэдытуючы Раду БНР. Тэкст быў заснаваны на выдадзенай пры-

[17] К. Пэлескіс, *Незалежнай Летуве 30 год*, „Бацькаўшчына”, 15.02.1948, № 4 (7), с. 2.

[18] С. К., *Летувіска-беларускі вечар*, „Бацькаўшчына”, 6.02.1949, № 5 (49), с. 2.

[19] А. Калюш, *Гранічныя спрэчкі беларусаў з іх суседзямі ды спосаб іх вырашэньня*, „Аб’еднаньне”, 1950, № 6 (27).

[20] *Ліст А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 10.03.1951*, Архіў БІНіМ.

хільнікамі БЦР брашуры „Хто такія крывічы”[21]. Рэакцыя Урада БНР была даволі вострая. Беларускі прэм’ер Аўген Каханоўскі пісаў: „Завастрэньне нашых дачыненьняў зь летувісамі ў сувязі із спрэчкай за Віленшчыну і высьвячэньнем япіскапа Віленскага (Уладыка Васіль) пачало набіраць з боку летувісаў недапушчальных у міжнародных дачыненьнях формаў. Паміма таго, што ад свайго эміграцыйнага ўраду іхныя грамадзкія камітэты атрымалі распараджэньне варожа ставіцца да нашых нацыянальных арганізацыяў, летувіская эміграцыйная прэса на заданьне й з благаславенства таго-ж ураду сыстэматычна зьмяшчае агрэсыўна-варожыя да нашага вызвольнага руху артыкулы”[22]. Аўген Каханоўскі прапаноўваў прэзідэнту Міколу Абрамчыку не толькі скіраваць ноту пратэсту літоўскаму кіраўніцтву, але і даслаць адмысловую інструкцыю прадстаўніцтвам БНР у розных краінах, каб яны выказвалі пратэсты літоўскім арганізацыям і варожа да іх ставіліся[23]. Яшчэ адной прапановай была антылітоўская кампанія ў СМІ, якая, зрэшты, на той час ужо пачалася і сама па сабе, у адказ на аналагічную з супрацьлеглага боку.

Дзеячы БНР непакоіліся, што нявырашанасць і варожасць стасункаў з літоўцамі можа дрэнна адбіцца на міжнародным іміджы саміх беларусаў, а таксама падштурхне літоўцаў да пошуку кантактаў, прыкладам, з украінцамі, якія падтрымаюць прэтэнзіі Літвы на Вільню, узамен на падтрымку сваіх зацікаўленасцей у абшарах беларускага Палесся[24]. Усё гэта ўрэшце падштурхнула ўрад БНР на тое, каб зрабіць яшчэ адну спробу наладжвання кантактаў с прадстаўнікамі Найвышэйшага камітэта вызвалення Літвы. Так, у студзені 1951 г. міністр замежных спраў БНР Аўген Каханоўскі прапанаваў таму ж Вацлавасу Сідзікаўскасу новае спатканне, гэтым разам у Нью-Йорку, дзе жылі абодва палітыкі[25]. 10 лютага 1951 г. у гатэлі „Вальдорф-Асторыя” адбылося згаданае спатканне, дзе з літоўскага боку быў толькі былы прэм’ер Сідзікаўскас, а з беларускага побач з Аўгенам Каханоўскім прысутнічаў радны Пётра Манькоўскі. Даволі працяглы абмен думкамі скончыўся прапановай літоўскага дзеяча сапраўды не дамаўляцца канчаткова пра статус Вільні і адкласці вырашэнне гэтага пытання на пазнейшы час, праўда, прыняўшы заяву літоўскага боку пра іх прэтэнзіі на гэты горад, а таксама дамовіўшыся на пэўную ўмоўную дэмаркацыйную лінію, якая будзе актуальная на час вызвалення Літвы і Беларусі, каб унікнуць няпэўнасці да канчатковага вырашэння пытання межаў. У якасці такой дэмар-

[21] А. Крыга, *Адумайцеся, суседзі*, „Бацькаўшчына”, 15.09.1950, № 63, с. 5.
[22] *Ліст А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 20.05.1950*, Архіў БІНіМ.
[23] Там жа.
[24] В. Мікалаеня, *Небясьпека з-за балота*, „Беларус”, 10.02.1951, № 1 (3), с. 3-4.
[25] *Ліст А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 24.01.1951*, Архіў БІНіМ.

кацыйнай лініі літоўцы прапаноўвалі лінію Палецкіса, г.зн. наяўную на той момант мяжу паміж БССР і Літоўскай ССР[26]. У пэўным сэнсе, прапанова адкласці канчатковае вырашэнне тэрытарыяльных пытанняў на потым, пагадзіўшыся пакуль на часовае захаванне існуючага становішча, было крокам наперад у беларуска-літоўскіх дачыненнях. І Аўген Каханоўскі настойліва прапаноўваў Міколу Абрамчыку задумацца над неабходнасцю прыняцця гэткай прапановы. Ён спрабаваў цвяроза разважыць плюсы і мінусы: „Цяпер Рада мусіць вырашыць і даць Ураду інструкцыі аб тым ці мы:

прыймаем папраўку летувісаў да нашае прапазыцыі што да часовае дэмаркацыйнае лініі між Б[еларуссю] і Л[ітвой], якая, на мой погляд, ёсьць скрайняй іхнай прапазыцыяй, ужо некаторым кампрамісам, хоць і меншым ад нашага, папраўку, якая прэстыжова ня ганьбіць нас, бо пытаньне Вільні й дзяржаўнай мяжы між Б[еларуссю] і Л[ітвой] застаецца адчыненым, а мы толькі часова з пэўнай некарысьцю для сябе на будучыню (на самы мамэнт вырашэньня нашых дзяржаўных спрэчак) згаджаемся на сяньняшняе статус-кво, а за гэта: 1) спыняем некарысныя для нашай вызвольнае палітыкі спрэчкі зь імі; 2) падпісваем зь імі умову аб супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе; 3) адчыняем шырэй дзьверы да далейшага зьбліжэньня з латышамі і эстонцамі, зьвязанымі зь летувісамі ўмоваю балтыцкага блёку; 4) можам мець гарантыі, што на выпадак вызваленьня яны, дыплёматычна сільнейшыя за нас і вайскова, прынамся на пачатак, найпраўдападабней лепей зарганізаваныя, не пераступяць мяжы БССР і ЛССР, як гэта было за часоў нямецкае акупацыі.

або адкідаем гэтую папраўку і шукаем новых спосабаў і формулаў разьвязаньня спрэчак, з сумлівам, ці знойдзем штось лепшае і, урэшце, зусім зрываем зь імі, а тады: 1) яны будуць нам усюды шкодзіць; 2) не здабудзем умоваў поўнага зьбліжэньня з лат[ышамі] і эстонцамі; 3) а на выпадак вызваленьня яны будуць мець вольную руку заняць ня толькі спрэчную тэрыторыю, дзе хоць савецкая, але ўсё-ж іхная адміністрацыя ёсьць, але й значна шырэй; чым бы яно там далей ня скончылася, ці выйграем што з гэтага — прадбачыць цяжка".

На думку беларускага прэм'ера, найперш трэба было наладзіць грамадскае абмеркаванне літоўскай прапановы. Інфармацыя пра перамовы павінна была пайсці ў прадстаўніцтвы БНР у розных краінах, быць абмеркаванай на месцах і вынікі гэтага пазней быць разважанымі ўласна Радай[27]. Аднак ужо пачатак гэтага працэсу выклікаў сур'ёзны крызіс унутры Рады БНР.

[26] *Ліст А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 10.03.1951*, Архіў БІНіМ.
[27] Там жа..

8 красавіка 1951 г. адбылося пасяджэнне Нью-йоркскага сектара Рады БНР, на якім прэм’ер-міністр Аўген Каханоўскі прадставіў прысутным магчымасці заключэння дамовы з літоўцамі пры ўмове адсоўвання на пазнейшы час пытання дзяржаўных межаў, аднак вызнання да таго часу знаходжання Вільні і Віленшчыны пад літоўскай адміністрацыяй. У выніку бурлівай дыскусіі большасць удзельнікаў прагаласавала за прыняцце прапановы літоўцаў[28]. Аднак актыўная меншасць на чале з радным Леанідам Галяком распачала грамадскую кампанію па адмене гэтай пастановы. У іншых асяродках, як выглядае, нават не паспелі атрымаць інфармацыі пра літоўскія прапановы і іх абмеркаваць, бо актыўныя праціўнікі ўжо прадставілі нью-йоркскія падзеі як здраду дзяржаўным інтарэсам БНР. У Раду пайшлі актыўныя пратэсты ад розных дзеячаў і сектараў з патрабаваннем не падпісваць пагаднення з літоўцамі і нават адмяніць пастанову сектара (якая, наогул, вырашальнага значэння для заключэння дамовы не мела)[29]. У выніку 22 красавіка 1951 г. было склікана новае пасяджэнне сектара, дзе папярэдняя пастанова была адмененая[30]. Дамова з літоўскім бокам так і не была падпісаная, а беларускі прэм’ер пакінуў сваю пасаду, а пазней, праз рознагалоссі з прэзідэнтам наогул пакінуў БНР і палітычную дзейнасць.

Ад таго часу пра афіцыйныя кантакты беларускіх і літоўскіх палітыкаў на эміграцыі звестак болей не знойдзена. Цалкам магчыма, што яны маглі адбывацца на прыватным узроўні ў працэсе дзейнасці прэзідэнта Міколы Абрамчыка, аднак вызначальнага характару для абодвух бакоў не мелі. Прыярытэты БНР палягалі ў стварэнні шырокага антыкамуністычнага руху найперш тых „недзяржаўных” (паводле літоўскага меркавання) народаў, прадстаўнікі якіх гуртаваліся ў Лізе вызвалення народаў СССР, доўгагадовым кіраўніком якой і быў беларускі прэзідэнт[31]. Літоўцы ж арыентаваліся найперш на кантакты з прадстаўнікамі краін так званага „сацыялістычнага блока”, згуртаваных вакол Камітэта Свабоднай Еўропы.

Тым не менш, грамадская дыскусія адносна беларуска-літоўскіх дачыненняў працягвалася амаль да канца 1950-х гг. Прычым ініцыявалася яна як беларускімі, гэтак і літоўскімі дзеячамі. Прыкладам апошняга з’яўляецца праведзенае літоўскім палітыкам і журналістам Альмусам апытанне беларускіх, літоўскіх, латышскіх і эстонскіх дзеячаў на тэму перспектыў літоўска-беларускіх, і наогул балтыйска-бе-

[28] Л. Галяк, *Успаміны*, кн. 2, ЗША 1983, с. 117-118.

[29] *Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі*, сьнежань 1983, № 3/17.

[30] Л. Галяк, *Успаміны*, кн. 2, с. 119-120.

[31] Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч, *Рада БНР 1947-1970. Падзеі...*, с. 80-85.

ларускіх дачыненняў. Вынікі гэтага апытання былі апублікаваныя на старонках літоўскай газеты „Tėviškės žiburiai" („Святло Радзімы"), што выдавалася ў Таронта, і абмяркоўваліся на старонках беларускай газеты „Бацькаўшчына"[32]. Пытанні датычылі праблемаў, звязаных са стаўленнем да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, статусам Вільні, магчымасцямі стварэння беларуска-літоўскага ці балтыйска-беларускага саюза. Цікава, што адказы выявілі пэўныя перасцярогі да дачыненняў з беларусамі, якія мелі не толькі ўласна літоўцы, але і прадстаўнікі іншых балтыйскіх народаў. Апошнія бачылі ў беларусах агентаў уплыву рускіх, а да таго ж баяліся, што колькасна большыя беларусы могуць прэтэндаваць на дамінаванне ў супольнай з балтамі дзяржаве[33]. Зрэшты, і спрэчкі вакол спадчыны Вялікага Княства Літоўскага заставаліся не апошнім фактарам неспакою гэтым разам менавіта для літоўцаў у дачыненнях з беларусамі. Прынамсі так тлумачылі прычыны своеасаблівай „сцюдзёнасці" ў адносінах двух народаў менавіта беларускія палітыкі.

Можна меркаваць, што да канца 1950-х гг. у колах беларускай і літоўскай эміграцыі канчаткова аформілася стаўленне перспектыў узаемадачыненняў, а дакладней замацавалася ўяўленне пра немагчымасць дасягнуць згоды. Спрэчкі пра спадчыну ВКЛ надалей усё радзей узнікалі на старонках перыёдыкі і ў навуковай літаратуры. Беларус Аляксандр Ружанцоў, што як бібліёграф працаваў у літоўскіх структурах у ЗША, сцвярджаў, што літоўцы ставяцца да беларусаў, як да бедных сваякоў, а „для большасьці летувіскіх палітыкаў беларусы — вораг нумар першы"[34]. Праўда, часам у газетах з'яўляліся паведамленні пра нейкае ўзаемнае наведванне мерапрыемстваў у тых, ці іншых асяродках[35]. На пачатку 1990-х у беларускім эміграцыйным друку нават былі заявы пра салідарнасць з незалежнай Літвой[36]. Пытанне пра Вільню, як ні дзіўна, ужо не стаяла на перашкодзе. Але тады пачынаўся іншы перыяд міжнацыянальных дачыненняў.

Цягам жа існавання ва ўмовах „халоднай вайны" беларускія і літоўскія эміграцыйныя палітыкі, нават перад тварам агульнага ворага ў выглядзе СССР, не змаглі пераадолець супярэчнасцей ва ўзаемадачыненнях. Зрэшты, застаецца адкрытым і пытанне, ці былі б тыя адносіны іншымі, калі б не існавала праблемы Вільні, бо дачыненні

[32] *Да беларуска-летувіскіх дачыненьняў*, „Бацькаўшчына", 31.10.1954, № 39-40 (221-222), с. 2-3; 07.11.1954, № 41 (223), с. 3.

[33] Я. Каранеўскі, *Пад супольным знакам Пагоні. Да беларуска-летувіскіх узаемадачыненьняў*, „Бацькаўшчына", 28.11.1954, № 43-44 (225-226), с. 2-3.

[34] *Ліст А. Ружанцова да В. Тумаша ад 14.12.1965*, Архіў БІНіМ.

[35] Н., *На сьвяце Незалежнасьці ў лятувісаў*, „Беларус", травень 1981, № 289, с. 4.

[36] *Салідарнасьць зь Летувай*, „Беларус", студзень 1991, № 377, с. 1.

беларусаў і з латышамі, і эстонцамі таксама не аформіліся ў нейкія афіцыйныя дамовы. Не атрымала развіцця і ідэя балтыйска-беларускага, ці скандынаўска-балтыйска-славянскага саюза, які дапамагаў бы малым краінам захоўваць сваю незалежнасць найперш перад тварам вялікай з імперскімі амбіцыямі Расіі, ідэя, якая можа разглядацца як актуальная і сёння.

**Summary**
**The problem of Belarusian-Lithuanian relations in exile after World War II (the late 1940s and early 1950s)**

Based on the archival documents of the Council (Rada) of the Belarusian Democratic Republic and articles published in the most important periodicals in exile—“Bats’kaushchyna” and “Bielarus”, this paper examines the relations between state representatives of the Belarusians and Lithuanians in the West in the second half of the 1940s and early 1950s. The common problems faced by both Belarusian and Lithuanian emigration structures after the war, necessitated their cooperation in various international organizations and also led to the formation of military and political coalitions in the form of the Baltic-Belarusian and Scandinavian-Baltic-Belarusian alliance. The direct bilateral contacts at the level of political institutions were also of the utmost importance, although the negotiations between the government of the Belarusian Democratic Republic and Supreme Committee for the Liberation of Lithuania, which took place in 1948–51, ended in failure. The main problem was the unresolvable issue of the disputed status of Vilna and the Vilna Region. The mutual accusations put a stop to official Belarusian-Lithuanian contacts and led to tension in the relations between both nations.

**Streszczenie**
**Problem stosunków białorusko-litewskich na emigracji po II wojnie światowej (II poł. 1940. — lata 1950.)**

W artykule na podstawie dokumentów archiwalnych Rady BRL i publikacji w największych periodykach emigracyjnych — gazetach „Baćkaŭszczyna” i „Biełarus” — rozpatrzono stosunki przedstawicielstw państwowych Białorusinów i Litwinów na Zachodzie w drugiej połowie lat 1940. i początku lat 1950. Wspólne problemy wyrosłe przed białoruskimi i litewskimi strukturami emigracyjnymi w okresie powojennym zrodziły konieczność współpracy w różnych organizacjach międzynarodowych, a także idee tworzenia koalicji wojskowo-politycznych w formie sojuszu bałtycko-białoruskiego czy skandynawsko-bałtycko-białoruskiego. Wielkie znaczenie przy tym miały bezpośrednie kontakty dwustronne na poziomie instytucji politycznych. Pertraktacje pomiędzy Rządem BRL i Najwyższym Komitetem Wyzwolenia Litwy odbywały się w latach 1948-1951, jednak bez powodzenia. Głównym problemem w stosunkach białorusko-litewskich na emigracji była kwestia przynależności Wilna i Wileńszczyzny, której nierozstrzygalność i wzajemne oskarżenia spowodowały wstrzymanie kontaktów pomiędzy oficjalnymi strukturami politycznymi obu diaspor oraz wywołały napięcie w stosunkach między obydwoma narodami.

**Natalla Hardzijenka** — historyk, kandydat nauk historycznych, redaktor naczelna almanachu „Zapisy Białoruskiego Instytutu Nauki i Sztuki”, wiodąca archiwistka Białoruskiego Państwowego Archiwum-Muzeum Literatury i Sztuki, przewodnicząca Ośrodka Gromadzenia i Badania Spuścizny Dokumentalnej Emigracji Białoruskiej.

**Валянцін Голубеў**
(Мінск)

## З гісторыі канстытуцыйнага будаўніцтва ў Беларусі канца XX — пачатку XXI ст.

Да таго часу, як Вярхоўны Савет Беларусі 27 ліпеня 1990 г. прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР), краіна мела чатыры Канстытуцыі.

Упершыню праблема дзяржаўнага будаўніцтва паўстала на парадку дня палітычных сіл Беларусі ў пачатку XX ст. На развіццё дзяржавабудаўнічых працэсаў вельмі моцна паўплывалі падзеі Першай сусветнай вайны 1914-1918 гг., Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. у Расійскай імперыі. Як адзначалі даследчыкі, у беларускім нацыянальным руху ў гэты час усё большую ролю стаў адыгрываць знешнепалітычны фактар, бо Беларусь „апынулася ў фокусе знешнепалітычных і тэрытарыяльных інтарэсаў Германіі, Савецкай Расіі, а пазней і Польшчы (...)”[1].

Так, пасля падпісання 3 сакавіка 1918 г. Брэсцкага міру паміж Савецкай Расіяй, з аднаго боку, і Германіяй з саюзнікамі, з другога, менавіта пад час нямецкай акупацыі (9 сакавіка 1918 г.) упершыню было прадэкларавана стварэнне беларускай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і абвешчана яе незалежнасць (25 сакавіка 1918 г.)[2]. На жаль, рэальнага палітычнага напаўнення БНР не атрымала.

У далейшым канстытуцыйнае будаўніцтва ў Беларусі адбывалася ўжо на савецкай аснове, пад уплывам напачатку РСФСР, а потым СССР. Так, першая Канстытуцыя абвешчанай 1 студзеня 1919 г. Беларускай ССР была прынята 3 лютага 1919 г. Першым Усебеларускім з’ездам Саветаў і была створана на ўзор Канстытуцыі РСФСР 1918 г. Яна замацавала назву дзяржавы — Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі (ССРБ) і абвясціла яе рэспублікай Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў[3]. Па патрабаванні Масквы ўжо 27 лютага 1919 г. ССРБ аб’ядналася з Літоўскай ССР у Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Літвы і Беларусі (Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, Літбел). У жніўні 1919 г. тэ-

[1] *Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці: XX стагоддзе*, М. П. Касцюк [і інш]; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш], Мінск 2008, с. 63.
[2] Там жа, с. 104-105.
[3] Т. Доўнар, *Канстытуцыя Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі 1919*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т.*, рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.], Мінск 1997, т. 4, с. 90.

рыторыя Літбел была занятая польскімі войскамі і дзяржава з такой назвай перастала існаваць.

Пытанне аб беларускай дзяржаўнасці ізноў паўстала пасля таго, як 11 чэрвеня 1920 г. Чырвоная Армія ўвайшла ў Мінск і ўлада перайшла ў рукі Мінскага губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта (ВРК) на чале з Аляксандрам Чарвяковым. 31 ліпеня 1920 г. у Мінску адбыўся сход кіруючых работнікаў Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі (ЦК КП(б)ЛіБ), ЦК Бунда, Беларускай камуністычнай арганізацыі, Мінскага губернскага ВРК, Цэнтральнага бюро прафесійных саюзаў Мінска і Мінскай губерні, на якім была прынята Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ).

Пасля ўтварэння 30 снежня 1922 г. Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР), заснавальніцай якога разам з РСФСР, УССР і ЗСФР была і БССР, і вяртання ў 1924 і 1926 гг. Расіяй раней адабраных ад Беларусі тэрыторый, узнікла патрэба адлюстраваць палітычныя і тэрытарыяльна-адміністрацыйныя змены ў новым Асноўным законе краіны. 11 красавіка 1927 г. VIII Усебеларускі з'езд Саветаў прыняў другую Канстытуцыю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР). Канстытуцыя замацавала факт уваходжання БССР у склад СССР. БССР абвяшчалася дзяржавай дыктатуры пралетарыяту[4].

12 лютага 1937 г. Надзвычайны XII Усебеларускі з'езд Саветаў прыняў трэцюю Канстытуцыю БССР. Яе змест поўнасцю адпавядаў Канстытуцыі СССР 1936 г. БССР абвяшчалася сацыялістычнай дзяржавай рабочых і сялян[5].

Канстытуцыя Беларускай ССР 1978 г. (чацвёртая Канстытуцыя БССР) была прынята 14 красавіка 1978 г. на Нечарговай дзявятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР IX склікання[6]. Яна была пабудавана ў адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР 1977 г. і аб'явіла, што ў БССР пабудавана сацыялістычнае грамадства (замест абяцанай Камуністычнай партыяй Савецкага Саюза (КПСС) пабудовы ў 1980 г. камунізму — *В. Г.*). Канстытуцыя СССР 1977 г. вызначыла аднапартыйную палітычную сістэму савецкага грамадства: дзяржава, КПСС, грамадскія арганізацыі і працоўныя калектывы. Артыкул 6 Канстытуцыі БССР 1978 г. таксама сцвярджаў, што „кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства, ядром яго палітычнай сістэмы, дзяржаўных і гра-

[4] Т. Доўнар, *Канстытуцыя Беларускай ССР 1927*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 4, с. 89.

[5] Т. Доўнар, *Канстытуцыя Беларускай ССР 1937*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 4, с. 89.

[6] А. Галаўко, *Канстытуцыя Беларускай ССР 1978*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 4, с. 89-90.

мадскіх арганізацый з’яўляецца Камуністычная партыя Савецкага Саюза”. Суверэнітэт БССР быў другасным у адносінах да суверэнітэту СССР. Вярхоўным органам дзяржаўнай улады ў Беларусі паводле Канстытуцыі 1978 г. з’яўляўся Вярхоўны Савет БССР; вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам — Савет Міністраў БССР.

Але пасля прызначэння ў сакавіку 1985 г. на пасаду генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова і абвяшчэння ім „палітыкі перабудовы” ўпершыню за часы існавання СССР з’явілася легальная магчымасць правядзення дэмакратычных змяненняў, заканадаўчага абмежавання палітычнага дыктату КПСС. Спрыяла гэтаму і тое, што СССР уступіў у перыяд глыбокага эканамічнага і сацыяльна-палітычнага крызісу, які быў паглыблены аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, увядзеннем „закону аб цвярозасці”, працягваннем распрацоўкі праграмы „зорных войнаў” са ЗША (САІ — стратэгічная абаронча ініцыятыва) і інш. Рэзкае пагаршэнне ўмоў жыцця, памножанае на памяць пра сталінскія рэпрэсіі, адназначна звязвала ў грамадскай свядомасці ўсе існуючыя ў грамадстве недахопы з наяўнасцю і дзейнасцю КПСС.

З крытыкі палітыкі КПСС, з выказванняў пра неабходнасць яе рэфармавання і пабудовы сацыялізму „з чалавечым тварам” пачаў сваю дзейнасць і М. С. Гарбачоў. Як адзначаў вядомы беларускі гісторык Анатоль Сарокін, „рэформы ў сваёй аснове зыходзілі з неабходнасці ліквідацыі ідэалагічнага дыктату КПСС і праводзіліся ва ўмовах дэмакратызацыі ўнутрыпартыйных адносін. Вынікам такой дэмакратызацыі стала фактычная немагчымасць жорсткага кіравання з боку партыйных органаў дзяржавай і грамадствам *яшчэ да таго, як адпаведны артыкул Канстытуцыі СССР быў адменены*”[7] (выдзелена намі — *В. Г.*).

Справа ў тым, што арганізацыя ўлады ў СССР і саюзных рэспубліках адрознівалася ад той формы, што была запісана ў іх канстытуцыях. Так, напрыклад, у Канстытуцыі БССР 1978 г. (як і ў папярэдніх канстытуцыях — *В. Г.*) сцвярджалася, што ўся ўлада належыць народу. „Народ ажыццяўляе дзяржаўную ўладу праз Саветы народных дэпутатаў, якія складаюць палітычную аснову Беларускай ССР. Усе іншыя дзяржаўныя органы з’яўляюцца падкантрольнымі і падсправаздачнымі Саветам народных дэпутатаў”[8]. Як адзначалася дасле-

[7] А. М. Сарокін, *На шляху да Віскулёў (галоўныя вехі скону СССР і набыцця незалежнасці Рэспублікай Беларусь)*, „Сацыяльна-эканамічныя і прававыя даследаванні”, 2011, № 3, с. 23-24.

[8] *Канстытуцыя (Асноўны закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Прынята на нечарговай дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР дзевятага склікання 14 красавіка 1978 года са змяненнямі і дапаўненнямі, унеснымі Законамі БССР ад 21 чэрвеня 1979 года і 27 кастрычніка 1989 года. — Артыкул 2*, Мінск 1989, с. 5.

чыкамі, гэта азначала паўнаўладдзе саветаў у палітычным жыцці краіны, і, такім чынам, адмову ад прынцыпу раздзялення ўлад у савецкай палітычнай сістэме[9]. Але і саветы ў сваёй уладзе былі абмежаваны. Уладу саветаў абмяжоўвала, а дакладней забрала яе ад саветаў, КПСС. „Кіруючая і накіроўваючая сіла савецкага грамадства, ядро яго палітычнай сістэмы, дзяржаўных і палітычных арганізацый" шляхам безальтэрнатыўных выбараў праводзіла сваіх прадстаўнікоў у Саветы, а праз Саветы — і ў іншыя дзяржаўныя органы. Партыйныя арганізацыі не проста ўмешваліся ў дзейнасць дзяржаўных органаў, а кіравалі імі"[10]. Заняць кіруючую пасаду мог толькі член КПСС. Разам з тым уся паўната ўлады знаходзілася ў руках вярхушкі КПСС — Палітбюро КПСС і Цэнтральных камітэтаў кампартый саюзных рэспублік. Кіраўніком Вярхоўнага Савета мог стаць толькі той чалавек, які быў „рэкамендаваны" на гэтую пасаду вышэйшым органам КПСС, а ў рэспубліках — ЦК Кампартыі саюзнай рэспублікі. Такім чынам КПСС абыходзіла канстытуцыйныя фармуліроўкі і трымала палітычную ўладу ў сваіх руках.

Выказванні пра неабходнасць канстытуцыйных змен у Беларусі даволі адкрыта і шырока пачалі рабіцца пад час выбараў у Вярхоўны Савет СССР (сакавік 1989 г.) і Вярхоўны Савет БССР (сакавік 1990 г.). Але пра сапраўды радыкальныя змены гаворка яшчэ не ішла: асноўным патрабаваннем дэмакратычна настроеных людзей было ўсё тое ж выключэнне з Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР артыкула пра кіруючую і накіроўваючую ролю КПСС.

Разам з тым, змены ў Канстытуцыю ўносіліся і па ініцыятыве ўлад. Так, 27 кастрычніка 1989 г. Вярхоўны Савет БССР унёс змены ў Канстытуцыю, у адпаведнасці з якімі Вярхоўны Савет фактычна ператвараўся ў парламент: ён стаў „вышэйшым пастаянна дзеючым органам дзяржаўнай улады", які мог прымаць да разгляду і вырашаць любое пытанне, якое знаходзілася ў веданні БССР[11]. Аднак трэба прызнаць, што гэтыя правы нівеліраваліся Артыкулам 72 Канстытуцыі БССР: „Законы СССР абавязковыя на тэрыторыі Беларускай ССР".

Вышэйшай службовай асобай БССР стаў старшыня Вярхоўнага Савета БССР, які абіраўся Вярхоўным Саветам з ліку народных дэпута-

[9] Г. А. Василевич, *Белорусское государство на рубеже веков*, Минск 2006, с. 4.

[10] Н. Колпаков, *Разделение властей в современном Российском государстве*, „Конституционное и муниципальное право", 2001, № 2, с. 21.

[11] *Канстытуцыя (Асноўны закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Прынята на нечарговай дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР дзевятага склікання 14 красавіка 1978 года са змяненнямі і дапаўненнямі, унеснымі Законамі БССР ад 21 чэрвеня 1979 года і 27 кастрычніка 1989 года. — Артыкул 97*, Мінск 1989, с. 26.

таў тайным галасаваннем тэрмінам на 5 гадоў і не больш чым на два тэрміны запар. Выканаўча-распарадчая ўлада заставалася за Саветам Міністраў БССР. Старшыня Савета Міністраў (урада) БССР фарміраваў па даручэнні Вярхоўнага Савета склад Савета Міністраў, уносіў па гэтым пытанні ў Вярхоўны Савет адпаведныя прапановы.

Такім чынам, на пачатак 1990 г. у Канстытуцыі БССР быў зафіксаваны наступны парадак дзяржаўнага ўладкавання: Беларусь — парламенцкая рэспубліка ў складзе СССР. Кіраўніком дзяржавы з'яўляўся старшыня Вярхоўнага Савета БССР. Камуністычная партыя нідзе „прапісана" не была.

Але хутка на тэрыторыі СССР пачалі адбывацца падзеі, якія аказалі значны ўплыў і на ход канстытуцыйнага будаўніцтва ў Беларусі. Першае — гэта дзяржавабудаўнічыя працэсы ў рэспубліках Балтыі. 11 сакавіка 1990 г. Вярхоўны Савет Літоўскай ССР абвясціў аб аднаўленні незалежнасці Літоўскай дзяржавы. 30 красавіка 1990 г. Вярхоўны Савет Эстонскай ССР прыняў пастанову „Аб дзяржаўным суверэнітэце Эстоніі", а 4 мая 1990 г. Вярхоўны Савет Латвійскай ССР прыняў дэкларацыю „Аб аднаўленні незалежнасці Латвійскай Рэспублікі". І ў беларускім грамадстве пытанне аб дзяржаўным суверэнітэце выйшла на этап шырокага абмеркавання. У сакавіку1990 г. З'езд народных дэпутатаў СССР унёс змены ў Канстытуцыю СССР, якімі адмяніў манаполію КПСС на палітычную ўладу і ўвёў у краіне пасаду прэзідэнта[12].

У сувязі з гэтым, другім важным пытаннем, якое магло быць вырашана толькі шляхам змены Канстытуцыі БССР, з'яўлялася наяўнасць ці адсутнасць у Беларусі пасады прэзідэнта. Найбольшую вастрыню яно набыло пасля абрання на нечарговым III З'ездзе народных дэпутатаў СССР у сакавіку 1990 г. прэзідэнтам СССР генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова.

Тэарэтычна вырашэнне гэтага пытання ў Беларусі на карысць не прадстаўніка кіруючай палітычнай партыі магло б прывесці да пераходу ўлады да некамуністычных сіл. Гэта разумелі многія, і хоць пра гэта тады адкрыта не гаварылася, але найперш на гэта звярнула асноўную ўвагу так званая партыйная наменклатура.

Такая ўвага да пасады прэзідэнта была выклікана яшчэ і тым, што пасля ўнясення 6 сакавіка 1990 г. З'ездам народных дэпутатаў СССР змен у Канстытуцыю СССР „партыйныя структуры (ЦК КПСС — ЦК Кампартыі саюзнай рэспублікі — абкам — райкам — партыйныя арганізацыі) афіцыйна ўжо не валодалі ўладай, таму ў прэзідэнта фак-

[12] „Ведамасці З'езда народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савета СССР", 1990, № 9, с. 134.

тычна не было вертыкалі, на якую ён мог бы абапірацца ў рэспубліках. Заканадаўчая ўлада перайшла да Саветаў народных дэпутатаў, а выканаўчая — да Саветаў Міністраў саюзных рэспублік"[13]. Больш за тое, у некаторых саюзных рэспубліках таксама пачаў уводзіцца інстытут прэзідэнцтва. У Малдаўскай ССР, Казахскай ССР, Кіргізскай ССР і Туркменскай ССР да канца 1990 г. ужо з'явіліся свае прэзідэнты, якія не вельмі імкнуліся падпарадкоўвацца прэзідэнту СССР.

Прыняцце Канстытуцыі БССР і ўнясенне ў яе змяненняў належала да выключных паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета БССР. Вырашаць пытанні, звязаныя са зменамі канстытуцыйнага ўладкавання ў краіне, давялося Вярхоўнаму Савету БССР XII склікання, выбары якога адбыліся 4 сакавіка 1990 г. Адметнасцю гэтага вышэйшага органа заканадаўчай улады ў Беларусі было тое, што нягледзячы на перавагу ў яго складзе праўраднай камуністычнай большасці, упершыню ў гісторыі краіны там была сфарміравана апазіцыйная фракцыя Беларускага народнага фронту (БНФ) — 27 чалавек, якая адкрыта і паслядоўна выступала з лозунгамі дзяржаўнай незалежнасці[14].

Пытанні палітычнай арганізацыі грамадства і неабходнасці ўвядзення пасады прэзідэнта сталі асноўнымі для Канстытуцыйнай камісіі, якая была створана пастановай Вярхоўнага Савета БССР 20 ліпеня 1990 г. і пачала падрыхтоўку праекта новай Канстытуцыі Беларусі (рашэнне аб утварэнні Канстытуцыйнай камісіі было прынята 22 чэрвеня 1990 г.[15], а 20 ліпеня 1990 г. быў зацверджаны яе персанальны склад). Новаабраны Вярхоўны Савет XII склікання сфарміраваў спецыяльную камісію па стварэнні праекта Канстытуцыі, у якую ўвайшлі 74 чалавекі (62 дэпутаты і 12 экспертаў) на чале з Мікалаем Дземянцеем. Старшынёй Канстытуцыйнай камісіі традыцыйна з'яўляўся старшыня Вярхоўнага Савета. Таму першым яе кіраўніком быў М. І. Дземянцей, другім Станіслаў Шушкевіч, і апошнім, які і падпісаў Канстытуцыю 15 сакавіка 1994 г., Мечыслаў Грыб.

Акрамя дэпутатаў у Канстытуцыйную камісію ў адпаведнасці з займаемымі пасадамі былі ўключаны Валянцін Бараўцоў — загадчык юрыдычнага аддзела Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў БССР, Рыгор Васілевіч — загадчык аддзела па пытаннях заканадаўства і правапарадку ВС БССР, Уладзімір Ганчарык — старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафесійных саюзаў, Георгій Тарнаў-

[13] М. У. Смяховіч, *Рэспубліка Беларусь у 1990-1994 гадах: пытанне аб прэзідэнцкім праўленні*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2011, № 9 (146), с. 4.

[14] З. Пазьняк, *Дэпутаты незалежнасьці*, Нью-Ёрк — Вільня — Варшава 2010, с. 10-13.

[15] „Звязда", 29 чэрвеня 1990 г.

скі — пракурор БССР. Дэпутат Валерый Ціхіня быў адзначаны ў складзе камісіі як міністр юстыцыі БССР. У склад камісіі былі ўведзены і іншыя аўтарытэтныя юрысты, якія не з'яўляліся дэпутатамі Вярхоўнага Савета: Валерый Гадуноў, Сцяпан Драбязка, Навамір Кудзінаў, Сцяпан Сокал, Васіль Чыгір, Міхаіл Чудакоў, Віктар Шабайлаў, Іосіф Юхо. Акрамя таго, з Канстытуцыйнай камісіяй актыўна супрацоўнічалі дактары юрыдычных навук Анатоль Галаўко, Уладзімір Кучынскі, Мікалай Юркевіч і інш.

Для падрыхтоўкі тэксту Канстытуцыі 30 кастрычніка 1990 г. была створана рабочая група, у якую напачатку ўвайшло 12 членаў Канстытуцыйнай камісіі. На першым этапе працы рабочай групы ўзнікла сітуацыя, калі яна не магла прыйсці да агульнай думкі па галоўных палажэннях, на якіх павінен быць заснаваны новы Асноўны закон краіны: палітычны лад, адносіны да СССР і КПСС, пасада прэзідэнта, функцыі і колькасны склад парламента, пытанні мясцовага самакіравання і некаторыя інш.

Рабочая група фактычна падзялілася на „дэмакратаў" і „кансерватараў" і адлюстроўвала, такім чынам, той палітычны расклад, які быў у Вярхоўным Савеце. Параіўшыся, члены рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі вырашылі стварыць са свайго складу дзве рабочыя групы (падгрупы): адну на чале з Васілём Шаладонавым (група „А") і другую на чале з Віктарам Ганчаром (група „Б"), і даручылі кожнай з іх пісьмова сфармуляваць сваё бачанне асноўных палажэнняў новай Канстытуцыі з мэтай іх потым абмеркаваць і вынесці ўзгодненыя прапановы на пасяджэнне Канстытуцыйнай камісіі. У групу „Б" уваходзілі дэпутаты Апазіцыі БНФ і Дэмклуба Яўген Глушкевіч, Валянцін Голубеў, Лявон Зданевіч, Аляксандр Лукашэнка. Актыўна працаваць абедзве групы пачалі з лістапада 1990 г., калі атрымалі непасрэднае даручэнне Канстытуцыйнай камісіі на падрыхтоўку сваіх варыянтаў новай Канстытуцыі.

Спіс членаў Канстытуцыйнай камісіі і экспертаў, якія пастаянна ўдзельнічалі ў выпрацоўцы праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і з'яўляліся, па сутнасці, яе аўтарамі, наступны: В. І. Шаладонаў, В. А. Бараўцоў, Р. А. Васілевіч, А. А. Галаўко, Я. М. Глушкевіч, В. Ф. Голубеў, У. А. Кучынскі, С. Я. Леўшуноў, В. І. Семянкоў, М. А.Тоўсцік, М. Ф. Чудакоў, В. Ф. Чыгір, В. І. Шабайлаў, М. Р. Юркевіч, І. А. Юхо[16].

[16] Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Праект, прадстаўлены на разгляд Дзясятай сесіі Вярхоўнага Савета па стане на 10.03.1994 г., с. 37 (з асабістага архіва В. Ф. Голубева); Р. А. Васілевіч, *Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі*, Мінск 2001, с. 341.

11 лютага 1991 г. у памяшканні пасяджэнняў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР адбылося пасяджэнне Канстытуцыйнай камісіі, дзе яе старшыня М. І. Дземянцей прапанаваў разгледзець прапановы двух рабочых груп для таго, каб прыняўшы пэўныя палажэнні за аснову, надалей працаваць калектыўна.

Было прынята рашэнне правесці паартыкульнае абмеркаванне прапаноў дзвюх груп. Асноўныя спрэчныя пытанні, абмеркаванне якіх было вырашана вынесці на разгляд Канстытуцыйнай камісіі: назва дзяржавы „БССР" (група „А) і „Рэспубліка Беларусь" (група „Б") і назва парламента „Вярхоўны Савет" (група „А) і „Сойм (Рада)" (група „Б"). Ішла спрэчка і па пытаннях сімволікі, прэзідэнцкай ці парламенцкай формы праўлення, грамадскага ладу і інш. Выступілі больш за 20 членаў Канстытуцыйнай камісіі. Лідар парламенцкай апазіцыі, старшыня Беларускага народнага фронту „Адраджэньне" Зянон Пазьняк у сваім выступленні адзначыў, што Канстытуцыя павінна быць заснавана на пэўных універсальных прынцыпах. На яго думку, выразна відаць, што праект групы Ганчара заснаваны на першынстве правоў чалавека, асобы, а праект групы Шаладонава — на прынцыпе першынства народа-дзяржавы. Вось паміж гэтымі двума прынцыпамі, на яго думку, і трэба было знайсці кансенсус"[17].

М. І. Дземянцей, закрываючы абмеркаванне, адзначыў, што з першай спробы аказалася немагчымым улічыць усе выказаныя пажаданні і меркаванні, таму ён даручыў кіраўнікам рабочых груп падрыхтаваць свае прапановы па выніках пасяджэння і прадставіць іх яму, як старшыні Канстытуцыйнай камісіі. Наступнае пасяджэнне Канстытуцыйнай камісіі было прызначана на 25 лютага 1991 г., каб там разгледзець больш дэталёва прапановы рабочых груп і пасля гэтага падрыхтаваць матэрыялы першага варыянта Канстытуцыі для таго, каб раздаць яго для азнаямлення дэпутатам Вярхоўнага Савета.

Пазней па ініцыятыве В. І. Шаладонава абедзве рабочыя групы правялі сумеснае пасяджэнне для таго, каб вызначыць прынцыповыя адрозненні ў падыходах да новай Канстытуцыі дзяржавы. Пры абмеркаванні высветлілася, што абедзве групы стаяць на пазіцыі падрыхтоўкі Канстытуцыі незалежнай дзяржавы, якая па сваім палітычным уладкаванні павінна быць парламенцкай рэспублікай без пасады прэзідэнта. Было прынята рашэнне аб далейшай працы ў складзе адзінай рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі.

Але меркаванне рабочай групы наконт пасады прэзідэнта было толькі меркаваннем рабочай групы. У Вярхоўным Савеце, як і ў Са-

[17] Стэнаграма пасяджэння Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета БССР 11 лютага 1991 г. (з асабістага архіва В. Ф. Голубева).

веце Міністраў і ЦК КПБ ішла дыскусія аб тым, ці патрэбна ўводзіць у Беларусі такую пасаду. Гэта было, па сутнасці, абмеркаванне таго, як магчыма (і ці магчыма) атрымаць (ці ўтрымаць) з дапамогай пасады прэзідэнта ўладу ў дзяржаве. У сувязі з гэтым становіцца зразумелым, чаму Вярхоўны Савет некалькі разоў мяняў сваю пазіцыю па пытанні ўвядзення ў Беларусі пасады прэзідэнта.

Ёсць звесткі аб тым, што пытанне аб увядзенні ў Беларусі пасады прэзідэнта абмяркоўвалася на нарадзе, якая адбылася ў Цэнтральным камітэце КПБ 6 кастрычніка 1990 г. Няўпэўненасць лідараў кампартыі Беларусі ў тым, што Вярхоўны Савет БССР XII склікання абярэ прэзідэнта-камуніста, прывяла да таго, што ЦК КПБ саму ідэю ўвядзення пасады прэзідэнта на гэтай нарадзе ўвогуле не падтрымаў[18].

Але калі тэрмін „парламенцкая рэспубліка" ўсе ўспрымалі амаль аднолькава, то суверэнітэт разумеўся па-рознаму — ад „суверэнітэту саюзнай рэспублікі" да поўнай незалежнасці. Спрэчкі наконт уключэння ў праект Канстытуцыі палажэнняў аб дзяржаўным суверэнітэце працягваліся паміж прадстаўнікамі розных палітычных сіл у парламенце нават пасля прыняцця 27 ліпеня 1990 г. Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Завяршыліся яны толькі 15 сакавіка 1994 г., калі адбылося апошняе галасаванне па праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Значны штуршок для актывізацыі працы над праектам новай Канстытуцыі Беларусі далі падзеі, звязаныя са спробай дзяржаўнага перавароту ў Маскве 19-20 жніўня 1991 г. Праўда, паўплывалі маскоўскія падзеі дваяка: калі адразу пасля паражэння путчыстаў было прынята некалькі важных законаў на карысць незалежнасці, то потым дзейнасць Вярхоўнага Савета ўсё больш падпарадкоўвалася акрыяўшай камуністычнай наменклатуры.

Важнейшай падзеяй было прыняцце 25 жніўня 1991 г. Закона Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі „Аб наданні статуса канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі". У гэтым законе ўстанаўлівалася, што „ў выпадках, калі артыкулы дзеючай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР уваходзяць у пярэчанне з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, кіравацца Дэкларацыяй, як канстытуцыйным законам Беларускай ССР"[19]. Канстытуцыйнай камі-

[18] М. У. Смяховіч, *Рэспубліка Беларусь у 1990-1994 гадах: пытанне аб прэзідэнцкім праўленні*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2011, № 9 (146), с. 5.

[19] Законы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, прынятыя на нечарговай Пятай сесіі Вяр-

сіі даручалася прывесці тэкст праекта Канстытуцыі ў адпаведнасць з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Прыняты ў гэты ж дзень закон „Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Беларускай ССР" зафіксаваў наступную рэдакцыю Артыкула 72 Канстытуцыі БССР: „На тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР. Заканадаўства Саюза ССР дзейнічае на тэрыторыі Беларускай ССР, калі яно не супярэчыць заканадаўству Беларускай ССР"[20].

Але даследчыкі заўважылі і тое, што адразу пасля падзення ў жніўні 1991 г. таталітарнага рэжыму ў Беларусі пачала складвацца аўтарытарная сістэма ўлады. „Партыйна-дзяржаўная наменклатура пераструктурызавалася і, адмовіўшыся ад камуністычнай ідэалогіі, пачала выкарыстоўваць знешнія атрыбуты дэмакратыі ў сваіх карпаратыўных інтарэсах"[21]. На думку члена Канстытуцыйнай камісіі Сяргея Леўшунова, „новы Асноўны Закон з'явіўся па вялікім рахунку адзіным сур'ёзным палітычным актам, прыняцце якога было ініцыіравана беларускай кіруючай элітай з выразным усведамленнем сваіх інтарэсаў"[22].

Першы варыянт (праект) Канстытуцыі быў прапанаваны на разгляд дэпутатаў на сёмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у лістападзе 1991 г. У пастанове Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь „Аб праекце Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь" ад 11 лістапада 1991 г. адзначалася: „1. Адобрыць у першым чытанні асноўныя палажэнні праекта Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь. 2. Апублікаваць праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь у друку для народнага абмеркавання (...) 5. Даручыць Канстытуцыйнай камісіі дапрацаваць праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь з улікам прапаноў і заўваг, выказаных народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь, а таксама паступіўшых у ходзе народнага абмеркавання, і ўнесці яго на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь"[23].

хоўнага Савета Беларускай ССР Дванаццатага склікання 25 жніўня 1991 года (з № 1013-XII па № 1019-XII), с. 7.

20 Там жа, с. 8.

21 В. Чарноў, *Эвалюцыя канстытуцыйнай рэформы праўлення ў Рэспубліцы Беларусь*, „Грамадзянская альтэрнатыва. Грамадска-палітычны аналітычны бюлетэнь", Мінск 1999, № 10, с. 31.

22 С. Левшунов, *Конституционная система: алгоритм белорусской трансформации*, [у:] *Беларусь на пути в третье тысячелетие*, Минск 2001, с. 160.

23 *Законы, пастановы і іншыя акты, прынятыя на сёмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Дванаццатага склікання*, Мінск 1992, с. 71.

У тлумачальнай запісцы да тэксту праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, з якой выступіў кіраўнік рабочай групы па падрыхтоўцы праекта новай Канстытуцыі В. І. Шаладонаў, адзначалася: „На пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у працэсе абмеркавання праекта Канстытуцыі, народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь выказваліся прынцыповыя заўвагі і прапановы. Найбольш актуальным стала пытанне аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь — быць або не быць у Рэспубліцы Прэзідэнту. У выпадку, калі пасада Прэзідэнта ў праекце новай Канстытуцыі не будзе прадугледжана, то мяркуецца, што яго функцыі будуць пераразмеркаваны паміж Вярхоўным Саветам і Урадам ці іншымі органамі Рэспублікі Беларусь. Шмат прапаноў і заўваг выказана па прадстаўленых варыянтах главы аб мясцовым кіраванні і самакіраванні. (...) З улікам выказаных заўваг і прапаноў народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь, а таксама паступіўшых у працэсе народнага абмеркавання, Канстытуцыйная камісія дапрацуе праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь і ўнясе яго на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі”[24].

У сваім дакладзе на сесіі Вярхоўнага Савета В. І. Шаладонаў адзначыў, што акрамя пытанняў аб тым, быць Беларусі прэзідэнцкай ці парламенцкай рэспублікай і аб мясцовым самакіраванні, складана вырашаліся пытанні аб замацаванні ў Канстытуцыі дзяржаўнасці беларускай мовы і наданні такога ж статуса рускай мове, аб прафесійным выкананні дэпутатамі сваіх абавязкаў. На гэта звяртаў увагу і намеснік кіраўніка рабочай групы па падрыхтоўцы тэксту Канстытуцыі Р. А. Васілевіч: „Калі іншыя, узнятыя ў ходзе далейшай працы пытанні былі вырашаны дастаткова лёгка, па іх былі знойдзены аптымальныя варыянты рашэнняў, то адзначанае кола пытанняў заставалася да самай апошняй сесіі, калі ў выніку і была прынята Канстытуцыя, вельмі вострым, якое выклікала многа крытыкі і ўзаемных абвінавачванняў дэпутатаў”[25].

Такім чынам, Вярхоўны Савет Беларусі 11 лістапада 1991 г. адобрыў асноўныя палажэнні праекта Канстытуцыі і вынес яго на народнае абмеркаванне. У Канстытуцыйную камісію паступалі шматлікія прапановы як асобных грамадзян, так і цэлых груп і калектываў, у якіх яны выказвалі сваё бачанне працэсу канстытуцыйнага будаўніцтва ў краіне. Рабочая група Канстытуцыйнай камісіі, а аўтар дадзенага артыкула з’яўляўся яе членам, працавала амаль бесперапынна. Некалькі разоў рабочая група выязджала ў дзяржаўную рэзідэнцыю „Дразды”, дзе яе члены, вызваленыя ад усіх іншых абавязкаў і „адарваныя” ад

[24] Тлумачальная запіска да тэксту праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, 11 лістапада 1991 г. (Матэрыялы для дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь), с. 1-2.

[25] Г. А. Василевич, *Белорусское государство на рубеже веков*, Минск 2006, с. 76.

акаляючага свету, на працягу 7-10 дзён працавалі на тэкстам Канстытуцыі. Былі вывучаны Канстытуцыі ЗША, Германіі, Італіі, Польшчы, Францыі, Швейцарыі і Швецыі. Улічваўся вопыт канстытуцыйнага будаўніцтва ў некаторых постсавецкіх дзяржавах: Літве, Казахстане, Расіі, Украіне[26].

У выніку першы варыянт праекта Канстытуцыі ў асноўным быў падрыхтаваны да канца 1991 г. Прынятыя пры абмеркаванні ў Вярхоўным Савеце артыкулы (тыя, якія набралі большасць пры галасаванні), як правіла, не абмяркоўваліся, а фіксаваліся ў тэксце праекта Канстытуцыі ўжо як прынятыя (узгодненыя).

Але ў гэты ж час палітычная сітуацыя ў Беларусі пачала змяняцца ў бок адыходу ад дэмакратыі і незалежнасці. Знешне здавалася, што ў краіне перамогу атрымалі нацыянальна-дэмакратычныя сілы: была прыпынена дзейнасць КПБ-КПСС, Беларусь заявіла пра сваю незалежнасць, нацыянальныя сімвалы сталі дзяржаўнымі, а ў снежні 1991 г. перастаў існаваць СССР. Але ў кіраўніцтве дзяржавы ўвесь час, нават пасля прыпынення 25 жніўня 1991 г. дзейнасці КПБ-КПСС, пераважалі сілы наменклатурнай камуністычнай бюракратыі. Існуючы ўрад на чале з прэм’ер-міністрам Вячаславам Кебічам у 1990 г. быў сфарміраваны паводле рэкамендацый і ўзгаднення з ЦК КПБ. У Вярхоўным Савеце БССР персанальных змен таксама не адбылося. Выбранне Станіслава Шушкевіча старшынёй Вярхоўнага Савета, як і прыпыненне пасля жнівеньскага путчу 1991 г. дзейнасці КПБ-КПСС, было проста саступкай правячай большасці, якая напачатку спужалася „разборак” з путчыстамі ў Маскве, а потым увесь час імкнулася „выправіць зробленыя памылкі”. Былая камуністычная (наменклатурная) бюракратыя не хавала таго, што яна не збіраецца аддаваць уладу, будзе рабіць усё, каб захаваць кантроль над уласнасцю. Больш за тое, яна імкнулася забяспечыць сваё пануючае становішча заканадаўча, у тым ліку праз прыняцце Асноўнага закона краіны з пасадай прэзідэнта.

Справа ў тым, што пасля прыпынення ў жніўні 1991 г. дзейнасці КПБ-КПСС і выхаду Беларусі са складу СССР у краіне ўсталявалася своеасаблівае двоеўладдзе: у адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР 1978 г. прадстаўнічую і заканадаўчую ўладу ўзначальваў старшыня Вярхоўнага Савета, выканаўчую — старшыня Савета Міністраў. Кожны з іх лічыў сваю пасаду найбольш галоўнай, але ў Канстытуцыі дакладнага вызначэння не было. У такой сітуацыі найбольш зручнай магчымасцю ўмацавання выканаўчай улады было змяненне формы праўлення — увядзенне інстытута прэзідэнцтва — кіраўніка выканаў-

[26] А. В. Курьянович, *Конституция независимой Беларуси: разработка, проекты, принятие*, Минск 2011, с. 31.

чай улады. Гэта было магчыма зрабіць якраз у працэсе падрыхтоўкі новай Канстытуцыі. На пасаду прэзідэнта з боку наменклатуры планаваўся старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Ф. Кебіч. Для ажыццяўлення гэтага плана ў Вярхоўным Савеце была ўтворана парламенцкая фракцыя „Беларусь", у склад якой увайшлі дэпутаты, што працавалі ў структурах выканаўчай улады, ці былі блізкія да іх.

Палітолаг Віктар Чарноў выказваў меркаванне, што менавіта ў гэты час намеклатурная бюракратыя паставіла задачу „прыстасаваць працэсы мадэрнізацыі да свайго ўласнага становішча, інтарэсаў і менталітэту. Дзяржаўна-інстытуцыянальным выражэннем такой палітыкі стаў курс правячай эліты на ўстанаўленне аўтарытарнага рэжыму"[27].

На працягу 1992 г. палітычная сітуацыя ў Беларусі яшчэ больш змянілася на карысць праўладных груповак, хаця, як ужо адзначалася, напачатку нішто не сведчыла, што так можа здарыцца. Паступова пачало нарастаць напачатку прыхаванае, а потым ужо і відавочнае супрацьстаянне паміж старшынёй Савета Міністраў Беларусі В. Ф. Кебічам і старшынёй Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевічам. Справа ў тым, што хаця ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1978 г. вышэйшым органам дзяржаўнага кіравання ў Беларусі быў Вярхоўны Савет, вышэйшая палітычная ўлада на самой справе знаходзілася ў руках Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі (ЦК КПБ). Кіраўнікамі Вярхоўнага Савета і ўрада выбіралі (прызначалі) людзей, якіх вызначалі на гэтыя пасады ў ЦК КПБ. Пасля жніўня 1991 г. сітуацыя змянілася і С. С. Шушкевіч аказаўся першым кіраўніком Беларусі, які быў выбраны парламентам без узгаднення з ЦК КПБ. Таму ён быў для наменклатуры „чужым". Старшыня Савета Міністраў наадварот, атрымаў у 1990 г. ад ЦК КПБ рэкамендацыю на заняцце пасады кіраўніка ўрада і стаў, такім чынам, лідарам партыйнай і савецкай наменклатуры. Каб умацаваць сваё палітычнае становішча і ў перспектыве стаць першай асобай у дзяржаве В. Ф. Кебіч і запланаваў увесці ў праект Канстытуцыі пасаду прэзідэнта, з упэўненасцю, што ён потым пераможа на выбарах.

Да таго ж, на паводзіны наменклатуры кансалідуючы ўплыў аказалі дзеянні дэмакратычнай апазіцыі на чале з Беларускім народным фронтам, накіраваныя на арганізацыю датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета Беларусі. 14 студзеня 1992 г. у Цэнтральную выбарчую камісію (ЦВК) была накіравана заява аб стварэнні Ініцыятыўнай групы па правядзенні рэферэндуму аб датэрміновых выбарах у Вярхоў-

[27] В. Чарноў, *Эвалюцыя канстытуцыйнай рэформы праўлення ў Рэспубліцы Беларусь*, „Грамадзянская альтэрнатыва. Грамадска-палітычны аналітычны бюлетэнь", Мінск 1999, № 10, с. 31.

ны Савет. 13 лютага 1992 г. ЦВК зарэгістравала пытанне: „Ці лічыце Вы неабходным правядзенне восенню 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе закона „Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь", праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?" і даў дазвол на збор подпісаў[28].

Менавіта падзеі 1991 г. і асабліва ініцыятыва дэмакратычных сіл аб правядзенні рэферэндуму аб нечарговых выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі, якая была падтрыманая больш чым 400 тысячамі выбаршчыкаў, падштурхнулі наменклатуру да рашучай барацьбы за ўтрыманне, а потым і заканадаўчае замацаванне сваёй улады. Яны зрабілі ўсё, каб не дапусціць правядзення рэферэндуму, нягледзячы на тое, што такую ідэю актыўна падтрымлівала грамадства.

Каб неяк абгрунтаваць неправавую адмову грамадзянам Беларусі ў правядзенні рэферэндуму, Вярхоўны Савет выкарыстаў рыторыку аб неабходнасці паскарэння працэсаў канстытуцыйнага будаўніцтва ў краіне. 29 кастрычніка 1992 г. Вярхоўны Савет прыняў пастанову, у тэксце якой была змешчана заява „Аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь". Там, у прыватнасці, гаварылася, што Вярхоўны Савет ставіць сваёй задачай прыняцце не пазней, чым у 1993 г. Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Трэба прызнаць, што гэта было зроблена ў тым ліку і з дапамогай старшыні Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіча, які, як і прадстаўнікі наменклатуры, разумеў, што ў выпадку правядзення рэферэндуму і новых выбараў у Вярхоўны Савет бальшыня будзе за прадстаўнікамі нацыянальна-дэмакратычных сіл. І першыя, і другі страчвалі ў такім выпадку свае ўладныя пазіцыі. На жаль, С. С. Шушкевіч, паступіўшы ў гэтай сітуацыі непрынцыпова, нанёс значную шкоду як дзяржаве, так і сабе асабіста.

Як адзначаў член рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі С. Я. Леўшуноў, „(...) прынятае Вярхоўным Саветам рашэнне (пра адмену рэферэндуму. — *В. Г.*), вельмі сумніўнае з пункту гледжання законнасці, бясспрэчна панізіла этычны ўзровень палітычнага жыцця рэспублікі. Яно паслужыла своеасаблівай кропкай адліку, з якой закончылася адступленне кансерватыўных сіл. Палітычная ініцыятыва цяпер была на баку парламенцкай большасці, лідарам якой быў В. Кебіч"[29].

[28] Г. А. Василевич, *Референдумы в Беларуси и ее путь к независимости в конце XX столетия*, Минск 2001, с. 56-57.

[29] С. Левшунов, *Конституционная система...*, с. 162.

Але яшчэ раней за забарону рэферэндуму, 23 кастрычніка 1992 г. праект Канстытуцыі быў вынесены на разгляд дзясятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Перад гэтым праект Канстытуцыі двойчы (у снежні 1991 г. і ў жніўні 1992 г.) быў апублікаваны для народнага абмеркавання і ў Канстытуцыйную камісію паступіла вялікая колькасць заўваг і прапаноў. Кідалася ў вочы, што ў большасьці выпадкаў распрацаваны рабочай групай Канстытуцыйнай камісіі праект падтрымліваўся разам з ідэяй парламенцкай рэспублікі. За моцную парламенцкую рэспубліку ў першую чаргу выступалі прадстаўнікі дэмакратычных сіл, таму што бачылі на прыкладзе іншых дзяржаў — былых рэспублік СССР, што пасада прэзідэнта стварала магчымасці для ўсталявання рэжыму асабістай дыктатуры. Такую пазіцыю падтрымлівалі і некаторыя дэпутаты, што не ўваходзілі ў склад апазіцыі[30].

5 лютага 1993 г. была прынята пастанова Вярхоўнага Савета „Аб праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь", паводле якой рабочай групе Канстытуцыйнай камісіі даручалася дапрацаваць праект Канстытуцыі з улікам заўваг дэпутатаў і замацаваць у ім, між іншым, палажэнні аб тым, што дзяржава базіруецца на прынцыпе раздзялення ўлад; што Беларусь — прэзідэнцкая рэспубліка, у якой прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком выканаўчай улады.

Але самаму Вярхоўнаму Савету яшчэ пэўны час не ўдавалася вызначыцца па прынцыповых пытаннях: форме праўлення і арганізацыі мясцовага самакіравання. Рабочая група Канстытуцыйнай камісіі прапанавала для рэйтынгавага галасавання тры магчымыя варыянты, каб адзін з іх, прыняты большасцю, можна было б узяць за аснову для праекта Канстытуцыі. Гэта: 1. Беларусь — прэзідэнцкая рэспубліка, у якой прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады; 2. Прэзідэнт — кіраўнік дзяржавы, але не кіраўнік выканаўчай улады; 3. Аднаасобнага кіраўніка дзяржавы няма (яго паўнамоцтвы падзелены паміж Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў). Вялікая праца па агітацыі за першы варыянт была праведзена праўрадавай дэпутацкай групай „Беларусь" і ў чэрвені 1993 г. большасць дэпутатаў менавіта яго і падтрымала.

Складанасць для праўрадавай большасці ўяўляла тое, што для прыняцця Канстытуцыі неабходна была не простая, а канстытуцыйная большасць — 2/3 галасоў дэпутатаў. Вялікая колькасць дэпутатаў, перш за ўсё члены БНФ і многія прыхільнікі Дэмклуба, выступалі за парламенцкую рэспубліку без пасады прэзідэнта. Лідар дэпутацкай групы „Беларусь" Генадзь Казлоў, наадварот, заклікаў зацвердзіць

[30] А. В. Курьянович, *Конституция независимой Беларуси...*, с. 71.

прэзідэнцкую форму праўлення, бо інакш, на яго думку, „рэспубліка ўпадзе ў бездань”[31]. Каб неяк вырашыць гэтае пытанне, Вярхоўны Савет 2 снежня 1993 г. вымушаны быў стварыць спецыяльную ўзгадняльную камісію, якая павінна была ўнесці адпаведныя прапановы на сесію Вярхоўнага Савета. Узначаліў камісію В. І. Шаладонаў, а ў яе склад увайшла рабочая група Канстытуцыйнай камісіі і яшчэ 14 дэпутатаў. У выніку большасць узгадняльнай камісіі (але не ўсе яе члены) выказаліся за варыянт Канстытуцыі з прэзідэнцкай рэспублікай. Але спрэчкі ў Вярхоўным Савеце наконт выбару формы праўлення працягваліся. На дэпутатаў, што працавалі ў структурах выканаўчай улады, аказваўся амаль адкрыты ўціск, каб яны падтрымалі „прапрэзідэнцкі” варыянт Канстытуцыі.

Нягледзячы на тое, што С. С. Шушкевіч дапамог наменклатуры ў забароне рэферэндуму, парламенцкая большасць так і не ўспрыняла яго як „свайго” і 26 студзеня 1994 г. па надуманых абвінавачваннях ён быў зняты з пасады старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Важкай прычынай гэтага было тое, што палітычны рэйтынг С. С. Шушкевіча ў гэты час быў значна вышэйшы, чым рэйтынг В. Ф. Кебіча. Таму прыняцце новай Канстытуцыі і ўвядзенне пасады прэзідэнта пры захаванні С. С. Шушкевіча на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савета было даволі рызыкоўным для наменклатуры. В. Ф. Кебіч і яго каманда лічылі, што з адхіленнем С. С. Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савета, іх перамога на прэзідэнцкіх выбарах станавілася амаль гарантаванай. Акрамя таго, С. С. Шушкевіч вельмі асцярожна ставіўся да ўвядзення ў Беларусі пасады прэзідэнта. Ён лічыў, што Беларусь павінна быць парламенцкай рэспублікай, а прэзідэнт заставацца толькі кіраўніком дзяржавы[32]. Такім чынам, пазіцыя старшыні Вярхоўнага Савета не супадала з пазіцыяй прыхільнікаў В. Ф. Кебіча адносна паўнамоцтваў прэзідэнта і гэта было таксама адной з прычын, па якой С. С. Шушкевіч страціў сваю пасаду.

Новым старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 28 студзеня 1994 г. быў выбраны М. І. Грыб, які 1 лютага быў зацверджаны і старшынёй Канстытуцыйнай камісіі. Апошні таксама прыняў удзел у прэзідэнцкай кампаніі, хаця і не адкрыты: паводле Канстытуцыі 1994 г. у выпадку, калі б ніхто з прэтэндэнтаў на выбарах прэзідэнта не перамог, паўнамоцтвы прэзідэнта прыйшлося б выконваць старшыні Вярхоўнага Савета (Артыкул 105 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г.). Таму М. І. Грыб мог быць асабіста зацікаўлены ў тым, каб пасада прэзідэнта з’явілася ў Канстытуцыі.

31 Там жа, с. 104.
32 Там жа, с. 84.

Ціск з боку выканаўчай улады на дэпутатаў Вярхоўнага Савета для забеспячэння прыняцця неабходнага для В. Ф. Кебіча і яго прыхільнікаў варыянта Канстытуцыі працягваўся. Амаль адразу пасля зняцця з пасады старшыні Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіча на галасаванне ў парламенце было пастаўлена пытанне аб увядзенні ў тэкст Канстытуцыі раздзела аб прэзідэнце.

У выніку прыняцце Канстытуцыі адбылося пад ціскам выканаўчай улады — старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Ф. Кебіч вельмі хацеў стаць прэзідэнтам. Было прынятае рашэнне, якое дало магчымасць выканаўчай уладзе прымусіць практычна кожнага залежнага ад яе дэпутата ўзяць удзел у галасаванні па пытанні ўвядзення ў Беларусі пасады прэзідэнта. 19 студзеня 1994 г. лідар „фактычна падкантрольнай Савету Міністраў" дэпутацкай групы „Беларусь" Г. І. Казлоў выступіў з прапановай правесці галасаванне па асобных палажэннях праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь шляхам падачы імянных бюлетэняў[33]. 11 студзеня 1994 г., праз 10 дзён пасля абрання М. І. Грыба старшынёй Канстытуцыйнай камісіі, Вярхоўны Савет прыняў пастанову „Аб правядзенні галасавання па асобных палажэннях Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь шляхам падачы імянных бюлетэняў".

У Вярхоўным Савеце было арганізавана пайменнае галасаванне на працягу трох дзён (24, 25 лютага і 1 сакавіка 1994 г.) спецыяльнымі бюлетэнямі (11 старонак тэксту ў кожным). Працэс галасавання і час уціску на дэпутатаў склаў у агульнай колькасці шэсць дзён (24, 25, 26 (субота), 27 (нядзеля), 28 (панядзелак) лютага і 1 сакавіка 1994 г.). У суботу, нядзелю і панядзелак „парламент не працаваў". Прычым, бюлетэнь можна было атрымаць 24 лютага, а здаць 1 сакавіка (гэта называлася „здаць у дзень галасавання"). У выдаваным дэпутатам пад роспіс бюлетэні для галасавання ўтрымліваліся тры пытанні: 1. Ці прымаеце Вы главу 3. „Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь"?; 2. Ці прымаеце Вы главу 4. „Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь"?; 3. Ці прымаеце Вы раздзел V. „Мясцовае кіраванне і самакіраванне"? На дэпутатаў, асабліва тых, якія працавалі ў структурах выканаўчай улады, аказваўся беспрэцэдэнтны ўціск для таго, каб яны прынялі ўдзел у галасаванні. Галасаванне такім блокам і прывяло да ўхвалення главы пра прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, чаго і дабівалася выканаўчая ўлада. Практычна толькі дэпутаты Апазіцыі БНФ не ўдзельнічалі ў гэтым галасаванні, выказваючы сваю нязгоду як з увядзеннем пасады прэзідэнта, так і з метадамі, якія для гэтага прымяняла дэпутацкая большасць.

Канстытуцыя Беларусі з наяўнасцю ў ёй главы 4. „Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь" была прынята 15 сакавіка 1994 г. Прыняцце Кансты-

[33] Там жа, с. 111.

туцыі суверэннай Рэспублікі Беларусі стала важнейшай гістарычнай падзеяй. Як адзначаў вядомы беларускі палітолаг Валер Карбалевіч, „упершыню беларускі парламент выказаў сваю палітычную волю ў такім важным пытанні без падказкі з Масквы”[34].

У адпаведнасці з новай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 23 чэрвеня 1994 г. адбыліся выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У першым туры ніхто з прэтэндэнтаў не набраў неабходнай большасці галасоў. У другі тур галасавання прайшлі Аляксандр Лукашэнка (каля 45% галасоў) і Вячаслаў Кебіч (17%). Кіраўнік БНФ Зянон Пазьняк набраў каля 13% галасоў выбаршчыкаў, Станіслаў Шушкевіч — 10%, Аляксандр Дубко — 6%, Васіль Новікаў — 4%. У другім туры выбараў, які адбыўся 10 ліпеня 1994 г. перамог А. Р. Лукашэнка, які і стаў першым прэзідэнтам Беларусі (80,3% ад тых, хто ўзяў удзел у галасаванні і 56,7% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў).

Як адзначалася вышэй, пасля ўнясення 27 кастрычніка 1989 г. Вярхоўным Саветам БССР змен у Канстытуцыю, Вярхоўны Савет стаў „вышэйшым пастаянна дзеючым органам дзяржаўнай улады”, які мог прымаць да разгляду і вырашаць любое пытанне, якое знаходзілася ў веданні БССР. Прыняўшы ў 1994 г. новую Канстытуцыю, Вярхоўны Савет замацаваў у ёй прынцып раздзялення ўлад і фактычна адмовіўся ад манапольнага права на ўладу. У артыкуле 6 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і ў самой структуры Канстытуцыі (Раздзел IV. Заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлада) быў замацаваны прынцып раздзялення ўлад. Больш за тое, у Асноўным законе сцвярджалася: „Дзяржава грунтуецца на прынцыпе раздзялення ўлад: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго”[35].

Вярхоўны Савет абвяшчаўся „найвышэйшым прадстаўнічым пастаянна дзеючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь”[36]. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з’яўляўся кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады[37].

Нягледзячы на тое, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 г. надзяляла прэзідэнта значнымі паўнамоцтвамі, у ёй утрымліваўся

[34] В. И. Карбалевич, *Принятие Конституции независимого государства*, [у:] *Национально-государственные интересы Рэспублики Беларусь*, Минск 1999, с. 71.

[35] *Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Прынята на трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 15 сакавіка 1994 года*, Мінск 1994, *Артыкул 6*, с. 4.

[36] Там жа, *Артыкул 79*, с. 14.

[37] Там жа, *Артыкул 95*, с. 17.

таксама сур'ёзны механізм „стрымання і супрацьвагаў". Як адзначаў пазней член рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі С. Я. Леўшуноў, „у цэлым Канстытуцыя 1994 г., надзяліўшы кіраўніка выканаўчай улады паводле выказвання А. Лукашэнкі „шалёнай уладай" і „царскімі паўнамоцтвамі", утрымлівала дастаткова сур'ёзны механізм „стрымлівання і супрацьвагаў"[38]. Так, да прэрагатываў парламента адносілася прызначэнне генеральнага пракурора, кіраўнікоў Вярхоўнага, Вышэйшага гаспадарчага і Канстытуцыйнага судоў, Кантрольнай палаты, праўлення Нацыянальнага банка, Цэнтральнай выбарчай камісіі. Менавіта Вярхоўны Савет, зыходзячы з тэксту Асноўнага закона, павінен быў вызначаць асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі, ваенную дактрыну.

Такім чынам, у адносінах да Асноўнага закона Беларусі 1994 г. можна было гаварыць пра замацаванне ў ёй канцэпцыі „моцны" прэзідэнт — „моцны" парламент. Сіла парламента, сярод іншага, заключалася яшчэ ў тым, што ён меў права адхіліць прэзідэнта ад пасады ў выпадку парушэння апошнім Канстытуцыі альбо здзяйснення злачынства. Прэзідэнт жа не меў права распусціць парламент. Важнейшай акалічнасцю было тое, што для ўзбуджэння працэдуры адлучэння прэзідэнта ад пасады было дастаткова 70 подпісаў дэпутатаў ВС. Пытанне аб парушэнні прэзідэнтам Канстытуцыі павінна было разглядацца Канстытуцыйным судом. У выпадку „станоўчага" заключэння суда паўнамоцтвы прэзідэнта лічыліся прыпыненымі да вынясення канчатковага рашэння Вярхоўным Саветам большасцю ў дзве трэці дэпутатаў"[39].

Як лічаць некаторыя даследчыкі, у першы час пасля выбараў прэзідэнт імкнуўся „(...) унесці такія змены і дадаткі ў Канстытуцыю, якія б пазбавілі парламент часткі паўнамоцтваў на карысць выканаўчай улады, а пры больш спрыяльнай сітуацыі ўвогуле б выключылі Вярхоўны Савет з сістэмы размеркавання ўлад і з палітычнай арэны"[40].

Да таго ж, супрацьстаянне прэзідэнта і Вярхоўнага Савета яшчэ больш абвастрылася пасля прыняцця парламентам законаў „Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" і „Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь". І ў Канстытуцыі, і ў законе „Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" дакладна распісвалася магчымасць адстаўкі прэзідэнта і галоўную ролю ў працэдуры адстаўкі адыгрываў Вярхоўны Савет. Магчымасць роспуску Вярхоўнага Савета ні ў Канстытуцыі, ні ў законе не прадугледжвалася.

[38] С. Левшунов, *Конституционная система...*, с. 167-168.

[39] Там жа, с. 168.

[40] А. В. Курьянович, *Верховный Совет в политической жизни Беларуси: формирование, особенности деятельности, финал (1990-1996)*, Минск 2011, с. 5.

Вырашыць праблему супрацьстаяння па лініі „прэзідэнт—парламент" А. Р. Лукашэнка прапанаваў шляхам правядзення рэферэндуму. Упершыню ідэя правядзення рэферэндуму была агучана ім 2 лютага 1995 г. на сустрэчы з кіраўнікамі ветэранскіх арганізацый. 22 сакавіка 1995 г. А. Р. Лукашэнка перадаў у Вярхоўны Савет пытанні, якія збіраўся вынесці на рэферэндум. Гэта былі пытанні аб наданні рускай мове статуса другой дзяржаўнай, аб замене нацыянальнай сімволікі (белачырвона-белага сцяга і герба „Пагоня") на ранейшую савецкую, аб падтрымцы сацыяльна-эканамічнай палітыкі прэзідэнта і пытанне аб магчымасці роспуску прэзідэнтам парламента. Напачатку апошняе пытанне гучала так: „Ці пагаджаецеся Вы з правам Прэзідэнта распускаць Вярхоўны Савет у выпадку грубага і сістэматычнага парушэння Канстытуцыі?"[41]. Заўважым, што гэтая прапанова была вынесена А. Р. Лукашэнкам нягледзячы на тое, што ў Канстытуцыі не прадугледжвалася права роспуску Вярхоўнага Савета прэзідэнтам. Пасля крытыкі гэтай фармулёўкі з боку дэпутатаў і юрыстаў з-за яе супярэчнасці з Асноўным законам дзяржавы, пытанне было падкарэктавана наступным чынам: „Ці пагаджаецеся Вы з неабходнасцю ўнясення змен у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам у выпадку сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?". Чацвёртае пытанне, што выносілася на рэферэндум, у адрозненне ад папярэдніх, павінна было мець кансультатыўны характар.

Але закон аб рэферэндуме забараняў вынясенне на ўсенароднае галасаванне пытанняў, якія парушаюць гарантыі існавання беларускай нацыянальнай культуры і мовы. Гэта адносілася ў першую чаргу да пытанняў пра дзяржаўную мову, сцяг і герб. Даволі спрэчным было і пытанне аб праве прэзідэнта распускаць парламент.

11 красавіка 1995 г. група дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія прадстаўлялі Апазіцыю, спрабуючы не дапусціць правядзення гэтага рэферэндуму, большасць пытанняў якога, на іх думку, супярэчылі Канстытуцыі або закону аб рэферэндуме[42], аб'явілі ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета галадоўку пратэсту. Гэта пэўным чынам паўплывала на астатніх дэпутатаў. Першае пытанне аб наданні рускай мове дзяржаўнага статуса роўнага з беларускай не атрымала падтрымкі большасці. Не набралі патрэбнай колькасці галасоў і прапановы аб змене дзяржаўнай сімволікі і праве прэзідэнта распускаць парламент. Была падтрымана толькі прапанова аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй.

[41] Там жа, с. 85.

[42] А. Волчак, *Рэферэндум пад друламі аўтаматаў*, „Народная воля", 14-17 мая 2010 г.

Але ў ноч з 11 на 12 красавіка ў залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, дзе знаходзіліся дэпутаты, якія аб’явілі галадоўку, па загадзе кіраўніцтва краіны былі ўведзены падраздзяленні спецназа, якія з прымяненнем сілы выдалілі згаданых дэпутатаў з будынка парламента. Пасля гэтага 13 красавіка 1995 г. дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета пагадзілася з прапановай прэзідэнта правесці 14 мая 1995 г. рэферэндум па ўсіх чатырох пытаннях, сумясціўшы яго з выбарамі ў новы Вярхоўны Савет.

У выніку ўзмоцненай прапрэзідэнцкай агітацыі і прапаганды праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі арганізатары рэферэндуму атрымалі большасць галасоў па ўсіх пытаннях, што былі ўнесены ў бюлетэні для галасавання. Выбары ж новага Вярхоўнага Савета, якія праводзіліся адначасова з рэферэндумам па адных і тых жа акругах, не адбыліся: было абрана толькі 119 дэпутатаў. Цікава і паказальна тое, што ў абсалютнай большасці выбарчых акруг выбары дэпутатаў не адбыліся, як пішуць нават сёння некаторыя даследчыкі, з-за „нізкай яўкі выбаршчыкаў”[43], а рэферэндум у тых жа акругах адбыўся, і яўка там была. Атрымлівалася, што адны і тыя ж людзі бюлетэні па галасаванню на рэферэндуме атрымлівалі, а бюлетэні па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета ім не давалі, ці яны іх не бралі.

Несумненна, што выканаўчая ўлада ў дадзеным выпадку свядома пайшла на зрыў выбараў у парламент. Паводле ж Канстытуцыі 1994 г. Вярхоўны Савет складаецца з 260 дэпутатаў[44], а для таго, каб вышэйшы заканадаўчы орган мог пачаць сваю працу, неабходна каб было абрана не менш чым дзве трэція ад агульнай колькасці дэпутатаў (174 дэпутаты).

Пасля паўторных выбараў у Вярхоўны Савет (29 лістапада і 10 снежня 1995 г.) стала магчымай праца новаабранага Вярхоўнага Савета. 9 студзеня 1996 г. пачалася першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII склікання. Але, нягледзячы на тое, што ў новы парламент прайшло шмат прыхільнікаў А. Р. Лукашэнкі, супрацьстаянне паміж Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам не спынілася. У гэтым адыграла сваю важную ролю пазіцыя кіраўніцтва Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, найперш старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага і яго намесніка Генадзя Карпенкі.

Кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве ажыццяўляў у адпаведнасці з Артыкулам 125 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь незалежны ні ад заканадаўчай, ні ад выканаўчай улады Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь. 9 лютага 1996 г. было пры-

[43] *Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці...*, с. 577.

[44] *Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь... Артыкул 80*, с. 14.

нята пасланне Канстытуцыйнага суда „Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1995 годзе”[45], якое было адрасавана адначасова і прэзідэнту, і Вярхоўнаму Савету. Асноўным пасылам паслання было тое, што ў краіне быў парушаны прынцып раздзялення ўлад і найчасцей парушальнікам Канстытуцыі быў прэзідэнт.

Магчыма, што для таго, каб паўплываць як на сам Канстытуцыйны суд, так і яго кіраўніка В. Г. Ціхіню, у маі 1996 г. прадстаўнікі прапрэзідэнцкай фракцыі „Згода” ў Вярхоўным Савеце выступілі з прапановай аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон аб Канстытуцыйным судзе. Асноўны сэнс гэтай прапановы быў у тым, каб палову суддзяў Канстытуцыйнага суда прызначаў прэзідэнт. Пасля таго, як Вярхоўны Савет не зацвердзіў гэтую прапанову, дэпутаты фракцыі „Згода” дэманстратыўна пакінулі залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. А. Р. Лукашэнка адмовіўся адмяніць свае ўказы, якія, паводле заключэння Канстытуцыйнага суда, супярэчылі Канстытуцыі і 29 снежня 1995 г. выдаў распараджэнне „Аб выкананні нормаў і ўказаў Прэзідэнта”[46].

Такім чынам, у краіне ўзнік канстытуцыйны крызіс. Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд бачылі выхад з яго ў дакладным выкананні палажэнняў Асноўнага закона краіны ўсімі бакамі палітычнага працэсу. А. Р. Лукашэнка і яго каманда — ва ўсталяванні такога парадку, калі ўсе распараджэнні, загады і ўказы прэзідэнта павінны безумоўна выконвацца прадстаўнікамі ўсіх галін улады. Такому „парадку” пярэчыла логіка і сам змест Канстытуцыі.

У ліпені 1996 г. А. Р. Лукашэнка заявіў аб магчымасці правядзення рэферэндуму па ўнясенні змен у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, а 7 жніўня 1996 г. афіцыйна праінфармаваў Вярхоўны Савет аб тым, што ён выступае з ініцыятывай аб правядзенні рэферэндуму па шэрагу пытанняў грамадска-палітычнага жыцця і па новай рэдакцыі Канстытуцыі.

27 жніўня 1996 г. была прынята пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь „Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь”[47]. Прэзідыум Вярхоўнага Савета, вывучыўшы прадстаўленыя ад імя прэзідэнта дакументы, пастанавіў уключыць у бюлетэнь для галасавання тры пытанні, прапанаваныя прэзідэнтам: 1) Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь

[45] *О состоянии конституционной законности в Республике Беларусь в 1995 году*, [у:] *Послание Конституционного Суда Республики Беларусь от 09.02.1996*, „Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь”, 25 октября 1999, № 6/87.

[46] *Нарысы гісторыі беларускай дзяржаўнасці...*, с. 580.

(Дзень Рэспублікі) з 27 ліпеня на 3 ліпеня; 2) „Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?”; 3) „Ці падтрымліваеце Вы скасаванне смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь?”.

Канстытуцыйнае пытанне, якое было сфармулявана „Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменамі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь” было вырашана разгледзець у Вярхоўным Савеце пасля прадстаўлення прэзідэнтам тэксту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які выносіўся на рэферэндум.

Прэзідэнцкі праект новай рэдакцыі Канстытуцыі быў апублікаваны ў канцы жніўня 1996 г.[48] Як адзначаў С. Я. Леўшуноў, „па сутнасці справы гэта быў зусім новы дакумент, праект зусім новага Асноўнага Закона. (...) Праект прадугледжваў змяненне формы праўлення — пераход ад прэзідэнцкай рэспублікі да праўлення з некаторымі элементамі парламентарызму. Прэзідэнт станавіўся „толькі” кіраўніком дзяржавы. Ажыццяўленне выканаўчай улады ўскладвалася на ўрад — Кабінет Міністраў, які быў падсправаздачны прэзідэнту і адказны перад парламентам (!)”[49].

С. Я. Леўшуноў доказна сцвярджаў, што аўтары праекта „дастаткова слаба ўяўлялі сабе прынцыпы ўзаемаадносін у рамках „прэзідэнт — урад — парламент”, прынятыя ў цывілізаваных краінах”[50].

6 верасня 1996 г. А. Р. Лукашэнка выступіў у Вярхоўным Савеце з абгрунтаваннем неабходнасці ўнясення змен у дзеючую Канстытуцыю Беларусі. Выразна было відаць, што прэзідэнт выносіў грамадзянам краіны на галасаванне не папраўкі да Канстытуцыі 1994 г., а новы варыянт Асноўнага закона. Па новай рэдакцыі Канстытуцыі прэзідэнт канцэнтрыраваў у сваіх руках усю паўнату выканаўчай улады і, акрамя таго, надзяляўся істотнымі заканадаўчымі паўнамоцтвамі: ён атрымліваў права выдаваць дэкрэты, якія былі роўныя па сваёй моцы з законамі. Прэзідэнту прадастаўляліся права прызначаць і распускаць урад, прызначаць суддзяў Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў, старшыню і палову суддзяў Канстытуцыйнага суда, кіраўніцтва Нацыянальнага банка, генеральнага пракурора са згоды Савета Рэспублікі, а вызваляць іх з пасады ён мог аднаасобна.

Такім чынам, новая рэдакцыя Канстытуцыі „стварала дзяржаўную мадэль, у якой прэзідэнт, не ўваходзячы ў сістэму раздзялення ўлад,

47 „Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь”, 1996, № 26, с. 492.
48 „Народная газета”, 31 августа — 2 сентября 1996 г.
49 С. Левшунов, *Конституционная система...*, с. 173.
50 Там жа.

а ўзвышаючыся над імі, карыстаўся самымі вялікімі прэрагатывамі. Пры гэтым вызваліць кіраўніка дзяржавы ад пасады было значна цяжэй, чым распусціць парламент. (...) З праекта была выключана норма, згодна якой Прэзідэнт мог быць адпраўлены ў адстаўку з-за парушэння Канстытуцыі”[51].

Паводле праекта Канстытуцыі кіраўнік дзяржавы мог быць вызвалены ад пасады па стане здароўя ці ў сувязі з учыненнем дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства двумя трацінамі галасоў кожнай палаты новага парламента (Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі). Прэзідэнт атрымліваў рашаючую ролю ў фарміраванні парламента, Канстытуцыйнага суда і інш.

Вярхоўны Савет вынес на рэферэндум і свае пытанні. У пастанове Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 г. гаварылася:

„1. Правесці ў Рэспубліцы Беларусь 24 лістапада 1996 г. рэспубліканскі рэферэндум.

2. Уключыць у бюлетэнь для тайнага галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме наступныя пытанні:

а) якія ініцыіруе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь:

2.1. Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.

„За” ці „супраць”?

2.2. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменамі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам.

„За” ці „супраць”?

2.3. Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?

„За” ці „супраць”?

2.4. Ці падтрымліваеце Вы скасаванне смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь?

„За” ці „супраць”?

б) якія ініцыіруюцца дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

2.5. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменамі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў.

[51] А. В. Курьянович, *Верховный Совет в политической жизни Беларуси...*, с. 138.

„За” ці „супраць”?

2.6. Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністратыўна-тэрытарыяльнай адзінкі?

„За” ці „супраць”?

2.7. Ці пагаджаецеся Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца толькі галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

„За” ці „супраць”?”[52].

Пытанні, прадугледжаныя пунктамі 2.1, 2.2, 2.5 і 2.6 выносіліся на абавязковы рэферэндум, а прадугледжаныя пунктамі 2.3, 2.4, 2,7 — на кансультатыўны.

Адносна прапанаванага А. Р. Лукашэнкам варыянта Канстытуцыі 4 лістапада 1996 г. крытычна выказаўся старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. Ціхіня. Канстытуцыйны суд пастанавіў, што адказ на рэферэндуме па канстытуцыйным пытанні можа насіць толькі кансультатыўны характар. Нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з дзеючай Канстытуцыяй рашэнні Канстытуцыйнага суда з’яўляюцца канчатковымі і абскарджванню не падлягаюць, прэзідэнт выдаў два ўказы, якімі адмяніў заключэнне Канстытуцыйнага суда. У гэтых указах было заяўлена, што на рэферэндуме рашэнні па пытаннях Канстытуцыі маюць абавязковы характар, з’яўляюцца канчатковымі і ўступаюць у сілу праз 10 дзён пасля галасавання. 15 лістапада 1996 г. указам прэзідэнта быў адлучаны ад пасады старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі В. І. Ганчар[53].

19-20 кастрычніка 1996 г. у Мінску адбыўся Першы Усебеларускі народны сход. А. Р. Лукашэнка выступіў там з дакладам „Толькі народ мае права вырашаць свой лёс”, у якім актыўна прапагандаваўся рэферэндум па змене Канстытуцыі. На сходзе былі прыняты „Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996-2000 гг.”.

Улічваючы нарастанне палітычнага супрацьстаяння ў беларускім грамадстве, Канстытуцыйны суд прыняў зварот да ўдзельнікаў Усебеларускага народнага сходу з перасцярогай, што прыняцце ім „якіх-небудзь рашэнняў па пытаннях, якія ўваходзяць у кампетэнцыю Вярхоўнага Савета, будзе ні чым іншым, як грубым парушэннем Канстытуцыі”[54].

[52] Г. А. Василевич, *Референдумы в Беларуси...*, с. 116-117.

[53] *О Председателе Центральной избирательной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов: Указ Президента Республики Беларусь, 14 ноября 1996 г., № 469*, „Советская Белоруссия”, 16 ноября 1996 г.

[54] „Свабода”, 18 кастрычніка 1996 г.

19 кастрычніка 1996 г. адбыўся Нацыянальны Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі „За дэмакратыю, супраць дыктатуры", удзельнікі якога прынялі рэзалюцыю супраць змены Асноўнага закона дзяржавы.

Супрацьстаянне паміж прыхільнікамі прэзідэнта і абаронцамі канстытуцыйнага ладу ўзмацнялася. 18 лістапада 1996 г. падаў у адстаўку прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір. У знак пратэсту супраць правядзення рэферэндуму ў адстаўку падалі таксама міністр працы Аляксандр Сасноў і намеснік міністра замежных спраў Андрэй Саннікаў.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія лічылі, што А. Р. Лукашэнка парушае Канстытуцыю, пачалі збіраць подпісы для разгляду пытання аб імпічменце. 19 лістапада 1996 г. адпаведная заява з 73 подпісамі дэпутатаў была перададзена ў Канстытуцыйны суд, які ў гэты ж дзень распачаў справу аб парушэнні прэзідэнтам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь[55].

Сумесную заяву адносна палітычных падзей у Рэспубліцы Беларусь зрабілі прэзідэнты Літвы, Польшчы і Украіны. Выказваючы глыбокую павагу да суверэнных правоў Беларусі, яны заклікалі вырашыць палітычны канфлікт канстытуцыйным шляхам[56].

Дапамагчы пераадолець канстытуцыйны крызіс у Беларусі імкнулася і кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі. 21 лістапада 1996 г. у Мінск прыбыла дэлегацыя ў складзе старшыні Савета Міністраў Расіі Віктара Чарнамырдзіна, старшыні Дзяржаўнай Думы Расіі Ягора Строева і старшыні Савета Федэрацыі Расіі Генадзія Селязнёва. У ноч з 21 на 22 лістапада адбылася сустрэча вышэйзгаданых асоб з прэзідэнтам Беларусі А. Р. Лукашэнкам, старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Г. Шарэцкім і старшынёй Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. Ціхіняй.

У выніку кансультацый і перамоў адбылося падпісанне „Пагаднення аб грамадска-палітычнай сітуацыі і канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь". Прэзідэнт, у адпаведнасці з пагадненнем, адмяняў свае ўказы аб абавязковым характары вынікаў галасавання на рэферэндуме па праекце Канстытуцыі.

Рэферэндум адбыўся 24 лістапада 1996 г. На яго было вынесена 7 пытанняў: чатыры — прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь (аб прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі; аб магчымасці свабоднай куплі і продажу зямлі; аб магчымасці адмены ў Беларусі смяротнага пакарання; аб пераносе Дня Незалеж-

[55] А. В. Курьянович, *Верховный Совет в политической жизни Беларуси...*, с. 159.

[56] „Народная воля", № 107, лістапад 1996 г.

насці Беларусі з 27 на 3 ліпеня) і тры — Вярхоўным Саветам (аб праекце новай рэдакцыі Канстытуцыі 1994 г. прапанаваным дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў; аб фінансаванні ўсіх органаў улады толькі з дзяржаўнай казны і галосна; аб прамых выбарах кіраўніцтва мясцовых выканаўчых органаў улады).

У галасаванні прынялі ўдзел 84,1% правамоцных грамадзян Беларусі. За прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванай прэзідэнтам, прагаласавала больш за 5 млн. чалавек, або 70,4% выбаршчыкаў.

За варыянт Канстытуцыі, прапанаваны дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў прагаласавала 7,9% выбаршчыкаў. Была падтрымана прапанова прэзідэнта аб пераносе Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь з 27 ліпеня на 3 ліпеня — дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (88,2% выбаршчыкаў). Большасць галасаваўшых выказалася супраць свабоднай, без абмежаванняў, куплі і продажу зямлі (82,9%) і супраць адмены ў Рэспубліцы Беларусь смяротнага пакарання (80,4%). Ні адна з прапаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусі не набрала неабходнай колькасці галасоў.

Галоўнай асаблівасцю новага варыянта Канстытуцыі з'явілася *ўвядзенне прэзідэнцкай формы праўлення замест парламенцкай.* У адпаведнасці з новай рэдакцыяй Канстытуцыі значна пашырылася кола правоў прэзідэнта: ён не з'яўляецца кіраўніком урада, прызначае ўсіх вышэйшых службовых асоб, фарміруе ўрад, падпісвае законы і выдае дэкрэты, якія маюць сілу закона, валодае правам распускаць абедзве палаты Нацыянальнага сходу. У *Нацыянальны сход* быў перайменаваны парламент Беларусі. Ён з'яўляецца прадстаўнічым і заканадаўчым органам улады і складаецца з дзвюх палат: *Палаты прадстаўнікоў* і *Савета Рэспублікі.* Выканаўчая ўлада належыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

На рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. сістэма дзяржаўнай улады, зафіксаваная ў Канстытуцыі 1994 г., змянілася. Беларусь стала прэзідэнцкай дзяржавай.

9 верасня 2001 г. А. Р. Лукашэнка быў пераабраны прэзідэнтам Беларусі на другі тэрмін і паводле Канстытуцыі не мог балатавацца на пасаду прэзідэнта на наступных выбарах. Але ён асабіста ініцыіраваў і 17 кастрычніка 2004 г. правёў рэферэндум, на які было вынесена пытанне: *«Ці дазваляеце Вы першаму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А. Р. удзельнічаць у якасці кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у выбарах і ці прымаеце частку першую артыкула 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у наступнай рэдакцыі: «Прэзідэнт выбіраецца на пяць гадоў непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на падставе ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры тай-*

*ным галасаванні».* Па выніках рэферэндуму і на падставе новай папраўкі ў Асноўны закон дзяржавы А. Р. Лукашэнка абіраўся на пасаду прэзідэнта на выбарах 19 сакавіка 2006 г. і 19 снежня 2010 г.

Такім чынам, галоўны ўпор у канстытуцыйным рэфармаванні ў Беларусі на працягу 1990-2012 гг. рабіўся ў першую чаргу на змяненне формы праўлення. У ажыццяўленні такіх канстытуцыйных пераўтварэнняў можна ўбачыць, на першым этапе канстытуцыйнай рэформы, спробы рэфармавання савецкай сістэмы ўлады з паступовай трансфармацыяй у бок квазіпарламенцкай, прэм'ерскай рэспублікі, што садзейнічала ўтварэнню ў беларускім палітычным рэжыме аўтарытарна-персаналісцкіх элементаў (1991-1994 гг.) і пераход, на другім этапе, да прэзідэнцкай формы праўлення (Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая 15 сакавіка 1994 г.) з узмацненнем яе ў варыянце Канстытуцыі, прынятым на рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. [57]


**Summary**

**From the history of constitution-making in Belarus in the late 20th and early 21st centuries**

The paper devoted to the 20th anniversary of the adoption of the Constitution of the Belarusian Republic presents the history of the drawing-up of the constitution of the sovereign Belarusian state and analyses the changes introduced after the presidential elections in Belarus. The author—the then deputy to the Supreme Soviet of the 12th term of office and a member of the Working Group of the Constitution Committee—discusses some unknown or little known phenomena and events which influenced the process of drafting the constitution and its content, as well as analysing attempts on the part of various political forces to use the process of preparing the constitution to maintain or seize power in the country. The article presents the process of preparing the text of the Constitution, as well as establishing and negotiating its fundamental principles (sovereignty, a parliamentary or presidential republic). It describes the pressure exerted by the executive over the deputies of the Supreme Soviet to change the key content of the Constitution's provisions and introduce the office of president. The author unveils the essence and principles of the "roll-call voting held on the individual provisions of the Constitution of the Belarusian Republic with the use of personal cards" which was held on 24–25 February and 1 March 1994. The causes of the escalation of the political confrontation in 1995–6, as well as the nature and results of the constitutional referendum of 24 November 1996 and the resulting changes introduced in the constitution, are also analysed.



**Streszczenie**

**Z historii budownictwa konstytucyjnego w Białorusi w końcu XX i na początku XXI w.**

W artykule poświęconym 20. rocznicy przyjęcia Konstytucji Republiki Białoruś omówiono historię tworzenia Konstytucji suwerennego państwa białoruskiego i przeanalizowano zmiany wniesione do ustawy zasadniczej po wyborach prezydenckich w Białorusi.


[57] В. Чарноў, *Эвалюцыя канстытуцыйнай рэформы праўлення ў Рэспубліцы Беларусь*, „Грамадзянская альтэрнатыва. Грамадска-палітычны аналітычны бюлетэнь", Мінск 1999, № 10, с. 31.

Autor — ówczesny deputowany Rady Najwyższej BSRR XII kadencji i członek Grupy Roboczej Komisji Konstytucyjnej — ukazuje niektóre nieznane bądź mało znane zjawiska i zdarzenia, które wpływały na proces przygotowania ustawy zasadniczej i na jej treść, analizuje próby różnych sił politycznych dążących do wykorzystania procesu budownictwa konstytucyjnego w celu utrzymania bądź zdobycia władzy w kraju. W artykule przedstawiono proces przygotowywania tekstu Konstytucji, opracowywania i uzgadniania podstawowych zasad, na jakich powinna być oparta ustawa zasadnicza (suwerenność, republika parlamentarna lub prezydencka). Ukazano też presję ze strony władzy wykonawczej na deputowanych Rady Najwyższej w celu zmienienia treści kluczowych artykułów Konstytucji i wprowadzenia stanowiska prezydenta. Autor odkrywa istotę i tryb „głosowania imiennego nad poszczególnymi artykułami Konstytucji Republiki Białoruś przy pomocy kart imiennych”, które odbyło się 24-25 lutego i 1 marca 1994 r. Analizie poddano także przyczyny eskalacji konfrontacji politycznej w kraju w latach 1995-1996, charakter i rezultaty referendum konstytucyjnego z 24 listopada 1996 r. i wynikłe stąd zmiany w ustawie zasadniczej.

**Walancin Hołubieŭ** — doktor nauk historycznych, profesor, kierownik Wydziału Historii Białorusi Średniowiecznej i Czasów Wczesnonowożytnych Instytutu Historii Narodowej Akademii Nauk Białorusi.

**Mariusz Maszkiewicz**
(Warszawa)



# Kolorowe rewolucje i mniejszość polska na Białorusi

**Wstęp**

Inżynieria społeczna w systemach totalitarnych nie przewiduje takich zjawisk jak spontaniczne działania, oddolna aktywność obywatelska, religijna żarliwość czy emocje w polityce. Ludziom wychowanym w komunizmie trudno zatem zrozumieć, że za motywacją do działań publicznych nie muszą stać tylko interesy lub zewnętrzna inspiracja. Materialistyczne podejście do polityki wypycha wartości poza obszar racjonalnych działań i skuteczności. Dlatego tak trudno w postkomunistycznym krajobrazie zrozumieć, że za jakimś politycznym aktem czy zbiorowym czynem nie musi stać ciemna siła, prowokacja lub misterny plan obcych służb. W ostatnich latach miejsce marksistowskiego materializmu zajmuje tzw. geopolityka, przy pomocy której bardzo łatwo unieważnia się takie zjawiska jak obywatelskie nieposłuszeństwo, wspólne spontaniczne działanie oraz społeczny sprzeciw.

Z podobnym zjawiskiem mamy do czynienia, kiedy analizujemy aktywność mniejszości polskiej na Białorusi w latach 2004-2006. Pisze o tym szeroko w swoich publikacjach Tadeusz Gawin, pierwszy prezes powołanej oddolnie masowej organizacji społecznej, jaką był Związek Polaków na Białorusi[1]. Próbuje on tłumaczyć genezę i motywacje działaczy. Niejeden uśmiechnie się pod nosem w tym miejscu kryjąc w sobie głębokie przekonanie, że za powołaniem ZPB stały ciemne siły — KGB, GRU i inne sowieckie instytucje. Nawet jeśli przyjąć ten mroczny scenariusz to i tak w rezultacie widać, że w postsowieckim systemie ideologicznym nie znalazło się miejsca dla niezależnej organizacji mniejszości polskiej. Jeżeli założymy, że ten system wyhodował grupę społeczną mającą odegrać określoną rolę, to przecież w końcu musiał tę grupę odrzucić i napiętnować. System zniszczył swoje dzieło, gdyż naprzeciw stanęła siła ludzkich emocji, spontaniczne działania i pragnienie niezależności na tym małym polu, jakim jest działalność ZPB. W prezentowanym poniżej artykule chciałbym zmierzyć się po części z problemem relacji władzy i środowisk obywatelskich w postso-

[1] Zob.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988-2005*, Białystok 2006; *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988-2009. Ocena minionego dwudziestolecia*, Białystok 2009 (red. wspólnie z J. Winnickim); *Polska mniejszość narodowa na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności*, Białystok 2010, a także kilka jego poprzednich prac: *Zwycięstwa i porażki*, Białystok 2003 oraz ostatnio wydana praca *O bycie Polakiem*, Białystok 2013.

wieckiej Białorusi, opisując na przykładzie jednej mniejszości narodowej jaka jest zależność między zwalczaniem przez oficjalne władze zjawiska nazywanego „kolorową rewolucją" a aktywnością polskiej diaspory, której na długie lata odebrano prawo do samodzielnego i niezależnego od władz zarządzania swoimi sprawami.

**Gene Sharp — między cybernetyką społeczną a aksjologią**

Kiedy zastanawiamy się nad istotą zjawiska określanego jako „kolorowe rewolucje", sięgamy do polskich doświadczeń z lat 80. Istotę aktywności wielu środowisk ruchu „Solidarności", sposoby walki o prawa obywatelskie doskonale opisał w swoim bogatym dorobku amerykański uczony profesor Gene Sharp[2]. Jak bardzo niewygodny dla sowieckiego i postsowieckiego systemu jest ten dorobek świadczą liczne ataki na jego osobę ze strony rosyjskiej machiny propagandowej. Autora książki *Od dyktatury do wolności* przedstawia się w artykułach i audycjach publicystycznych kanału „Rossija" czy „Russia Today" jako teoretyka i inspiratora działań skierowanych na dezintegrację ZSRS i krajów z niego powstałych. Jak bowiem wytłumaczyć społeczeństwu (post) sowieckiemu, że ruch obywatelski może mieć charakter spontaniczny i być efektem aspiracji wolnościowych oraz rosnącej świadomości dużych grup społecznych? Przecież wiadomo było do tej pory, że społeczeństwo jest produktem permanentnie poddawanym eksperymentom i zabiegom socjotechnicznym ze strony każdej władzy.

Rosyjski teoretyk systemu sowieckiego, autor obszernej książki *Cywilizacja sowiecka* profesor Siergiej Kara-Murza[3], który jest obiektem admiracji wielu środowisk (również w Polsce) uznających wyższość geopolityki[4] nad obywatelską i narodową podmiotowością, uznaje Gene'a Sharpa za jednego z winnych rozpadu ZSRS, czyli współwinnego „największej geopolitycznej tragedii XX wieku".

[2] Zob.: G. Sharp, *Od dyktatury do demokracji. Drogi wolności*, Warszawa 2013.

[3] S. Kara-Murza jest autorem pomnikowej pracy *Cywilizacja sowiecka* (Moskwa 2008), a także wielu innych książek „demaskujących" spiski przeciw „narodowi sowieckiemu", w tym „kolorowe rewolucje" (oto tytuły jego książek rozchodzących się w wielotysięcznych nakładach: *Antysowiecki projekt*, *Pomarańczowa mina*, *Rewolucja na eksport* i kilka innych).

[4] Słowo geopolityka nie jest nowe w politologii, popularność zawdzięcza brytyjskiemu uczonemu Halfordowi J. Mackinderowi (1861-1947), który empiryczne czynniki analiz z obszaru geografii, demografii, ekonomii wykorzystał do budowania makrokoncepcji politycznych odnoszących się do relacji międzynarodowych. Spuścizna Mackindera padła na podatny grunt w ogołoconym z ideologii komunistycznej środowisku teoretyków polityki w krajach b. ZSRS. Za ważną postać (guru) rosyjskiej „geopolityki" uchodzi Aleksander Dugin ze swoją pracą *Podstawy geopolityki* (Moskwa 1997). Podstawową cechą koncepcji geopolitycznych Dugina wydaje się być brak wiary w systemy aksjologiczne, które mogą determinować ludzkie wybory.

